# ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК

6-7

ДВУХТЫДНЕВАЯ ЧАСОПІСЬ

ОРГАН ЦККП(б)Б

1930

# № 6—7 „ПАРТРАБОТНІКА“:






Менск, друк. БДВ. Заказ № 1671. У ліку 2000 экз. ГалоЎлітбел№ 781

# ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК

Орган ЦК КП(б)Б

№ 6—7 | 15 красавіка 1930 г. | № 6—7

## Баявыя задачы дню

*(Да вынікаў Сакавіковага Пленуму ЦК КП(б)Б)*

Сакавіковы пленум ЦК КП(б)Б разглядзеў два асноўныя пытаньні: аб ходзе колектывізацыі і падрыхтоўцы да вясеньняга севу, і аб выніках выкананьня прамфінпляну бягучага гаспадарчага году. Ня гледзячы на тое, што абодвы пытаньні маюць актуальную важнасьць, найбольшае ажыўленьне было пры абгаварэньні першага пытаньня. Гэта тлумачыцца тым, што ўвесь апошні пэрыод пытаньні колгаснага будаўніцтва паглыналі выключна большую частку ўвагі, можна проста сказаць, што большасьць нашых партыйных арганізацый увесь асеньня-зімовы пэрыод займаліся амаль выключна пытаньнямі колектывізацыі. Гэтым у вядомай ступені тлумачыцца той факт, што ўвага да пытаньняў прамысловасьці, выкананьня промфінпляну паслабла, а на некаторых вучастках прамысловасьці атрымаліся прарывы і недавыкананьня важнейшых колькасных і якасных паказчыкаў.

Пытаньне аб ходзе колектывізацыі стаяла і абгаварвалася на Пленуме пад кутком погляду апошніх дырэктыў ЦК УсеКП(б), аб ліквідацыі памылак і скрыўленьняў партыйнай лініі ў колгасным будаўніцтве. За прайшоўшы пэрыод праведзена вялізарная работа ў галіне колектывізацыі. Не падлягае ніякаму сумненьню, што большасьць партыйных арганізацый павярнуліся „тварам да колектывізацыі“, мабілізавалі ўвагу шырокіх партыйных мас, рабочае клясы і бядняцка-серадняцкіх мас вёскі да асноўных задач па соцыялістычнай рэконструкцыі сельскае гаспадаркі. На пленуме менш усяго гаварылі аб посьпехах колгаснага будаўніцтва, аб карэнных зрухах сярод бядняцка-серадняцкіх мас вёскі. Гэтыя буйныя посьпехі ў колгасным будаўніцтве бяспрэчны. Ужо адзін факт росту колектывізацыі з 3,8% на 1/X-29 году, да 24,1% пасеўнай плошчы (па дадзеных на 1/IV-30 г.) пацьвярджае, што партыйныя арганізацыі ў асноўным правільна ажыцьцяўлялі лінію партыі, ішлі на чале руху батрацкіх і бядняцка-серадняцкіх мас вёскі. Пленум зрабіў зусім правільна, што сканцэнтраваў увагу на памылках і скрыўленьнях партыйнай лініі, якія мелі месца ў колгасным будаўніцтве, накіраваўшы сюды асноўны агонь. Амаль усе выступаўшыя па пытаньні аб ходзе колектывізацыі прыводзілі яскравыя факты, якія сьведчылі аб парушэньні асноўнай лініі—прынцыпу добраахвотнасьці ў колгасным будаўніцтве. Формы парушэньня прынцыпу добраахвотнасьці, адміністраваньня і нажым,—былі вядома самыя розныя, пачынаючы з арышту ў асобных мяйсцох выступаўшых супроць колектывізацыі беднякоў і серадмякоў, і канчаючы пагрозамі па адрасу неколгасьнікаў, пазбаўленьня іх землякарыстаньня. Цяпер знаходзяцца такія таварышы, якія ня супроць шукаць прычыну

і карані памылковых скрыўленьняў партыйнай лініі ў тым, што ЦК і іншыя кіруючыя ворганы, як-бы давалі такую ўстаноўку, не арыентавалі правільна нізавыя партыйныя арганізацыі. Гэта ні ў малейшай ступені не адпавядае сапраўднасьці.

Студзеньскі Пленум ЦК КП(б)Б з усёй рэзкасьцю падкрэсьліваў аб строгім захоўваньні добраахвотнасьці ў колгасным будаўніцтве. ЦК і іншыя кіруючыя ворганы ва ўсіх сваіх дырэктывах па пытаньню аб колгасным будаўніцтве ніразу не абходзілі пытаньне добраахвотнасьці, рашучай барацьбы з адміністраваньнем у колгасным будаўніцтве. Адкуль-жа выходзіць і дзе хаваецца сапраўдная прычына нездаровага „спаборніцтва“, бесталковай пагоні за процантам, што мела мейсца ў практыцы некаторых „колектывізатараў“ і нават асобных арганізацый. Пры чым асобныя з іх нагэтулькі захапіліся, што давалі заведама хлусьлівыя проценты, заняліся очкаўцірацельствам, абманвалі кіруючыя партыйныя ворганы, праяўляючы праступную бесклапотнасьць у адносінах правядзеньня дырэктыў партыі, і ажыцьцяўленьня правільнай палітычнай лініі.

Не падлягае ніякаму сумненьню, што галоўныя памылкі і скрыўленьні былі ў тым, што некаторыя таварышы адступілі ад прынцыповай устаноўкі партыі, простых паказаньняў У. І. Леніна ў сялянскім пытаньні цалкам, і ў пытаньні аб узаемаадносінах з серадняком—у прыватнасьці. Посьпехі колектывізацыі камунікаму ўскружылі галаву, некаторыя таварышы перасталі разумець сапраўднае становішча рэчаў, бязутрымна імчаліся наперад, не замацоўваючы за сабою заваёваных позыцый. Некаторыя „колектывізатары“ зусім забылі, што работа па колектывізацыі працякае ў абставінах найвастрэйшай клясавай барацьбы, што рашучае наступленьне на капіталістычныя элемэнты, ліквідацыя кулацтва як клясы ў раёнах суцэльнай колектывізацыі, рабочая кляса праводзіць разам з беднатою ў цесным саюзе з серадняком, паміж тым, у практыцы работы некаторых „колектывізатараў“, нават некаторых асобных організацый, былі дапушчаны грубыя скажэньні партыйнай лініі ў адносінах да серадняка. Таксама мелі на практыцы мейсца, факты раскулачваньня сераднякоў, пазбаўленьня іх выбарчых правоў і інш. недапушчальныя перагібы ў адносінах да серадняка. Асноўнае, што адзначае бягучы этап соцыялістычнага будаўніцтва, гэта тое, што серадняк сваёю масаю пайшоў у колгасы. Але адсюль нельга зрабіць выніку аб тым, што на цяжкіх этапах некаторая частка сераднякоў ня будзе хістацца, што гэтыя хістаньні могуць быць большымі ці меншымі ў залежнасьці ад таго, наколькі правільна мясцовыя арганізацыі ажыцьцяўляюць палітычную лінію ў адносінах да сярэдняга сялянсгва.

Вядома, памылкі і скрыўленьні партыйнай лініі, якія мелі мейсца ў колгасным будаўніцтве, не маглі прайсьці бясьсьледна. Яны ўзмацнілі хістаньні некаторай часткі серадняцтва, гэтыя хістаньні знайшлі сваё простае выражэньне ў некаторым адліве з колгасаў, галоўным чынам сераднякоў. А галавацяпы і „гора колектывізатары“ разявіўшы рот, дзівяцца і ніяк ня могуць зразумець, хутчэй ня хочуць зразумець сапраўднай прычыны, выхадаў некаторай часткі сераднякоў з колгасаў, шукаюць прычыну дзесьці ўне, не разумеючы таго простага палажэньня, што прычыну трэба шукаць у скрыўленьні лініі партыі. Рашэньне Шклоўскага Райкому па пытаньню аб ліквідацыі памылак і скрыўленьні ў колгасным будаўніцтве найбольш паказальны ў гэтых адносінах. Гэта райком замест таго, каб па бальшавіцкі падыйсьці да ацэнкі сваіх памылак і скажэньняў, замест суровага асуджэньня ўсіх тых, якія парушалі лінію партыі, стаў на няправільны, анцібальшавіцкі шлях рэвізіі палітычнай лініі партыі, выкладзенай ў арт. т. Сталіна „Головокружение от успехов“. Зразумела, што такі Райком ня можа выпраўляць памылкі, вясьці барацьбу з скрыўленьнямі, мобілізаваць партыйныя масы на замацаваньне і дальнейшае разгортваньне колгаснага будаўніцтва. Таму, Пленум ЦК поўнасьцю адобрыў рашэньне бюро ЦК аб роспуску Шклоўскага Райкому і прызнаў неабходным самым рашучым чынам вясьці барацьбу з тымі, хто ня хоча прызнаваць памылак, якія правільную ленінскую

лінію партыі ў колгасным будаўніцтве разглядалі як „адступленьне“, а сваё скрыўленьні партыйнай лініі, грубае адміністраваньне і нажым, анцісераднядкую палітыку, лічаць „наступам“.

Трэба сказаць, што побач з правільнымі адносінамі да дырэктыў ЦК УсеКП(б) аб выпраўленьні памылак і скрыўленьняў партыйнай лініі ў рабоце па колектывізацыі, з боку асноўнай масы партыйных організацый, маюцца некаторыя асобныя комуністы, якія ўпіраюцца, ня могуць ніяк, а ў некаторых выпадках ня хочуць зразумець дырэктыў партыі, выяўляючы ашаломленасьць і зусім недастойнае бальшавіка маладушша. Як гэта так, разважаюць яны,—„мы прыдзем ў вёску і скажам, што нарабілі кучу памылак і скрыўлялі лінію партыі, гэта-ж падарве наш аўтарытэт“. Такія настроі павінны атрымаць самы рашучы адпор з боку ўсёй партыйнай арганізацыі. Моц нашай партыі іменна ў тым, каб сьмела і рашуча выпраўляць памылкі ў тым, каб глядзець, дзе, якія памылкі дапушчаны і перамагаць іх.

Пленум ЦК КП(б)Б з усёй катэгарычнасьцю патрабаваў ад усіх партарганізацый і камуністаў, што праводзяць работу па колектывізацыі, безадкладна выправіць памылкі і выпрастаць лінію там, дзе яна была скрыўлена, разглядаючы гэта, як неабходную ўмову для замацаваньня колгаснага будаўніцтва і далейшага яго магутнага разьвіцьця. Чым хутчэй і рашучай будуць выпраўлены памылкі, тым менш будзе хістаньняў, тым менш выхадаў з колгасаў, тым больш новы прыліў бядняцка-серадняцкіх мас у колгасы. Усялякія панікёрскія, упадніцкія настроі, усялякія хістаньні ў правільнасьці лініі партыі, павінны перамагацца з усёй сілай бальшавіцкай рашучасьці.

Памылкі і скрыўленьні партыйнай лініі ў колгасным будаўніцтве, падкормліваюць і падбадзёрваюць праваопортуністычныя элемэнты ў нашай партыі, якія скарыстоўваюць гэтыя памылкі і ўзьнікшыя ў сувязі з гэтым некаторыя цяжкасьці ў сваіх мэтах, у мэтах барацьбы і новых атак супроць генэральнай лініі партыі. Яны крычаць на ўсіх перакрыжах аб развале колгасаў, аб тым, што яны былі правы, калі выступалі супроць шпаркіх тэмпаў колгаснага будаўніцтва, больш усіх крычаць аб „адступленьні“, „павароце назад“ і г. д. З другога боку „левыя“ опортуністы, прыкрываючыся левымі фразамі і надуманай рэвалюцыйнасьцю, гнуць ранейшую антысераднядкую лінію, адміністрыруюць ва ўсю. Наша асноўная задача зьмяшчаецца ў тым, каб даць няшчадны адпор правым ухілістым і левым опортуністым, рашуча выкрыць і перамагчы ўсякія опортуністычныя хістаньні, з усёю сілаю выкарчоўваць апортуністычную практыку, якая мела мейсца на асобных вучастках колгаснага будаўніцтва. Партыя давала і будзе даваць самы няшчадны адпор усякім спробам вольнага тлумачэньня прынцыпу добраахвотнасьці ў колгасным будаўніцтве, усялякім імкненьням праваопортуністычных элемэнтаў, працягнуць небальшавіцкую тэорыю „самацёку“ ў колгасы, у аснове якой ляжыць імкненьне правых ухілістых да згортваньня колгаснага будаўніцтва. Партыя і надалей будзе неаслабна праводзіць лінію на шырокае ўцягненьне бядняцка-серадняцкіх мас у колгасы, строга захоўваючы прынцып добраахвотнасьці, будзе з усёй сілаю выкрываць і перамагаць усякія опортуністычныя спробы, накіраваныя да паслабленьня тэмпу і затармажэньню колгаснага будаўніцтва.

Рашэньне ЦК УсеКП(б) аб падатковых ільготах, крэдытаваньні, аплаце працы калгасьнікаў за работу па-за калгасу, а таксама артыкул тав. Сталіна „Адказ тав. колгасьнікам“ павінны быць шырока прапрацаваны ва ўсіх партарганізацыях, шырока растлумачаны сярод калгасьнікаў і шырокіх бядняцка-серадняцкіх мас сялянства.

Гэтыя рашэньні і зьяўляюцца практычным ажыцьцяўленьнем агульнае палітыкі партыі на аказаньне ўсямернай дзяржаўнай дапамогі колгасам.

Пленум ЦК рубам паставіў пытаньне адносна работы сярод беднаты і батрацтва. Прыходзіцца канстатаваць, што дырэктывы партыі, адносна ўзмацненьня масавай работы сярод беднаты і батрацтва выконваюцца з прахладцам. Батрацка-бядняцкія групы ў большасьці колгасаў яшчэ не арганізаваны, а там дзе ёсьць—амаль

зусім не працуюць і ў агульным ня сталі яшчэ апораю партыі ў справе ўнутранага ўзмацненьня колгасаў. Такое становішча гаворыць аб простай недаацэнцы работы з беднатою з боку шэрагу вясковых партарганізацый. Замест сур'ёзнай упартай работы з батрацка-бядняцкім актывам, у шэрагу выпадкаў яшчэ займаюцца агульнымі размовамі, і да разьвязаньня гэтай задачы яшчэ не падыйшлі, гэта буйнейшая памылка павінна неадкладна выправіцца на мяйсцох. Неабходна з падвоенай энэргіяй узяцца за работу з беднатою, за арганізацыю батрацка-бядняцкіх груп у колгасах, за справу мобілізацыі батрацка-бядняцкага актыву навокал арганізацыйна - гаспадарчых мерапрыемстваў па ўзмацненьню колгасаў. Батрацка-бядняцкія групы павінны стаць сапраўднай апорай партыі ў колгасным будаўніцтве, павінны быць мобілізаваны на барацьбу і перамогу рознага роду нездаровых спажывецкіх настрояў, якія досыць моцны ў сучасны момант у цэлым шэрагу колгасаў.

У рабоце па падрыхтоўцы да вясеньняга севу маецца шмат буйнейшых недахопаў. У першую чаргу зусім нездавальняюча становішча ў галіне земляўпарадкаваньня. Цэлы шэраг колгасаў яшчэ не земляўпарадкаваны, а яшчэ горшае становішча ў галіне земляўпарадкаваньня неколгасьнікаў. У гэтым пытаньні на мяйсцох дзе-ні-дзе наблыталі ня мала. Так, Магілеўскі Акругком чамусьці парашыў на 25 проц. скараціць землякарыстаньне адзіналічнікаў беднякоў і серадняков, а Гомельскі АКРЗА прыдумаў максымальную норму ня звыш 5 *га* для неколгасьнікаў. У той час, калі партыя дала яскравыя дырэктывы аб забясьпечаньні фактычнага землякарыстаньня для адзіналічных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, на мяйсцох, дзе-ні-дзе мудрагельствуюць і не праводзяць простых паказаньняў ЦК у жыцьцё. Ня зусім добра таксама абстаіць справа і ў галіне распрацоўкі вытворчых плянаў, арганізацыі працы ў колгасах. Ня гледзячы на рашаючую важнасьць гэтых пытаньняў, яшчэ да гэтага часу марудзяць, у той час, калі сеў ужо, што называецца, „на носе". Яшчэ горшае становішча справы ў адносінах падрыхтоўкі адзіналічнікаў да вясеньняга севу. Тут мае месца простая недаацэнка значэньня індывідуальнага сэктару і таварнай прадукцыі сельскай гаспадаркі. Да апошняга часу мясцовыя арганізацыі амаль зусім не ўдзялялі ніякай увагі падрыхтоўцы адзіналічнікаў да вясеньняга севу. А гэтыя абставіны кулак імкнецца скарыстаць усімі мерамі. Кулак вядзе ярасную варожую агітацыю супроць правядзеньня мерапрыёмстваў вясеньняй пасеўнай кампаніі, за скарачэньне пасеву. Кулак скарыстоўвае памылкі і скрыўленьні ў колгасным будаўніцтве ў мэтах дыскрэдытацыі колгаснага руху, агітуе за выхады з колгасаў, за зрыў вясеньняга севу. Партыя і бядняцка-серадняцкія масы вёскі нанесьлі рашучы ўдар па кулацтву, цьвёрда і рашуча праводзяць палітыку ліквідацыі кулацтва як клясы у раёнах суцэльнай колектывізацыі. Гэта вядома не азначае, што кулак ужо ліквідован, як кляса. Між тым хто-ніхто з найбольш ап'янёных посьпехамі колектывізацыі галавацяпаў, уявілі, што кулака ўжо няма, што клясавая барацьба ідзе на ўбыль, што ў вёсцы ўжо наступіў „клясавы мір", што ўжо няма з кім змагацца.

Такія настроі, такое неразуменьне сучасных абставін у вёсцы прадстаўляе сабою ні што іншае, як самае небясьпечнае і шкоднае праяўленьне правага ўхілу, з такімі настроямі неабходна праводзіць самую бязьлітасную барацьбу. Падрыхтоўка да севу, работа па колектывізацыі праходзіць у абставінах самага жорсткага супраціўленьня барацьбы кулацтва. У такі пэрыод неабходна з усёй сілаю мобілізаваць батрацкія і бядняцка-серадняцкія масы, а не ўсыпляць чуласьць і не аслабляць волю бядняцка-серадняцкіх мас да барацьбы і перамогі кулацкага супраціўленьня. Да севу асталіся літаральна дні, чакаць нельга ні хвіліны, усе сілы партарганізацыі, рабочае клясы, батрацка-бядняцка-серадняцкіх мас вёскі павінны быць мобілізаваны на выпраўленьне недахопаў і падрыхтоўку да пасеву.

Ня толькі калгасы, але і ўся маса адзіналічнікаў, беднякоў і серадняков, павінны сустрэць сеў у поўнай падрыхтаванасьці. Ні адзін гэктар колгаснага яравога поля не павінен застацца незасе-

яным. Заданьне па пашырэньню яравога кліну павінна быць выканана ў што-б-то ні стала як у колгасах і саўгасах, так і ў індывідуальным сэктары. Пасьпяховае правядзеньне вясеньняй пасеўнай кампаніі зьяўляецца выходным пунктам усёй работы па колектывізацыі ўсёй зімовай работы. Усе сілы партыі павінны быць мабілізаваны на тое, каб вясеньняя пасеўная кампанія прайшла як сапраўды бальшавіцкая пасеўная кампанія.

Пасьпешнае выкананьне другога году пяцёхгодкі мае рашаючае значэньне для ўсяго нашага соцыялістычнага будаўніцтва. Вынікі выкананьня першага году пяцёхгодкі паказалі рэальнасьць і жыцьцёвасьць нашых гаспадарчых плянаў, рэальную магчымасьць выкананьня пяцёхгодкі ў чатыры гады. Пры наліччы шэрагу дасягненьняў у галіне выкананьня промфінпляну бягучага гаспадарчага году, шэраг прадпрыемстваў нашай рэспубліканскай прамысловасьці даюць невыкананьне промфінпляну і асноўных паказальнікаў. За мінулыя 5 месяцаў па рэспубліканскай прамысловасьці недавыканана 7,4 проц. пляна, а па зьніжэньню сабекаштоўнасьці наша прамысловасьць таксама дае недавыкананьне прыкладна на 5 проц. за першыя 4 месяцы бягучага гаспадарчага году. Гэтае недавыкананьне промфінпляну прадстаўляе пагрозу, калі ня будуць прыняты самыя энэргічныя меры, калі ня будуць рашуча зжыты недахопы і тармазы, якія шкодзяць рабоце нашай прамысловасьці. Ніякія спасылкі на „аб'ектыўныя“ прычыны ня могуць апраўдаць гэтага невыкананьня промфінпляну. Гэтыя „об'ектыўныя“ прычыны не зьяўляюцца сапраўднай прычынай тых прарываў, якія мелі мейсца на некаторых прадпрыемствах. Не падлягае сумненьню, што асноўныя прычыны невыкананьня хаваюцца ў цэлым шэрагу дэфэктаў і недахопаў у кіраўніцтве гаспадарчых, прэфэсыянальных і партыйных арганізацый на прадпрыемствах. Дырэктывы ЦК УсеКП(б) аб адзінаначальлі выкананы пакуль што вельмі недастаткова, рэарганізацыя прамысловасьці яшчэ не даведзена да канца, на шэрагу нашых прадпрыемстваў пераход на семігадзінны рабочы дзень і на бесьперапынку, ня быў у дастатковай меры падрыхтаваны, дзе-ні-дзе атрымаліся прарывы, няўвязкі і ў выніку невыкананьне прамфінпляну. Вялізарнейшая актыўнасьць рабочай клясы, якая знайшла сваё выяўленьне ў соцыялістычным спаборніцтве, у шырокім разьвіцьці ўдарніцтва, зачастую не арганізуецца і не накіроўваецца профарганізацыямі на разьвязаньне задач соцыялістычнага будаўніцтва. Замест замацаваньня ўдарніцтва, профарганізацыі праяўляюць фармальна бюрократычныя адносіны да гэтай важнейшай справы, гоняцца за колькасьцю, зусім не клапоцяцца адносна якаснага замацаваньня ўдарных брыгад, яны забываюць, што ўдарніцтва накладвае цэлы шэраг абавязкаў і задач.

У галіне партыйнага кіраўніцтва гаспадарчай работай на прадпрыёмствах, таксама маюцца некаторыя недахопы. Перш за ўсё партарганізацыі яшчэ не дабіліся рашучага павароту з боку ўсіх комуністаў на вытворчасьці „тварам да вытворчасьці“. Яшчэ значная частка комуністаў ня ўступілі ва ўдарныя брыгады. Не заўсёды і не ва ўсіх выпадках комуністы зьяўляюцца застрэльшчыкамі, ініцыятарамі ў галіне соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва, не заўсёды даюць прыклад працоўнай дысцыпліны і прыкладных адносін да працы. Такое становішча зусім нецярпіма ў далейшым. Лёзунг партыі аб тым, што кожны комуністы павінен быць ударнікам, павінен быць у першых шэрагах рабочае клясы, павінен быць ажыцьцяўлён на ўсе 100 проц. Неабходна разгарнуць самую глыбокую сыстэматычную работу з рабочым актывам, праводзіць рашучую барацьбу з усялякага роду адсталымі настроямі з боку асобных груп рабочых, якія сваімі недобрасумленнымі, непролетарскімі адносінамі на вытворчасьці прыносяць найвялікшы ўшчэрб, а іншы раз зводзяць на няма-нішто ўсе патугі здаровай і сьвядомай часткі рабочага колектыву. Неабходна шырока мобілізаваць інжынэрна-тэхнічны пэрсанал, яго лепшую перадавую частку, накіраваць яго актыўнасьць на выкананьне задач, якія стаяць перад прамысловасьцю, на правядзеньне рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў, на разьвіцьцё і ўсямерную дапамогу рабочаму вынаходніцтву, на

арганізацыю ўдарнай работы тэхнічных кадраў.

Сакавік месяц даў некаторы перадом па шэрагу прадпрыемстваў, але яшчэ далёка недастатковы, гэты пералом яшчэ не замацован і ў сучасны момант яшчэ няма поўнай гарантыі ў тым, што ня будзем мець далейшых хістаньняў уніз, што бліжэйшыя месяцы перакрыюць недавыкананьні першых 5-ці месяцаў.

Трэба энэргічна працаваць над далейшай мобілізацыяй шырокіх рабочых мас навокал выкананьня промфінпляну, неабходна як хутчэй пазбавіцца ад усіх недахопаў у гаспадарчым, партыйным і профэсыйным кіраўніцтве. Неабходна дабіцца рашучага пералому на тых прадпрыемствах, дзе яго яшчэ няма, замацавацца там, дзе ён ужо маецца, яшчэ і яшчэ мобілізаваць рабочую актыўнасьць навокал выкананьня асноўных паказьнікаў промфінпляну—такая другая баявая задача сёньнешняга дню.

В. Гантман.

---

**„Толькі ў тым выпадку, калі ўдасца на справе паказаць сялянам пераваrу грамадзкай, колектыўнай, таварыскай, арцельнай апрацоўкі зямлі, толькі калі ўдасца дапамагчы селяніну пры дапамозе таварыскай, арцельнай гаспадаркі, тагды толькі рабочая кляса, якая трымае ў сваіх руках дзяржаўную ўладу, сапраўды пакажа селяніну сваю правату, сапраўды прыцягне на свой бок моцна і сапраўдным чынам шматмільённую сялянскую масу. Пагэтаму значэньне ўсякага роду прадпрыемстваў па садзейнічаньню таварыскаму, арцельнаму земляробству нельга пераўвялічваць. Мы маем мільёны раскіданых, распыленых у глушы вёсак паасобных гаспадарак... Толькі калі практычна на вопыце, блізкім для сялян, будзе даведзена, што пераход да таварыскага, арцельнага земляробства неабходны і магчымы, толькі тады мы ў праве будзем сказаць, што ў такой вялізарнай сялянскай краіне, як Расія, па шляху соцыялістычнага земляробства зроблен сур'ёзны крок“.**

**Ленін. (Том 16, стар. 392).**

# ПАРТЫЙНАЯ РАБОТА НА ВЁСЦЫ

Танхілевіч.

## Аб перабудове працы вясковых парторганізацый

*„Мы павінны ўтварыць такую вясковую партыйную организацыю, якая была-б здольна кіраваць вялізарнейшым рухам колектывізацыі, арганізоўваць беднату і батрацтва ў іх барацьбе з кулаком...“*

*(КАГАНОВІЧ)*

На падставе генэральнай лініі партыі ў нас разгарнуўся вялізарны тэмп колектывізацыі. Бедната, серадняцтва пайшлі ў калгасы. На вёсцы праходзіць рашучая ломка старых адносін, ствараецца новая організацыя сельска-гаспадарчай вытворчасьці, працы. Ліквідацыя кулацтва як клясы на базе суцэльнай калектывізацыі, уцягненьне батрацтва ў калгасы і тое, што ў калгасы пайшлі масы беднаты і серадняцтва, спрыяла зьменам абставін у працы парторганізацыі. У сваёй далейшай працы парторганізацыі павінны ўлічыць перагрупіроўку клясавых сіл на вёсцы. Трэба ўлічыць, што з аднаго боку мы маем замацаваньне позыцый дыктатуры пролетарыяту на вёсцы, значнае ўзмацненьне апоры пролетарыяту на вёсцы. З другога боку, мы маем і будзем мець абвостраную клясавую барацьбу на вёсцы. Хаця кулак у нас у асноўным пазбаўлен сродкаў вытворчасьці і эксплёатацыі, ён усё-ж будзе змагацца за тое, каб вярнуць сабе тое, што ў яго забралі. Вострая барацьба будзе ісьці навокал пытаньняў замацаваньня існуючых калгасаў і далейшага будаўніцтва новых калгасаў.

Клясавая барацьба пасьля раскулачваньня кулакоў ня спыняецца, клясавая барацьба пасьля экспропрыяцыі кулацтва зусім яшчэ не канчаецца. Было-б найгрубейшай права-апортуністычнай памылкай адмаўляцца, „ня бачыць“ ці замазваць вострую клясавую барацьбу на вёсцы і праявы яе ўнутры калгасаў. Перад вясковымі парторганізацыямі стаіць ва ўсёй сваёй шырыні задача далейшай мобілізацыі батрацка-бядняцка-серадняцкіх мас супроць усіх вылазак клясавага ворага, супроць усіх замахаў, усіх спроб клясавага ворага разбурыць калгасы ці затрымаць іх рост. Парторганізацыі павінны ўзмацніць клясавую чуйнасьць і забясьпечыць правядзеньне чоткай пролетарскай лініі ва ўсёй працы парторганізацыі, савецкіх, гаспадарчых і культурных установаў.

Уся барацьба за ўмацаваньне калгасаў, як соцыялістычных прадпрыемстваў, будзе мець клясавы характар. Унутры калгасаў пытаньне барацьбы з рвацкімі настроямі, за падвышэньне вытворчасьці працы, ураджайнасьці, таварнасьці, за здачу ўладзе таварнай прадукцыі, будзе насіць клясавы характар. Мы таксама павінны ўлічыць, што навокал пытаньня колектывізацыі, барацьба прыняла больш жорсткі характар і мае яскрава выра-

жаны баявы характар. Клясавы вораг будзе і далей травіць скаціну, падпальваць будынкі жыльлёвыя і гаспадарчыя і нарэшце забіваць нашых актывістых. Вышэйсказанае павінна нас яшчэ раз пераканаць, што вясковыя партыйныя організацыі павінны так пабудаваць сваю працу, каб яны мелі магчымасьць даць рашучы адпор усім вылазкам клясавага ворага. Вясковыя партарганізацыі павінны дакладна вывучаць усе формы і праявы клясавай барацьбы, сваечасова ўскрываць клясавую сутнасьць выступленьняў супроць калгасаў, клясавую сутнасьць тых працэсаў, якія мы маем на вёсцы.

Важнейшай задачай усіх вясковых парторганізацый зьяўляецца: забясьпечаньне пролетарскага кіраўніцтва замацаваньнем існуючых калгасаў і організацыя новых калгасаў і правядзеньне веснавой пасеўнай кампаніі.

Для таго, каб гэта зрабіць, вясковыя парторганізацыі павінны ўзмацніць клясавае выхаваньне і політычную актыўнасьць і згуртаванасьць батрацка-бядняцкіх мас. Трэба скончыць з самай шкоднай праявай опортунізму—з недаацэнкай працы сярод батрацтва і беднаты. Трэба, яшчэ, і яшчэ раз прапрацаваць у парторганізацыях установку партыі па працы сярод беднаты. Трэба арганізаваць групы беднаты ва ўсіх калгасах, сельсаветах, коопэратыўных організацыях, пры камітэтах узаемадапамогі.

Каб забясьпечыць партыйнае кіраўніцтва гэтымі групамі, неабходна прымацаваць да кожнай групы партыйцаў, а калі яго няма, дык камсамольца, прысланага рабочага, або нарэшце мясцовага беспартыйнага актывіста, які даказаў сваю адданасьць соцыялістычнаму будаўніцтву ў барацьбе з кулацтвам, у барацьбе за калгасы. Ячэйкі павінны сыстэматычна азнаёмлівацца з працай груп беднаты, ня меньш аднаго разу ў месяц заслухоўваць даклады аб становішчы і работы груп беднаты. У працы раённага партыйнага камітэту праца з беднатой павінна знайсьці сваё выражэньне ў сыстэматычным кантролю, ці працуюць усе групы беднаты і як яны працуюць. Трэба часьцей практыкаваць нарады конфэрэнцыі, зьлёты груп беднаты ў раённым ці кустэвым маштабе. Раённыя Камітэты партыі павінны не радзей аднаго разу ў 3 месяцы рабіць глыбокую праверку, як працуюць групы беднаты, як выконваецца дырэктыва партыі і Савецкай Улады па рабоце груп беднаты і як Райвыканком, Калгассаюз, Коопэратыўныя організацыі і г. д. па сваёй лініі паставілі працу з беднатой і яе абслугоўваньнем. Даклады аб становішчы і працы асобных груп беднаты трэба ставіць сыстэматычна на паседжаньнях райкому партыі з такім разьлікам, каб на кожным чарговым паседжаньні райкому партыі стаяў даклад аднэй з груп беднаты. Можна рэкамэндаваць, у выглядзе вопыту, выдзяленьне райкомамі партыі адказнага таварыша, які па даручэньню РК кіраваў-бы працай груп беднаты.

Узмацняючы організаванасьць, згуртаванасьць, клясавую сьвядомасьць і політычную актыўнасьць батрацтва і беднаты, мы тым самым здолеем выканаць адну з важнейшых задач парторганізацыі на вёсцы—задачу паператварэньню батрацка-бядняцкіх груп у зброю пролетарскага кіраўніцтва існуючымі калгасамі, у зброю барацьбы за далейшае пасьпяховае калгаснае будаўніцтва.

Да веснавой пасеўнай кампаніі мы будзем мець каля 40 проц. індывідуальных гаспадарак, аб'яднаных у калгасы, пры чым 20 проц. аб'яднаных у калгасы гаспадарак будуць аўладаць 15 проц. усёй годнай для апрацоўкі зямлі—г. зн., што соцыялістычны сэктар сельскае гаспадаркі ўжо будзе адыгрываць большую ролю ва ўсёй сельскай гаспадарцы Беларусі. Гэта значна павышае адказнасьць раённых вясковых організацый усіх партыйных ячэек на вёсцы за эканамічную эфэктыўнасьць, за гаспадарчыя і політычныя вынікі працы соцыялістычнага сэктару сельскае гаспадаркі. Пагэтаму *цэнтральнай задачай пры перабудове работы вясковых організацый павінна быць організацыя сыстэматычнага кіраўніцтва соцыялістычным сэктарам сельскае гаспадаркі, калгасамі і саўгасамі. Пытаньне організацыі вытворчасьці труда, культурнага абслугоўваньня калгасаў павінны стаяць у цэнтры ўвагі ўсіх вясковых партыйных організацый, усіх партыйных ячэек на вёсцы і работы раённага партыйнага кіраўніцтва.*

Трэба ажыцьцявіць паварот вясковай організацыі тварам да кіраўніцтва вытворчасьцю ў калгасах. Пытаньне аб канцэнтрацыі ўвагі вясковых партыйных організацый для забясьпечаньня правільнага кіраўніцтва калгасамі стаіць востра яшчэ і таму, што існуючая практыка работы вясковых парторганізацый сьвед-

чыць аб тым, што яны яўна недастаткова кіравалі і кіруюць тымі калгасамі і саўгасамі, якія ўжо даўно існуюць у раёнах, між іншым і гэта зьяўляецца аднэй з сур'ёзных прычын тых прарываў у галіне калектывізацыі, якія мы зараз маем.

Паварот вясковых парторганізацый тварам да кіраўніцтва вытворчасьцю калгасаў павінен знайсьці свой выраз у наступным:

> Ячэйкі, РК партыі павінны прапрацоўваць організацыйна-вытворчыя пляны калгасаў, куставых аб'яднаньняў калгасаў і Райкалгассаюзаў і агроіндустрыяльных камбінатаў, але гэтага мала, трэба, каб парторганізацыі прапрацоўвалі і кіравалі правядзеньнем гэтых плянаў у жыцьцё. Для выкананьня гэтага неабходна, каб партыйныя організацыі правяралі як ідзе падрыхтоўка выкананьня пляну і як ідзе выкананьне самага пляну ў працэсе яго выкананьня. Трэба, каб парторганізацыі прапрацоўвалі асобныя найбольш важныя элемэнты гэтых плянаў, напрыклад, організацыя труда, як калгасы скарыстоўваюць жывёлу, зямлю, як ідзе выкананьне агрономічных мерапрыемстваў, становішча працдысцыпліны, як ідзе соцыялістычнае спаборніцтва. Партыйныя камітэты павінны організаваць сыстэматычнае вывучэньне становішча калгасаў. Аднэй з асноўных і галоўнейшых задач партыйных організацый зьяўляецца: мобілізацыя калгаскіх мас навакол пытаньняў правядзеньня пасеўнай кампаніі, павялічэньня недзялімага капіталу, соцыялістычнага накапленьня, вытворчасьці працы, ураджайнасьці і таварнасьці. Перад парторганізацыяй таксама стаіць задача кіраўніцтва культурным абслугоўваньнем калгасьнікаў і разгортваньне масава-політычнай выхаваўчай работы і вучобы. Організацыйнымі формамі ўдзелу мас у працы па выкананьню заданьняў у калгасе зьяўляецца соцыялістычнае спаборніцтва і ўдарныя брыгады.

На разгортваньне гэтых відаў удзелу мас у працы калгасаў трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу. Парторганізацыі павінны забясьпечыць разгортваньне пролетарскай самакрытыкі ў калгасах, забясьпечыць унутры-калгасную дэмократыю, рашуча змагаючыся з усялякімі спробамі казённага адміністраваньня і ігнараваньня ўдзелу мас пры вырашэньні ўсіх асноўных пытаньняў калгаснага жыцьця. Аднэй з асноўных умоў правільнай пастаноўкі работы калгаснай ячэйкі зьяўляецца паказальная работа камуністаў на вытворчасьці калгасу. Камуніст павінен быць прыкладным калгасьнікам,—вось за што павінны змагацца ячэйкі калгасаў. Аднэй з задач партыйнай організацыі зьяўляецца *падрыхтоўка* ператварэньня сельска-гаспадарчай арцелі ў вышэйшую форму калгаса-камуну. *Пры вырашэньні гэтай задачы парторганізацыі павінны кіравацца апошняй дырэктывай ЦК аб тым, што цэнтральным зьвяном у сучасны момант зьяўляецца сельска-гаспадарчая арцель на падставе апошняга статуту.* Вось таму трэба рашуча працівапаставіць усялякім спробам дэкратаваць камуны, усялікім спробам пераходу на вышэйшую ступень, да таго, як ніжэйшая ступень—сельска-гаспадарчая арцель ня будзе дастаткова замацавана і маса калгасьнікаў ня будзе гатова да ўздыму на вышэйшую ступень калгасу,—камуну. Перад партыйнымі організацыямі стаіць важнейшая задача па перавыхаваньню ўчарашніх індывідуальных гаспадарнікаў,—іх дробна-буржуазная ідэолёгія павінна быць ператворана ўпартай выхаваўчай працай парторганізацый.

Зьвярнуўшы асноўную ўвагу на замацаваньне існуючых калгасаў, на пытаньне організацыі вытворчасьці ўжо існуючых калгасаў, нашыя парторганізацыі павінны весьці „ўпартую барацьбу за ўцягненьне сялянства ў калгасы на падставе добраахвотнасьці і замацаваньня існуючых калгасаў“ (з цыркуляру ЦК УсеКП(б).

Важнейшай задачай партарганізацый зьяўляецца хутчэйшая ліквідацыя ўсіх перагібаў і скрыўленьняў лініі партыі пры правядзеньні масавай колектывізацыі. Парторганізацыі павінны даць моцны адпор усім тым апортуністым, якія пытаюцца правідловую дырэктыву ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б тлумачыць, як адступленьне, як сыгнал для згортваньня існуючых калгасаў і далейшай барацьбы за колектывізацыю. Артыкул тав. Сталіна, апошнія дырэктывы ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб колектывізацыі павінны быць так прапрацаваны кожным камуністым, кожнай ячэйкай, каб усім зразумела была сутнасьць лініі партыі па пытаньнях колектывізацыі і барацьбы як з правымі, так і „левымі“ опортуністымі, якія перашкаджаюць, тармазяць колектывізацыю.

Зжываючы перагібы і зьнішчаючы парушэньне прынцыпу добраахвотнасьці пры ўступленьні ў калгас, парторганіза-

цыі павінны ўпарта вясьці масавую працу за далейшае ўцягненьне беднякоў, батракоў і серадняксў у калгасы. Парторганізацыі таксама павінны вясьці ўпартую барацьбу з тымі, якія вядуць сьвядомую барацьбу супроць калгасаў, з усімі клясавымі ворагамі, пад якой-бы маскай яны ні выступалі.

Зьвярнуўшы асноўную ўвагу на абслугоўваньне патрэб соцыялістычнага сэктару сельскай гаспадаркі, сельскія вясковыя парторганізацыі павінны ў сваёй далейшай працы ўлічыць неабходнасьць абслугоўваньня індывідуальных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. Будзе грубейшай палітычнай памылкай апортуністычнага характару ўсялякае ігнараваньне абслугоўваньня індывідуальных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. Саюз з серадняком на падставе суцэльнай калектывізацыі і ліквідацыі кулацтва як клясы—павінен быць узмоцнен. Вясковыя парторганізацыі павінны дапамагаць індывідуальным бядняцка-серадняцкім гаспадаркам пашыраць пасяўную плошчу, павышаць таварнасьць, ураджайнасьць і г. д. Для таго, каб праца па абслугоўваньню індывідуальных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак была зьвязана з працай па ўцягненьню гэтых гаспадарак у калгасы, неабходна разгортваць коопэратыўныя формы ніжэйшага тыпу, напрыклад, сельска-гаспадарчая коопэрацыя, т-ва па сумеснай апрацоўцы зямлі. Гэтыя організацыі дапамогуць нам палітычна, гаспадарча і організацыйна ахапіць гэтыя індывідуальныя бядняцка-серадняцкія гаспадаркі і кіраваць імі. Толькі кулак зацікаўлен у тым, каб мы ігнаравалі бядняцка-серадняцкі сэктар, толькі тады, калі мы будзем працаваць сярод беднякоў і серадняков, якія яшчэ не ўвайшлі ў калгасы, мы будзем з імі моцна зьвязаны і мы здолеем уцягнуць іх у калгасы.

Для таго, каб пасьпяхова вырашыць тыя задачы, аб якіх мы гаварылі вышэй, для таго, каб пасьпяхова вырашыць задачы палітычнага кіраўніцтва, як калгасьнікамі, так і індывідуальнымі гаспадарамі беднякамі, серадняками, для таго каб забясьпечыць чоткую пролетарскую лінію ва ўсёй нашай працы на вёсцы і каб нанесьці руйнуючы адпор усім кулацкім вылазкам супроць колектывізацыі, супроць мерапрыемстваў савецкай улады, нам трэба значна замацаваць, колькасна і якасна павялічыць нашу вясковую партыйную організацыю. Колькаснае, якаснае і організацыйнае становішча нашай партыйнай організацыі, нельга прызнаць здавальняючым. Для таго каб палепшыць і якаснае, і колькаснае, і організацыйнае становішча нашай парторганізацыі, трэба працягваць узмацняць нашу вясковую парторганізацыю рабочымі з прадпрыемств і вопытнымі працаўнікамі з акруговых і цэнтральных устаноў.

Але-ж гэта не галоўнае мерапрыемства па замацаваньню нашых вясковых парторганізацый. Нам трэба колькаснае павялічэньне вясковых партыйных організацый за лік больш інтэнсыўнай вярбоўкі ў партыю батракоў і беднякоў, якія сваёй адданай барацьбой з кулацтвам, адданай барацьбой за замацаваньне калгасаў у сучасны момант даказалі сваю адданасьць соцыялістычнаму будаўніцтву.

> Як вынік жорсткіх клясавых боек за калгасы выявіўся значны кадр калгасьнікаў (сярод іх ёсьць і серадзякі), якія ўвесь час біліся супроць кулацкіх вылазак, накіраваных на разбурэньне калгасаў, іх трэба клікаць у партыю. Тэмп вярбоўкі ў партыю павінен быць падвоен—утроен, правільная пастаноўка работы партыі з батрацтвам і беднатой, правільная пастаноўка працы з беспартыйным, савецкім і калгасным актывам, растлумачэньне праграмы і ўставу нашай партыі шляхам гутарак, чытак, распаўсюджваньне літаратуры і шляхам індывідуальных апрацовак тых, якія павінны быць у партыі—усё гэта дасьць нам магчымасьць узмацніць шэрагі нашай партыі за лік лепшых батракоў, беднякоў, калгасьнікаў і найбольш адданых і праверапых серадняков-калгасьнікаў.

Пасіленьне тэмпу вярбоўкі ў партыю не азначае ні ў якім разе паслабленьне індывідуальнага падыходу да тых, якіх мы будзем прымаць у партыю, кампаній па вярбоўцы ў партыю на вёсцы нам не патрэбна. Нашы запатрабаваньні да ўноў прынятага сябра партыі тым, што мы лічым неабходным падвоіць і патроіць тэмп вярбоўкі, не павінны памяншыцца. Наступнай важнейшай задачай па замацаваньню вясковых партыйных організацый павінна быць замацаваньне якасьці сваіх шэрагаў. Для гэтага трэба

палепшыць унутрыпартыйную выхаваўчую працу і партвучобу. Матар'ялы, якія мы маем, сьведчаць аб тым, што праявы правага апортунізму распаўсюджаны ў нашай вясковай парторганізацыі. Маецца шмат фактаў аб тым, як камуністы не вялі рашучай барацьбы з кулацтвам, як яны прымірэнчаскі адносіліся да кулацкай небясьпекі. Моцна распаўсюджаны ў вясковай парторганізацыі самы шкодны від правага апортунізму—недаацэнка працы сярод беднаты.

Апортуністычныя скрыўленьні апошніх дырэктыў тав. Сталіна, ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб выпраўленьні і скрыўленьні лініі пры правядзеньні масавай колектывізацыі, таксама сьведчаць аб тым, што няма яшчэ патрэбнага разуменьня ў вясковых організацый генэральнай лініі партыі. Адміністрыраваньне, парушэньні прынцыпу добраахвотнасьці пры організацыі калгасаў таксама вельмі часта выцякаюць з права-апортуністычнага няверʻя ў тое, што бядняк і асабліва серадняк добраахвотна пойдзе ў калгас. Ёсьць такія, што ня вераць у здольнасьць рабочае клясы, кіраваць серадняком, быць у саюзе з ім на падставе суцэльнай колектывізацыі. Вясковыя партыйныя організацыі павінны яшчэ больш разгарнуць самакрытыку, трэба выкрыць усіх насіцеляў апортунізму, усіх тых, якія ня хочуць спраўляць памылкі, перагібы. Трэба даць рашуча адпор усім права- і „лева"-апортуністычным элемэнтам, усім тым, якія ня вераць у правільнасьць лініі партыі і якія актыўна—ці пасыўна супраціўляюцца правільнаму правядзенью масавай колектывізацыі. Вясковыя парторганізацыі павінны ўзмацніць барацьбу з правымі апортуністымі і „левымі" фразёрамі, якія зьяўляюцца па сутнасьці трацкісцкай раўнавіднасьцю правага опортунізму.

Для таго, каб забясьпечыць партыйнае кіраўніцтва калгасным будаўніцтвам, замацаваньнем існуючых калгасаў, вясковыя парторганізацыі павінны перабудавацца організацыйна. Павінны быць організаваны калгасныя ячэйкі, там, дзе нельга організаваць калгасныя ячэйкі, трэба організаваць кандыдацкія групы, а там, дзе і гэтага нельга, трэба даць туды партыйнага арганізатара. Організацыйная перабудова партыйнай организацыі павінна быць зроблена зараз-жа. Раённыя партыйныя камітэты павінны організаваць пасіленае інструктаваньне калгасных ячэек, шляхам скліканьня нарад калгасных ячэек, выездаў на месцы, падрыхтоўка сакратароў калгасных ячэек і больш частай пастаноўкі на райкоме пытаньняў калгасных ячэек. Партыйныя арганізацыі на вёсцы павінны ўзмацніць кіраўніцтва перабудовай работы сельсаветаў, Райвыканкомаў, Камітэтаў узаемадапамогі, каапэрацыі. Трэба ўважлівей чым да гэтага часу сачыць за тым, каб усе савецкія, каапэрацыйныя арганізацыі абслугоўвалі калгасы ў першую чаргу.

На правільнае вырашэньне праблемы кадраў вясковыя арганізацыі павінны зьвярнуць асаблівую ўвагу. Трэба лепш падбіраць кіруючыя кадры для калгасаў, трэба лепш іх падрыхтоўваюць у раённым маштабе, трэба лепш паставіць адбор батракоў, беднякоў у першую чаргу калгасьнікаў для камплектаваньня сярэдніх і вышэйшых навуковых устаноў акруговых і цэнтральных курсаў. Папярэдняя падрыхтоўка беднякоў і батракоў да паступленьня ў сярэднія і вышэйшыя нав. установы павінна быць значна пашырана. Акрамя таго трэба палепшыць скарыстоўваньне тых кадраў, якія маюцца, у прыватнасьці трэба стварыць для іх такія абставіны, каб яны маглі працаваць. Вядучы рашучую барацьбу з тымі спэцыялістымі, якія фармальна, няшчыра, дрэнна працуюць, трэба ўтварыць добрую абстаноўку для спэцыялістых, якія прымаюць актыўны ўдзел у сацыялістычнай рэканструкцыі сельскае гаспадаркі.

Мы, зразумела, ня вычарпалі ўсіх пытаньняў, якія ўзьнікаюць перад вясковымі парторганізацыямі. Нашы задачы, як і задачы ўсіх таварышоў, якія працуюць на вёсцы, зьяўляюцца сыстэматычным вывучэньне новых форм і мэтадаў работы.

**Ад рэдакцыі.** Зьмяшчаючы артыкул т. Танхілевіча аб перабудове работы вясковых парторганізацый, рэдакцыя запрашае вясковых партработнікаў выказацца па пытаньнях пастаўленых у арт. т. Танхілевіча і падаць свае меркаваньні аб характары і вопыце перабудовы работы вясковых партарганізацый.

**А. Шматкоў**

# Узмацніць бальшавіцкую пільнасьць вясковых парторганізацый

Цэнтральным Камітэтам нашай партыі з усёй бальшавіцкай рашучасьцю быў дадзены руйнуючы ўдар па перагібах і скажэньнях лініі партыі пры правядзеньні колектывізацыі. Партыя своечасова выкрыла антыленінскія, апортуністычныя скажэньні з боку некаторых комуністых і нават асобных організацый у справе колектывізацыі, якія згубілі бальшавіцкую чуласьць і ў пагоні за „посьпехамі", за вялікімі лічбамі „дагнаць і перагнаць" ня ўлічваючы паказаньняў Леніна, паказаньняў партыі—адхіліліся ў бок ад генэральнай лініі партыі.

Спыніць скаканьне ў опортуністычнае балота, папярэдзіць адрыў ад серадняцкіх мас вёскі, выкрываць адміністрацыйнае дэкрэтаваньне калгаснага будаўніцтва, наша партыя можа таму, што яна

> „уладае выстарчальнай гнуткасьцю для перамаганьня такіх цяжкасьцяй. І яна перамагла ўжо ў асноўным гэтыя цяжкасьці" (Сталін).

Партыя бязьлітасна вядзе барацьбу супроць правых опортуністых і прымірэнцаў, якія свае ўласныя памылкі выдавалі за генэральную лінію, а лінію партыі на выпраўленьне памылак і перагібаў у калгасным руху разумелі як адступленьне. І калі па гэтых памылках з усёй бальшавіцкай рашучасьцю ўдаралі, яны кідалі ў няпрытомнасьці фронт змаганьня, палягчаючы такім чынам барацьбу і супраціўленьне кулацтва. Партыя адначасова неаслабна вяла і будзе вясьці барацьбу і з

> „левымі" загібамі, бо і левыя загібы ў калгасным руху, як і ўсякія опортуністычныя адхіленьні ад генэральнай лініі партыі зьяўляюцца такімі адхіленьнямі, якія ствараюць спрыяючыя абставіны для ўзмацненьня правага ўхілу, бо „левыя" загібшчыкі зьяўляюцца аб'ектыўна саюзьнікамі правых ухілістых" (Сталін).

Відавочна, што галоўная задача нашай партыі зараз у тым, каб рашуча выправіць гэтыя памылкі і перагібы. Ад выпраўленьня і папярэджаньня гэтых памылак у далейшым залежыць посьпех колектывізацыі, посьпех барацьбы з кулаком і выкананьне задачы ліквідацыі кулацтва як клясы.

Партыя прасьвятляе галаву ўсіх тых, у каго яна закруцілася ад посьпехаў і прымае рашучыя меры да галавацяпаў і загібшчыкаў, што скажаюць лінію партыі парушаючы саюз з серадняком, а тым самым падрываюць і дыктатуру пролетарыяту, трэба, каб гэтыя людзі па бальшавіцку прызналі свае памылкі, зрабілі-б хуткі і рашучы паварот на ленінскі шлях; каб разам з усёй партыяй яны сталі выкрываць недахопы і скажэньні лініі партыі, замацоўваць дасягнутыя позыцыі калгаснага будаўніцтва і павесьці далейшы наступ на кулацтва, павесьці далейшую працу па разгортваньню калгаснага будаўніцтва, па соцыялістычнаму ператварэньню сельскай гаспадаркі. Далейшае наступленьне весьці не забягаючы ўперад, што пагражае адрывам ад мас, а разам з серадняком, у саюзе з серадняком апіраючыся на батрацтва і беднату і калгасьнікаў, якія ўжо загартаваліся ў барацьбе з кулаком.

Прымаючы ўсе меры папярэджаньня і недапушчэньня простай ці ўкоснай прымусовасьці ў калгасным будаўніцтве, праводзячы паказаньні Леніна аб прыцягненьні такіх „колектывізатараў" да самай суровай адказнасьці і зьнімаць з работы, партыя з усёй строгасьцю будзе яшчэ больш рашуча змагацца з тымі, хто ня зьвернецца на Ленінскі шлях, бо такія працаўнікі яшчэ больш могуць

нашкодзіць справе колектывізацыі, пахіснуць серадняка ў бок кулака, чым паслабіць саюз рабочае клясы з сялянствам.

Для выкананьня вялізарных задач, якія стаяць перад партыяй і перамаганьня ўсіх цяжкасьцяй на шляху социялістычнай перабудовы вёскі, у справе організацыі і замацаваньня калгасаў, у справе організацыі працы ў іх, патрэбна бальшавіцкая пільнасьць вясковых партячэек, патрэбна клясавая згуртаванасьць і няпрымірымасьць у барацьбе з кулаком. Вясковыя ячэйкі павінны быць сапраўднымі правадырамі магутнага калгаснага руху, будучы на чале гэтага руху, і словам і справай паказваць і даводзіць сваё ўменьне кіраваць барацьбой за колектывізацыю руйнуючы супраціўленьне кулака і замацоўваючы дасягнутыя посьпехі ў колектывізацыі, шляхам належнай організаванай арцельнай працы ў калгасе.

Але ці зьяўляюцца такімі ўсе нашы вясковыя партыйныя ячэйкі? На вялікі жаль яшчэ ёсьць выключэньні. Побач з тымі памылкамі і перагібамі, якія дапусьцілі шэраг вясковых ячэек і нават раённых, акруговых і цэнтральных працаўнікоў, мы маем трывожныя сыгналы з вёскі аб тым, што праваўхілісцкая практыка некаторых вясковых ячэек даводзіць да яе лёгічнага завяршэньня, да капітуляцыі перад кулаком і здачы пролетарскіх позыцый.

Гэтыя абставіны яшчэ раз, як нельга лепш, паказваюць правільнасьць політыкі нашай партыі ў яе барацьбе супроць правага ўхілу, як галоўнай небясьпекі на дадзеным этапе соцыялістычнага будаўніцтва.

Пакажам на прыкладзе двух ячэек, куды вядзе правы ўхіл і ў чым ён знаходзіць супаданьне з клясавымі ворагамі. Праўда, у палоне правага ўхілу аказаліся толькі некаторыя паасобныя ячэйкі, але гэта ні ў якім разе ня можа паменшыць небясьпекі, бо праявы праваўхілісцкіх настрояў мы маем у шмат якіх організацыях. Вурок гэтых ячэек павінен стаць вурокам для ўзмацненьня бальшавіцкай пільнасьці ўсіх парторганізацый і іх кіраўнікоў.

Як-жа папалі камуністыя гэтых ячэек у палон клясавага ворага?

На першы раз гэта праявілася ў прымірэнчых адносінах да клясавай барацьбы і пасыўных паводзінах наогул. Калі ў краіне ў сувязі з посьпехамі соцыялістычнага будаўніцтва ўзмацнілася наступленьне на кулака і на базе суцэльнай калектывізацыі партыя перайшла да ліквідацыі кулацтва як клясы—Цялушская ячэйка КП(б)Б, Бабруйскага раёну і акругі, імкнулася знайсьці для сябе такую „політыку“, якая-б задаволіла бедняка і серадняка і не пакрыўдзіла-б кулака (?!). Адсюль, вядома, ніякай працы па колектывізацыі ячэйкай не праводзілася. І ня гледзячы на ўзьнятую актыўнасьць бядняцтва і серадняцтва, якое імкнулася організавацца ў колектыў, комуністыя былі нейтральны да клясавай барацьбы, якая ўзмацнялася, яны не станавіліся кіраўнікамі бядняцка-серадняцкага руху, не організоўвалі яго, чым вядома садзейнічалі кулаку, які вёў супроцькалгасную агітацыю і ў прыкладнасьць паводзін ставіў партыйную ячэйку.

Вось што пішуць аб становішчы Казьянскай ячэйкі, Сіроцінскага раёну (Віцебская акруга).

> „Ячэйка па сваёй політычнай блізарукасьці і безадказнасьці кіраўніцтва і дзякуючы права-апортуністычнай практыцы аказалася ў хвасьце руху бядняцка-серадняцкіх мас. Кіруючы асяродак ячэйкі, праводзячы права-опортуністычную практыку, зрастаўся з кулацкім і варожым элемэнтам, зажымаў самакрытыку і г. д. Соцыяльныя карэньні гэтай „політыкі“ заключаліся ў тым, што ў кіраўніцтве ячэйкі знаходзіліся партыйцы-заможнікі“.

Вядома, што на першым этапе опортуністычнай практыкі ячэйкі патрэбна было тэрміновае ўмяшацельства кіруючых партыйных камітэтаў, па опортуністых трэба было рашуча ўдарыць, уліўшы ў ячэйку струмень здаровай бальшавіцкай згуртаванасьці, выправіць памылкі і павесьці далейшае наступленьне на кулацтва, перамагаючы яго ў барацьбе за колектывізацыю.

Аднак гэтага ня здарылася.

Перад такімі „комуністымі“ паўстала далейшае пытаньне альбо, альбо? Альбо, зьвярнуцца на правільны Ленінскі шлях і стаць на чале калгаснага руху, альбо працягваць і надалей сваю праваопортуністычную практыку.

Гэты паварот на шлях Ленінізму, на шлях выпраўленьня дапушчаных памылак, вядома, не маглі забясьпечыць комуністыя-заможнікі, якія ня былі вычышчаны з партыі ў часе чысткі і аддавалі больш перавагі росту сваёй індывідуальнай заможнай гаспадаркі, чым калгаснаму будаўніцтву, і гэтым ужо адчынена садзейнічалі барацьбе кулака супроць колектывізацыі.

Разгортваньне колектывізацыі проста паставіла пытаньне перад комуністымі гэтых ячэек—вызначыць свой шлях, ці шлях партыі разам з бядняцка-серадняцкімі масамі, ці шлях супроць партыі, шлях кулака.

Які шлях абралі гэтыя „камуністыя“, відаць з наступных паведамленьняў.

> „Большасьць комуністых Цялушскай яч. не пажадала ўступіць у калгас і не вяла ніякай працы па колектывізацыі. А таксама тыя партыйцы, якія фармальна запісаліся ў калгас на справе праводзілі пад ўплывам кулацтва права-опортуністычную лінію не даючы абагульваць свае сродкі вытворчасьці і прадукцыйнай жывёлы—чым садзейнічалі разбураючай працы ў калгасе“.

А вось якая была „праца“ ў Казьянскай ячэйцы:

> „Зусім нічога не рабілася па організацыйнаму афармленьню колгасаў і па далейшаму замацаваньню іх. Асабліва слаба работа па абагульненьню насеньня і іншых сродкаў вытворчасьці. Усё гэта зьяўляецца вынікам таго, што самі партыйцы-заможнікі на словах агітуюць за абагульненьне, а на справе не абагульвалі маемасьці сваіх уласных гаспадарак (Бугаяў, Касьянаў, Мальна і інш.), чым падрывалі гэтую працу. Да і самі беднякі і серадзякі перасталі давяраць такім комуністым і на сходах заяўлялі: „Мы то абагульваем сваю маемасьць, а вось хай партыйцы абагуляць...“

Здаецца яскрава. Больш яскравых прыкладаў таго, як правыя ўхілістыя пры правядзеньні сваёй „політыкі“ ў вёсцы пераходзяць на варожыя нам позыцыі здаецца і падабраць вельмі цяжка. Але поўнае капітулянства перад кулаком, ня можа ісьці і без здачы іншых позыцый. Ня можа быць без адчыненага пераходу на бок кулака, на сувязь з ім у барацьбе супроць колектывізацыі. Зусім ясна, што правы ўхіл і права-опортуністычная практыка вядзе да ўзмацненьня позыцый кулака ў яго барацьбе супроць ажыцьцяўленьня політыкі партыі.

Так і атрымалася на справе ў гэтых ячэйках з найбольш яскравай пасьлядоўнасьцю. Правыя ўхілістыя раней, чым перайсьці на адчынена кулацкую позыцыю, імкнуліся абгрунтаваць свой пераход разьвенчаньнем політыкі партыі ў адносінах да беднаты, як апоры партыі і дыктатуры пролетарыяту ў вёсцы.

Ужо ўзяўшы з кулацкага арсеналу „ідэёвы багаж“, камуністыя Цялушскай яч. хацелі абгрунтаваць ігнараваньне працы сярод беднаты і тое, што бедната вядома не групавалася навакол такіх „кіраўнікоў“ тым, „што наша бедната паршывая і нічога з ёю ня зробіш“. А Казьнянскія комуністыя выступалі зусім з адмаўленьнем клясавай дыфэрынцыяцыі вёскі, даводзячы, што „кулакоў няма“—у сувязі з чым яны заяўлялі аб тым, што яны праводзілі работу „сярод усяго сялянства наогул“.

Такое „абгрунтаваньне“ сваіх позыцый, ужо сьцірае ўсе грані паміж кулацкай агітацыяй і выступленьнямі „камуністых“ паказаных ячэек, гэта ўжо ёсьць завяршэньне пераходу на клясава-варожыя позыцыі, позыцыі кулака.

І зусім натуральна, што пасьля такіх паводзін комуністых у Казьнянскім сельсавеце скрыўлялася клясавая лінія. Ня было зусім нажыму на кулацка-заможныя элемэнты. Крэдыт выдаваўся заможнікам. З індывідуальна-абкладзеных ня ўзымаўся падатак і самаабкладаньне. Прэміі за здачу хлеба ў часе нарыхтовак атрымлівалі кулакі. Партыйцы былі зьвязаны з кулацтвам. За кошт бядняцкага фонду коопэрыраваліся партыйцы-заможнікі. У калгасах і ўстановах было шмат кулакоў і лішэнцаў. На курсы калгасьнікаў пасылаліся дзеці заможнікаў і абшарнікаў (Прафіненка, Мухіна). Усялякая крытыка паводзін партыйцаў з боку батракоў беднаты і серадзякоў, абзывалася „эсэраўшчынай з пагрозамі прыняць меры як да эсэраў; чаму зусім баяліся выступаць з крытыкай і г. д.“.

Адчынена перашлі да супраціўленьня колектывізацыі і цялушкінскія комуністыя, якія ня толькі не зьяўляліся ініцыятарамі і кіраўнікамі колектывізацыі, але тармазілі яе, ставячы ўсялякія перашкоды.

Вазьміце букет усёй гэтай права-опортуністычнай практыкі і паступовы

ход на позыцыі клясавага ворага і вы атрымаеце поўнае завяршэньне практыкі правага апортунізму, бо ад тэорыі „політыка ў адносінах сялянства наогул“, ад тэорыі „не пакрыўдзіць кулака“ застаецца адзін крок да заключэньня, „што беднata паршывая“, а таму станавіся ў другую шарэнгу барацьбы разам з кулаком.

Пасьля ўсяго гэтага зусім ня будуць дзіўнымі вынікі адносна праверкі політычнага становішча гэтых ячэек. Цялушкінская яч. распушчана. А ў Казьянскай яч. выключаны з партыі сакратар яч., распушчана бюро яч., выключаны з шэрагаў партыі два сябры ячэйкі і 1 кандыдат і 2 сябрам партыі абвешчаны вымовы.

Завяршэньне лініі правага ўхілу ў гэтых ячэйках закончылася пераходам на позыцыі клясавага ворага. Гэтыя абставіны ўскладаюць на кіруючыя органы партыі абавязак большай бальшавіцкай пільнасьці і конкрэтнай праверкі баяздольнасьці вясковых ячэек. Падзеі ў Цялушкінскай і Казьянскай ячэйках зьяўляюцца папярэджаньнем і тых загібшчыкаў, якія прыкрываючыся „левымі“ фразамі дапамагаюць праваму апартунізму, не жадаюць прызнаць і тэрмінова на ходу выправіць свае памылкі (што мы маем з партыйным кіраўніцтвам у Касьцюковіцкім раёне, Магілеўскай акругі). З такімі кіраўнікамі нельга забясьпечыць правільнае правядзеньне генэральнай лініі па колектывізацыі сельскай гаспадаркі і на глебе колектывізацыі, ліквідацыю кулацтва як клясы.

Вось чаму, вядучы барацьбу з перагібамі і галавацяпствам у калгасным руху, партыя павінна ўзмацніць барацьбу з яўнымі і замаскіраванымі праявамі правага опортунізму, як галоўнай небясьпекі, узмацніць барацьбу за бальшавіцкую пільнасьць і баяздольнасьць вясковых парторганізацый. Трэба ўзмацніць працу па ўцягненьню батрацтва і беднаты ў партыю, а таксама сераднякоў калгасьнікаў, якія геpаічнай барацьбой за колектывізацыю з кулаком і на справе па організацыі працы ў калгасах даказалі сваю адданасьць партыі—што забясьпечыць найбольшую пролетарскую вытрыманасьць вясковых партячэек пры ўмовах неаслабнага бальшавіцкага кіраўніцтва імі.

Гэта абавязвае нас аддаць яшчэ больш сіл і сродкаў на ўзмацненьне працы вясковых ячэек, бязьлітасна выганяючы з партыі кулацкіх агэнтаў.

Трэба рашуча і на хаду перабудаваць работу вясковых ячэек, дапамагчы ім стаць найбольш клясава баяздольнымі, стаць на чале кіраўніцтва калгасным будаўніцтвам і наладжваньня працы ў калгасах, узмацніць політычную работу з батрацтвам і беднатой і ўзьняць на вышэйшую ступень працу сярод сераднякоў па ўцягненьню ў калгасы яшчэ ня ўступіўшых беднякоў і сераднякоў.



Міх. Лабадаеў

# Нататкі з фронту колектывізацыі

**Рэдакцыя зьвяртаецца да ўсіх таварышоў, што працавалі ў вёсках і колгасах па дапамозе мясцовым організацыям у правядзеньні вясновай с.-г. кампаніі, з просьбай падзяліцца сваімі ўражаньнямі і матар'яламі з чытачамі „Партыйнага Работніка".**

## У штабе колгаснага фронту

Наш прыезд у Дрысенскі раён супадаў з тым часам, калі колектывізацыя лічылася „ў асноўным закончанай" (так формулёравалі пытаньне кіруючыя працаўнікі раёну), калі паўсталі практычныя задачы гаспадарчага замацаваньня створаных колгасаў і галоўнае напружаная практычная падрыхтоўка да вясновай сяўбы. Кожны дзень прыбывалі ўсё новыя і новыя працаўнікі. Райком наўрад ці мог скардзіцца на адсутнасьць дапаможнікаў. Іх хапала. Неабходна было зрабіць такую расстаноўку сіл, каб забясьпечыць найбольш слабыя вучасткі і рухацца наперад.

Першыя дні пачалі знаёміцца з „апэратыўнай абстаноўкай" колгаснага фронту. Габінэт Сакратара Райкому напамінаў нейкі штаб, дзе заўседы поўна народу, прыходзяць калгасьнікі за вырашэньнем розных гаспадарчых пытаньняў, тут-жа заслухоўваюцца паведамленьні „з фронту", розныя скаргі і тут-жа даецца заданьне, што і як рабіць на далейшае. Адчувалася, што работы хопіць, што прыдзецца галавою акунуцца ў шэраг „дробязяў", якія ў агульнай справе далёка ня дробязі, а важнейшыя пытаньні, не заўсёды прадугледжаныя нашымі артыкуламі, ці інструкцыямі.

Тав. Сямашка, нядаўні рабочы дрэвапрацоўчага заводу, зараз „таварыш старшыня" і унівэрсал па колгаснаму руху запрашае да сябе ў габінэт: *„хадзі пасядзіш з паўгадзіны, паслухаеш, даведаешся, што значыць быць зараз старшынёй Райвыканкому"*.

І сапраўды. Чалавек трыццаць колгасьнікаў і іншых сялян абступілі стол. Кожны прыйшоў за вырашэньнем свае справы. Гутарка з кожным цягнулася ня доўга. Здаволены адказам колгасьнік адыходзіць у бок ад стала і слухае, што адказваюць другому.

Вось зьвяртаецца старэнькі, ня дрэнна апрануты, селянін. Ён адразу заяўляе: „Я серадняк і мне сусед сказаў, што я намечан да раскулачваньня". Пачынаецца апавяданьне, аб яго мінулым. Некалькі кароткіх запытаньняў і высьняецца, што чуткі аб раскулачваньні няправільны. Здаволены селянін вяртаецца дахаты. Аднак, весткі атрыманыя тут-жа сьведчаць, што дзе-ні-дзе сапраўды закранулі, „раскулачылі" серадняка, пры чым гэта лічылі найбольш удасканаленым „мэтадам" для паскарэньня колектывізацыі, чым, зразумела, груба парушаліся дырэктывы партыі.

Пару дзён, прысьвечаныя азнаямленьню з агульным становішчам работы і праведзеныя ў гутарках з раённымі працаўнікамі, даюць мажлівасьць лепш арыентавацца і ехаць у сельсавет для непасрэднай практычнай работы.

* * *

Дрысенскі раён, які быў абвешчаны раёнам суцэльнай колектызізацыі, мае шмат, уласных толькі яму, асаблівасьцяй. Галоўнае тое, што ён мяжуе адным кавалкам з Польшчай і другім з Латвіяй

Блізасьць мяжы дае сабе адчуваць. Тут найбольш рэльефна вызначаецца процэс клясавай барацьбы. Кулацтва ў сваім супраціўленьні больш запужвае тым, што *„пачакайце вясны, хутка прыдуць палякі“*, але за тое найбольш актыўна выступае бедната.

Слухаеш на сходзе выступленьне бедняка і асабліва адчуваеш наколькі беднята вырасла ў сваёй палітычнай сьвядомасьці. Між іншым, беднякі часта гаварылі, што дрэнна працуюць з імі партыйныя ячэйкі. І гэта, на жаль, зусім правільна. Партыйныя ячэйкі, як правіла, склікалі беднату тады, калі гэта было неабходна для правядзеньня той ці іншай чарговай кампаніі. Ня было глыбокай сыстэматычнай работы з батрацтвам і беднатой і гэта давала свае адмоўныя вынікі.

Тое, што надзвычайна дрэнна працавалі сярод батрацтва і беднаты, дало сябе адчуваць на далейшым замацаваньні колгасаў. Пералому ў адносінах паляпшэньня работы сярод батрацтва і беднаты, яшчэ не адбылося.

Дырэктывы партыі аб рабоце сярод беднаты слаба вядомы членам партыі. Ёсьць неразуменьні форм работы.

## „Ноч патрымаем, але арганізуем“.

Такім чынам, колектывізацыя ў асноўным была закончана. На жаль, гэта заключэньне было зроблена раённымі працаўнікамі на аснове колькасных паказчыкаў. Мала думалі аб якасным становішчы арганізаваных колгасаў і галоўнае аб тым, *якімі мэтадамі кіраваліся працаўнікі пры правядзеньні колектывізацыі.* Асноўная маса беднаты і сераднякоў дабраахвотна пайшла ў колгасы. Былі выпадкі, калі вёскі пасылалі сваіх прадстаўнікоў у раён з просьбай прысланць партыйца для арганізацыі колгасу. Але многія працаўнікі па колектывізацыі аказаліся такімі, аб якіх так метка і своечасова пісаў тав. Сталін. Першыя посьпехі па арганізацыі колгасаў некаторых „опьянили“. Былі такія, што страцілі пачуцьцё меры, у некаторых „закружылася галава“.

Характэрны малюнак. Да сакратара Райкому заходзіць наскора арганізаваная брыгада камсамольцаў. „Тав. Пушчын, парайце куды нам выехаць, каб арганізаваць колгас“. Сакратар намячае вёску, але тут выясьняецца, што ў той вёскі колгас ужо організован. Гэта нездавальняе камсамольцаў, ім хочацца паехаць абавязкова туды, дзе колгасу няма і абавязкова дамагчыся „в два счета“ таго, каб за імі „лічыўся“ колгас. Урэшце была знойдзена патрэбная для камсамольскай брыгады вёска. Ад'яжджаючы, камсамольцы казалі *„ноч будзем трымаць, але арганізуем“*. Мяне зацікавіў гэты выпадак і праз два дні я, спаткаўшы камсамольца, даведаўся, што сапраўды колгас „за ноч“ быў арганізаваны. Вядома, што цяжка верыць у жыцьцёвасьць арганізаванага колгасу такім мэтадам нездаровай канкурэнцыі.

Разгарнулася, не абвешчанае афіцыйна, своеасаблівае спаборніцтва на хутчэйшую арганізацыю колгасаў. Было-б, вядома, няправільным зьніжаць наогул тэмп колектывізацыі, але не магло даць належных вынікаў тое, калі працаўнікі, захапіўшыся колькасьцю колгасаў, не зьвярнулі ўвагі на простыя *перагібы і адміністраваньне, што ўжывалі некаторыя партыйцы пры правядзеньні колектывізацыі.*

Часта тых, хто прыяжджаў з вёскі і не арганізаваў колгас, асьмейвалі—гэта па выразу некаторых райкомаўскіх працаўнікоў азначала „прыехаць на казе“, альбо ад'яжджаючаму казалі: *„без колгасу не варочайся“*. Вось чаму некаторыя працаўнікі замест упартай і штодзеннай падрыхтоўчай работы бралі наскокам, непатрэбным запужваньнем ішлі па шляху ўнутэрпрышыбееўшчыны“. А потым і аказалася, што самымі моцнымі колгасамі аказаліся тыя, дзе вялася папярэдняя сыстэматычная работа. Бывалі такія выпадкі, што прыяжджала група райкомаўскіх працаўнікоў у вёску—склікалі сход, арганізоўвалі колгас, які на другі дзень распадаўся.

Для таго, каб хутчэй колектывізаваць раён, значнай часткі індывідуальных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак было абвешчана, што ў Бігосаўскім сельсавеце адведзены спэцыяльныя кусты, куды будуць перасяляць не ўвайшоўшых у колгасы. Зусім правільныя дырэктывы

аб тым, каб коопэрацыя прыстасавала сваю работу для лепшага абслугоўваньня колгасьнікаў скажаліся да таго, што некаторыя камсамольцы працаўнікі прылаўку кой-каму казалі *„хутка неколгасьнікам і газы адпускаць ня будзем“*.

Рэкорд адміністраваньня і асабліва шкоднага галавацяпства пабіў сакратар Сар'янскага сельсавету. Ён склаў сьпіс вышаўшых з колгасу і накіраваў члену сельсавету з аднасінай: *„прапануецца вышаўшых з колгасу зараз-жа абкласьці індывідуальным падаткам і раскулачыць“*. Сярод гэтых падлягаючых раскулачваньню аказаліся і беднякі, якія аслабанены ад сельска-гаспадарчага падатку. Добра, што ўдалося кіруючым працаўнікам раёну сваечасова спыніць гэтага „дапаможніка“ колектывізацыі. Сакратар сельсавету потым растлумачваў, што гэта рабілася для таго, каб іх запужаць і прымусіць узяць заявы назад.

* * *

Да рэчы трэба сказаць некалькі слоў аб адносінах да тых, хто падае заявы аб выхадзе з колгасу. У мясцовых працаўнікоў існуе нейкі агульны падыход да тых, хто хістаецца. Замест таго, каб з кожным індывідуальна пагутарыць, выясьніць прычыны, якія спрыялі пададаваньню заявы і галоўнае, вельмі часта выкрыць конкрэтнага кулацкага агітатара, нашы працаўнікі часта лічаць наогул чуждым элемэнтам выхадца з колгасу.

Вопыт-жа паказвае, што часта пасьля індывідуальнай гутаркі з падаўшым аб выхадзе заяву, ён бярэ яе назад, выясьніўшы шэраг незразумелых для яго раней пытаньняў, якія стымулявалі выхад з колгасу.

Вось, у асноўным, усе тыя факты, якія даюць падставы рабіць вывад аб тым, што многія працаўнікі перагнулі, а Райком партыі, праводзіўшы ў асноўным правільную лінію, не даваў належнага адпору гэтым перагібам. Хацелася не адставаць ад другіх раёнаў і таму не знайшлося ў кіраўнікоў часу і ўвагі для сваечасовага ўдару па перагібах і адміністраваньню, ня ўлічылі, што адміністраваньнем лілі ваду на кулацкі млын.

## „Дам тры пуды мукі—толькі ня ідзі ў колгас“

Кулак, скарыстоўваючы памылкі партыйцаў пры правядзеньні колектывізацыі, разгарнуў шалёную барацьбу з колгасным будаўніцтвам. Былі факты, калі былыя людзі, замаскаваўшыся, першымі запісваліся ў колгас, пралязалі ў праўленьне і, знаходзячыся ў колгасе, вялі работу па яго разлажэньню.

Не апошняе мейсца ў дзейнасьці клясавых ворагаў займаюць чуткі і розная хлусьня. Быў такі выпадак, што сакратара Райкому партыі на адным з сходаў прымусілі ў пратаколе расьпісацца аб тым, што *„ў колгасе ня будуць ставіць пячаткі“*. Нехта настолькі ўпэўніў сялян ў гэтым, што патрабавалася спэцыяльная „расьпіска“ сакратара Райкому партыі!

Адзін з дакладчыкаў неяк расказаў аднosна крэмацыі. Гэта было зараз-жа падхоплена і на адным з сходаў выступаючыя жанчыны сур'ёзна протэставалі супроць таго, што ўсіх старых у колгасе будуць паліць. Адзін дзядуля-колгасьнік, пачуўшы аб гэтым, некалькі дзён хадзіў сумны і зьбіраўся выпісвацца з колгасу, пакуль яму не растлумачылі ў чым справа.

Аднаго разу былі пушчаны чуткі, што старшыня суседняй комуны забіты. Гэтыя чуткі пачалі пашырацца да таго часу, пакуль ня было ўстаноўлена, што гэта хлусьня і многія, хто спачатку паверыў гэтым чуткам, ня ўбачылі жывога і здаровага старшыню комуны.

На сходах давалі запытаньні *„ці праўда, што ў комуне кароў'е вока дзеляць на чатыры порцыі“*.

Чуткі рознага характару настолькі хутка распаўсюджваліся, што прыходзілася дзівіцца наколькі клясавы вораг умела скарыстоўвае гэтую зброю ў сваёй барацьбе.

Акрамя гэтага кулацтва ў сваёй рабоце супроць колгасаў дзейнічала і шляхам сваеасаблівай экономічнай барацьбы. *„Дам тры пуды мукі—толькі ня ідзі ў колгас“*—так прапанавалі аднаму бедняку. Устаноўлена, што ў адной вёсцы праціўнікі колгасу склікалі спэцыяльную нараду, на якой намячалі сьпіс беднякоў, якім трэба дапамагчы матар'яльна, каб потым загітаваць ня ісьці ў колгас.

## Крыху аб мэтадах нашай работы

Зараз трэба сур'ёзна ставіць пытаньне аб мэтадах нашай работы. Вясновая пасяўная кампанія гэтага году дае багацейшы матар'ял, які нам неабходна дасканальна вывучаць. Усё гэта прыгодзіцца для будучага году і можа быць карысным для нашай штодзеннай практычнай работы ў вёсцы.

Тое, што мэтады нашай работы грунтоўна кульгаюць—гэта факт. Мы як прывыклі праводзіць работу? Прыяжджаем ў вёску або колгас, праводзім сход, у лепшым выпадку пагутарым добра з некаторымі сялянкамі і вяртаем аглоблі да наступнага разу.

Між тым, кулак дзейнічае інакш. Вось прыклады. Кулак (вельмі часта праз падстаўную асобу) больш усяго націрае на індывідуальную і групавую апрацоўку. Мне адзін пагранічнік расказаў аб такім факце:

Групка сялян. Адзін з іх чытае газэту і вычытаў, што *„Варашылаў і Калінін арыштаваны за няправільна праведзеную колектывізацыю"*. Слухачы няпісьменныя і ня могуць праверыць правільнасьць таго, аб чым ім чытаюць. І калі, падышоўшы да групкі чытачоў, пагранічнік папрасіў пачытаць дзе гэта напісана, „ретивый чтец" пасьпяшыў хутчэй уцячы.

Культурныя запатрабаваньні бязьмерна выраслі. Мне прышлося бачыць ня раз як на вакзале сяляне станавіліся ў чаргу за газэтамі. Куплялі ўсё што ёсьць: „Красную Звезду", „Экономическую жизнь". Газэт не хапае. Разыходзіліся групкамі і потым выбіралі каму чытаць газэту. Навучаныя горкім вопытам з кулацкімі „чтецамі", яны ўжо не давяраюць кожнаму чытаць газэту.

У кожнага колгасьніка ўзьнікае шэраг пытаньняў. У газэтах яны не адшукалі поўнага адказу на іх і таму бяруць сшытак, запісваюць пытаньні і камандыруюць спэцыяльнага таварыша ў раён для таго, каб раённыя працаўнікі далі на іх афіцыйны, пісьмовы адказ.

Усе гэта, аб чым сказана вышэй, мы недастаткова ўлічваем у нашай штодзеннай рабоце. Нашы формы і мэтады работы маюць яшчэ надзвычайна многа казёншчыны, формалізму і залішняга ўпрашчэнства. Мы праводзім сход, канчаем яго і вяртаемся назад, а кулак, намячаючы аб'ектам сваёй апрацоўкі патрэбнага яму серадняка ці бедняка, і праводзіць з ім штодзенную работу.

Сказаць, што культурны ўзровень вясковага жыхара значна ўзрос, гэта значыць адкрыць Амэрыку. Гэта сапраўднасьць. Але вось гэтай „амэрыканскай ісьціны" многія нашы працаўнікі ня улічваюць і займаюцца пры растлумачэньні палітычных пытаньняў залішнім упрашчэнствам. Гэта-ж факт, што на вясковых сходах асобныя таварышы, спрачаючыся з дакладчыкам—прадстаўніком з раёну, аргументавалі цытатамі з Леніна, лічбамі пяцігодкі і інш. Зараз, выступаючы на вясковым сходзе, трэба памятаць аб тым, што селянін за годы пролетарскай рэвалюцыі ў сваім палітычным разьвіцьці непараўнача вырас, а за гэтую зіму, па меткаму выразу сакратара Райкому, мы ў кожнай вёсцы фактычна правялі своеасаблівыя курсы.

Які-ж з усяго гэтага вывад. *Трэба зараз больш рашуча ставіць пытаньне аб палепшаньні форм і мэтадаў масавай работы на вёсцы, надаць гэтай рабоце больш гнуткасьці, мерыць якасьць работы ня толькі па колькасьці праведзеных сходаў, але больш за ўсё і на аснове якасных паказчыкаў. Неабходна больш ўжываць мэтады групавой і індывідуальнай прапаганды, пазбавіцца таго фармалізму і казёншчыны, які ў нашай рабоце яшчэ існуе ў занадта вялікай прапорцыі.*

Чаму-б нам не організоўваць брыгады з комсамольцаў і рабочых, добра інструктаваць гэтыя брыгады і кідаць у вёскі для растлумачэньня партыйных пастаноў па пытаньнях колгаснага руху. Гэта робіцца, але далёка ня ўсюды. І зусім не абавязкова зараз-жа склікаць сход. Можна і патрэбна працаваць з *асобнымі групкамі беднякоў і серадняkоў*, выяўляць усе незразумелыя ўзьнікаючыя ў іх пытаньні для таго, каб праводзіць штодзенную растлумачальную работу і ачышчаць галовы ад „налёту" кулацкай хлусьні і агітацыі.

## Пару слоў аб Райколгассаюзе

Трэба сказаць, што Дрысенскія працаўнікі, аддаючы шмат сіл і энэргіі рабоце ў колгасах і вёсках, кой што ўпусьцілі. Не ўзмацнілі як сьлед Райколгассаюз. Адсюль вялікая бяда.

Перад Райколгассаюзам паўстала такая грандыёзная колькасьць практычных пытаньняў, што ён ня мог даць на іх патрэбнага і, галоўнае, сваечасовага адказу. Колгасы кожны дзень ставяць пытаньне аб насеньні, аб машынах і больш усяго аб унутранай арганізацыі колгаснага жыцьця. Райколгассаюз з задачамі практычнага, гаспадарчага кіраўніцтва не спраўляўся.

Як працуе Райкалгассаюз? Сёньня робіць тое, што можа пачакаць некалькі дзён альбо тыдняў і наадварот, праз тыдзень робіцца тое, што трэба было рабіць раней. Атрымоўвалася так як з сакратаром Росіцкага сельсавету, які за поўгадзіны да прыбыцьця пяцідзесяці падвод з гантунковым насеньнем шукаў не памяшканьня для ссыпкі насеньня, а габінэта для старшыні куставога аб'яднаньня колгасаў. Калгасы завальваюцца цыркулярамі, якія нельга прачытаць, пры чым прапануецца сёньня рабіць тое, што можа пачакаць некалькі тыдняў.

*Разздаваўшыся, што не прадстаўляюцца сваечасова зьвесткі аб колькасьці абагуленага насеньня, Райкалгассаюз пасылае ўчарашняму селяніну адзіналічніку, сёнешняму старшыні калгасу, паперку з грозным папярэджаньнем, што за непрадстаўленьне зьвестак ён будзе аддаты пад суд. Той на заўтра-ж выходзіць з калгасу толькі таму, што палохаецца папасьці пад суд і можа за тое, што пасланыя зьвесткі недзе згубіліся ў канцэлярыі сельсавету, ці Райкалгассаюзу.*

Ясна, што няўменьне Райкалгассаюзу працаваць так, як гэта патрабуюць задачы сёнешняга дню, перашкаджала і перашкаджае ўзмацненьню калгасаў.

Меры, прынятыя Райкомам для ўзмацненьня Райкалгассаюзу, павінны спрыяць таму, каб ён стаў баявым штабам калгаснага будаўніцтва.

## Замацаваць дасягнутае і рухацца ўперад.

Зьяўленьне артыкулу т. Сталіна „Головокружение от успехов“ многім, асабліва заядлым адміністратарам, было як сьнег на галаву. Былі размовы, што нібыта „мяняецца палітыка партыі“, альбо другія зусім па іначшаму: *„лепш гэты артыкул быў-бы напісан тады, калі-б скончылася пасяўная кампанія“.* Атрымалася расьцеранасьць, якая тым больш, на некаторы час, узмацнілася пры частковым адліве з калгасаў.

Адліў у большай меры быў там, дзе нарабілі перагібаў. „Выхадцы“ заяўлялі: *„нас пужалі Салаўкамі, ды Бігосаўскамі, кустамі, а зараз сказалі, што дабрахвотна—значыць мы выходзім“.* У іншых мясцох былі факты, што раніцою выходзілі, а ўвечары бралі заявы назад. Па меры таго як многія працаўнікі пачыналі самі брацца за выпраўленьне перагібаў, за шырокае растлумачэньне артыкулу т. Сталіна, новага статуту і пастановы ЦК УсеКП(б) — пачаўся новы прыліў у калгасы.

А нядаўна на самай мяжы з Польшчай сяляне былі сьведкамі прыезду своеасаблівых „прадстаўнікоў з цэнтру“. Прыбыла 9 трактароў. Павесялелі калгаснікі. Пачалі раздумываць і тыя, што падалі заявы аб выхадзе. Раённыя працаўнікі клапацяцца аб лепшым скарыстаньні гэтых трактароў.

* * *

На гэтым канчаем. Ёсьць упэўненасьць, што дрысенскія працаўнікі, ня гледзячы на зробленыя памылкі і перагібы — хутка іх выправяць і зробяць раён добрым раёнам суцэльнай колектывізацыі.

А тады мы паглядзім, наколькі страшна будзе падваротнае шыпеньне кулака—„пачакайце вясны“. Так, будзем чакаць, ды не такой як ім хочацца. Будзем чакаць новай калгаснай вясны.

м. Росіца.
Сакавік 1930 г.

# ПАРТЫЙНАЕ КІРАЎНІЦТВА НА ПРАДПРЫЕМСТВЕ

Шпэктараў

## Як мы перабудоўваем партыйна-масавую працу на прадпрыемствах

*(З вопыту Фрунзаўскай арганізацыі)*

У аснову перабудовы партыйнай працы на прадпрыемствах мы палажылі наступнае: ажыцьцяўленьне на справе павароту ўсей увагі камуністых і беспартыйных рабочых да вытворчасьці, далейшае разьвіцьцё і суадпаведнае накіраваньне соцспаборніцтва і ўдарніцтва за перавыкананьне прамфінпляну, правядзеньне тэмпаў парт-працы ў суадпаведнасьці з высокімі тэмпамі сацыялістычнага будаўніцтва. Ня ўсе дастаткова ўцямілі і не заўсёды ўлічваюць гэты зьмест усёй перабудовы парт-работы. Вельмі часта абмяжоўваюцца пераходам на сэктары, ці вучасткі без карэннай зьмены сутнасьці зьместу працы.

Каб справіцца з вялізарнымі задачамі бягучага пэрыяду не адставаць ад жыцьця, каб ісьці на чале мас—ячэйкі павінны адмовіцца ад „заседацельскай мешаніны“, ад тых старых форм работы, якія звужвалі актыўнасьць партыйнай масы. Ячэйкам патрэбна як мага хутчэй перайсьці да новых арганізацыйных форм, якія павінны садзейнічаць самаму шырокаму ўцягненьню партыйнай масы ў работу, пры наяўнасьці адказнасьці кожнага члена ячэйкі за даручаную працу.

Фрунзаўская арганізацыя, па свайму зьместу і формам работы, у асноўным перабудавалася. Ёсьць шмат недарэчнасьцяў і недахопаў, але асноўная маса ячэек прывяла зьмест і формы сваёй работы ў суадпаведнасьці з задачамі дадзенага пэрыяду.

Якім чынам мы перабудавалі сваю работу?

1. Галоўнае, гэта паварот ячэек тварам да вытворчасьці, узмацненьне барацьбы за выкананьне прамфінпляну.

Асноўныя прадпрыемствы раёну, напрыклад, „Акцябр“, „Камунар“, Друкарня імя Сталіна дабілася перавыкананьня дадзеных ім вытворчых заданьняў. Ячэйкі гэтых прадпрыемстваў на справе мабілізавалі ўвагу камуністаў і ўсей масы рабочых вакол выкананьня прамфінпляну. На гэтых прадпрыемствах усе камуністыя знаходзяцца ва ўдарных брыгадах. У друкарні і на „Камунары“ мы маем 3 камуністычныя цэхі.

Аднак, ёсьць яшчэ ячэйкі, якія адстаюць і знаходзяцца ў абозе III разраду. Так, напрыклад: на футровай ф-цы прамфінплян зрываецца і ячэйка не супярэчыць супроць перагляду ў бок зьмяншэньня прамфінпляну, які зьяўляецца рэальным і адпавядаючым магчымасьцям фабрыкі. Гэтая ячэйка чакае папярэджаньняў Райкому і толькі калі РК вынес усяму трохкутніку вымову з папярэджаньнем, намячаецца пералом, плян становіцца рэальным, на Біржы Працы знаходзіцца рабсіла, пускаецца другая зьмена і г. д.

На заводзе „Дрэваапрацоўшчык“ плян наогул сарваны. Тут хаця, пасьля абгляду заводу пасланай Райкомам рабочай брыгадай, ячэйка аказалася на мейсцы, прыняўшы шэраг арганізацыйных мер, але да гэтага часу, акрамя зьмены асоб, фактычнага зруху на вытворчасьці няма. Выкананьне прамфінпляну ідзе недапушчальна дрэнна.

Новае тут тое, што на ўсе хваробныя зьявішчы кожнага прадпрыемства Райком хутка рэагуе і на падставе крытыкі

і самакрытыкі мабілізуюцца шырокія масы на выпраўленьне іх (Футровая ф-ка, „Акцябр“, „Дрэваапрацоўшчык“).

Як новыя формы ў гэтай галіне, мы правялі ўзаемную масавую праверку вынікаў работы за І-шы квартал праз рабочыя брыгады, мы правялі першымі раённую канфэрэнцыю ўдарнікаў аб выніках І-га кварталу.

2. Асноўнай формай рэарганізацыі работы РК і ячэек у раёне мы выбралі пераход на сыстэму сэктараў, палажыўшы ў асноўным тое, што сэктарная сыстэма павінна:

а) Зрабіць структуру партыйнага кіраўніцтва найбольш гібкай, канкрэтнай, з разьлікам, каб ячэйка змагла ахапіць галоўныя галіны працы на прадпрыемствах і ўстановах.

б) Ажыцьцявіць пэрсанальную адказнасьць кожнага партыйца за правядзеньне партыйнага заданьня, устанавіўшы большую чоткасьць у рабоце РК і ячэяк.

в) Забясьпечыць ахапленьне і выхаваньне шырокіх колаў партыйцаў на канкрэтнай партыйнай рабоце, праз стварэньне вакол сэктараў інстытуту добраахвотнікаў і г. д.

У раёне мы маем розныя групы ячэек (вытворчая, савецкая, навучальная) і кожная з іх паасобна прымяняе да сябе новыя формы працы.

Так, па вытворчых ячэйках, галоўным чынам, вылучаюцца наступныя сэктары:

1) Вытворчы. 2) Агіт-масавы. 3) Партвучобы. 4) Падрыхтоўкі кадраў і вылучэньня. 5) Садзейнічаньня калектывізацыі. 6) Узросту партыі і працы з кандыдатамі. 7) Вучоту і разьмеркаваньня нагрузак. 8) Інформацыі, 9) Працы сярод работніц, ці кіраўніцтва дэлегацкімі сходамі работніц і працы сярод жонак рабочых.

Цэхавыя і вытворчыя ячэйкі з меншай колькасьцю партыйцаў (да 40—50 ч.) вылучаюць 6 сэктараў (1. Вытворчы. 2. Агіт-масавы. 3. Вучобы. 4. Узросту партыі, 5. Працы сярод работніц. 6. Садзейнічаньня калектывізацыі).

Па савецкіх ячэйках вылучаюцца наступныя сэктары:

1) Эканомпрацы. 2) Агіт-масавай. 3) Сувязі з шэфствуючым прадпрыемствам. 4) Вучобы. 5) Вучоту і разьмеркаваньня нагрузак. 6) Інфармацыі.

Па вучэбных ячэйках:

1) Акадэмічнай працы. 2) Па-зашкольнай працы. 3) Гаспадарчай працы (у буйных ВУЗ‘ах).

З паказанага зразумела, што пад сэктарам трэба бачыць адпаведную частку, ці паасобную функцыю партыйнай працы і толькі.

На чале сэктару стаіць адзін кіраўнік (член Бюро, можна і ня члена Бюро) і яго памоцнік, якія прызначаюцца Бюро ячэйкі.

Адзін кіраўнік і памоцнік ніколі самі не справяцца з вялізарнейшай сваёй працай, таму патрэбна, каб кожны сэктар свае пытаньні прапрацоўваў праз шырокія масы членаў ячэйкі. Вакол кожнага сэктару павінны складацца добраахвотныя групы партыйцаў, якія працуюць плянава па заданьнях сэктару. Усе гэтыя добраахвотныя групы (брыгады) зьяўляюцца часовымі. Часовасьць брыгад патрэбна асабліва падкрэсьліць, бо ў некаторых ячэйках ёсьць спробы расьпісаць бюрократычна зьверху ўсіх членаў на паасобныя сэктары прапарцыянальна колькасьці ячэйкі (па 8—10 чал.) і гэтым абмежавацца. Гэта найбольш шкодныя тэндэнцыі. Тут патрэбна інакш працаваць. На аснове агульнага пляну ячэйкі кожны сэктар павінен мець для сябе месячнае каляндарнае заданьне, у якім адзначаецца, якія пытаньні неабходна падрыхтаваць і якімі сіламі (колькі патрэбна добраахвотнікаў) і на гэтай падставе па кожнаму пытаньню вярбуюцца паасобна добраахвотныя брыгады для таго ці іншага сэктару, грунтуючыся на зацікаўленасьці партыйцаў тым ці іншым пытаньнем.

Партыйныя сэктары ў сваёй працы ажыцьцяўляюць партыйнае кіраўніцтва фракцыямі непартыйных арганізацый, праз якія яны могуць прапрацоўваць паасобныя пытаньні. Партыйныя сэктары ні якім чынам не павінны падмяніць фракцыі непартыйных арганізацый. Такая небясьпека ёсьць у галіне вытворчай і масавай работы. Неабходна падкрэсьліць, што важная і адказная роля, напрыклад, такіх органаў, як вытворчыя нарады, паліт-асьветныя сэктары ФЗМК стварэньнем аналёгічных партыйных сэктараў ні ў якім разе не зьмяншаюцца.

Задачай парт-сэктароў зьяўляецца паляпшаньне кіраўніцтва імі, ажыўленьне іх працы, а не падмена.

3. Пры перабудове партыйнай работы на прадпрыемстве і ўстанове неабходна зрабіць сапраўдна нашай асновай—парт-групу на агрэгаце ў брыгадзе, альбо ў аддзеле і г. д.

Парт-група, як нізавое зьвяно, павінна нясьці адказнасьць за гаспадарчае становішча свайго вучастку на прадпрыемстве ў галіне выкананьня колькасных і якасных паказчыкаў прамфінпляну і пастаноўцы масавай работы (падлік настрояў і рэагаваньне на іх, вярбоўка ў партыю, растлумачэньне палітычных задач і лёзунгаў). Гэтыя 2 задачы павінны быць асноўнымі ў працы парт - групы. Груп-оргаў неабходна выбіраць (некаторыя ячэйкі прызначаюць) ад той групы, якіх яны абслугоўваюць.

Груп - оргаў патрэбна аслабаніць ад тэхнічнай дробнай працы (аб'явы аб сходах, падлік наведваемасьці школ і г. д.).

Груп-оргу максымум увагі і дапамогі—вось чарговая баявая задача.

Вопыт перабудовы надзвычайна малы, розныя арганізацыі прымяняюць розныя формы і мэтады працы. Неабходна на старонках „Партыйнага Работніка" пачаць падрабязна асьвятляць вопыт перабудовы работы ва ўсіх арганізацыях КП(б)Б.

---

**Пытаньне аб прамфінпляне—першачарговае пытаньне.—Наша партыя займаецца ім увесь час. Мы павінны ўпарта змагацца за выкананьне і магчымае перавыкананьне вытворчых праграм прамысловасьці. Перамога на гэтым важнейшым вучастку будаўніцтва, далейшае паступацельнае разьвіцьцё прамысловасьці, у першую чаргу цяжкай індустрыі, ёсьць узмацненьне пралетарскай дыктатуры ў нашай краіне. З пільнай увагай мы павінны сачыць за работай нашай прамысловасьці, усямерна ёй дапамагчы, усямерна змагаючыся з усім тым, што перашкаджае яе рабоце, усямерна скарыстоўваючы і арганізоўваючы вялікі творчы энтузіязм рабочых мас.**

**(З прамовы т. Васілевіча на менскім партактыве).**

М. Шапіра

# Кіраўніцтва ўдарніцкім рухам яшчэ не заняло належнага мейсца ў партрабоце на прадпрыемствах

Працоўны энтузіязм рабочых мас знаходзіць свой яскравы выраз у бурным узросьце колькасьці ўдарнікаў і якасьці іх працы.

> На 1-IX—29 г. ударнікі налічваліся на прадпрыемствах адзінкамі. Ударнікі складалі 3 процанта да ўсіх рабочых. Праверка выкананьня дагавароў па соц. спаборніцтву (верасень—кастрычнік), праведзеная як шырокая масавая кампанія, дала значны штуршок у гэтым напрамку і ўжо 1-XI—29 г. ударнікі складалі 15 проц. да ўсіх рабочых. На 1-III 1930 г., пасьля ленінскага прызыву, ударнікаў па падліках 70 прадпрыемстваў розных гарадоў Беларусі, на якіх працуе 29.589 рабочых, мелася 16.150 ударнікаў, што складае 54,6 проц. да ўсіх рабочых. У кастрычніку 1929 г. па ўсёй Беларусі меўся 1 ударны завод (хлебазавод МЦРК–Менск), на 1-III-30 г. Па зьвестках 8-мі вытворчых саюзаў мелася 51 ударных прадпрыемстваў, на якіх працуе 22.021 чал. рабочых.

Трэба адзначыць, што калі ў значнай колькасьці выпадкаў узрост колькасьці ўдарнікаў праходзіў на грунце паглыбленай растлумачальнай і організацыйнай працы (ф-ка „Кл. Цеткін“—Віцебск, ф-ка „Кастрычнік, завод „Камунар“, хлебазавод МЦРК, вагонныя майстэрні—Менск і шэраг іншых прадпрыемстваў), дык у шэрагу выпадкаў партколектывы і ячэйкі надта лёгкадумна падыходзілі да пытаньня аб абвяшчэньні прадпрыемства ўдарным. Замест глыбокай падрыхтоўчай працы па зьнішчэньню недахопаў у адносінах працдысцыпліны, адносін рабочых да вытворчасьці, выкананьня прамфінплянаў—пытаньне адразу выносілася на агульны сход рабочых, „хто за тое, каб абвясьціць нашае прадпрыемства ўдарным?“

Такое пытаньне ставілася на галасаваньне, добра ведаючы, што ня знойдзецца такога чалавека, які адважыцца выступіць супроць гэтага. За прыкладамі далёка хадзіць ня прыдзецца. Вось лесазавод № 13 (Віцебск), які абвясьціў сябе ўдарным, маючы на заводзе 53 чалавека ўдарнікаў на 510 чал. рабочых. Акулярная ф-ка абвясьціла сябе ўдарнай у той час, калі з 75 камуністаў мелася 7 ударнікаў-партыйцаў. Завод „Энэргія“ (Менск), вярбоўку ўдарнікаў праводзіў кампанейскі ад мітынгу да мітынгу, абвясьціўшы сябе ўдарным і ў працягу месяцу пасьля гэтага ўдарныя брыгады зусім не выраталі, у той час калі ва ўдарныя брыгады ўцягнута 400 чал. (на заводзе працуе больш 1000 рабочых).

Ф-ка „Чырвоная Беразіна“ (Барысаў), „Чырвоны Мэталіст“ (Віцебск), Аршанскі чыгуначны вузел, „Чырвоны Кастрычнік“ (Орша) і шэраг іншых прадпрыемстваў, маючы надта дрэнныя паказальнікі па выкананьню прамфінпляну, абвяшчаюць сябе ўдарнымі і ня прымаюць ніякіх захадаў да палепшаньня якасьці працы прадпрыемства, ператвараючы абвяшчэньне ўдарным у нейкі парад, за якім нібы не выцякае ніякіх новых абавязкаў.

Ударнікі, асабліва „старыя“ ўдарнікі (якія ўступілі ва ўдарныя брыгады ла кастрычніку м. 1929 г.), далі шэраг прыкладаў працоўнага гэроізму, яскравых прыкладаў камуністычных форм працы і небеспадстаўна заваявалі назву—застрэльшчыкаў соц. спаборніцтва. Гэтыя ўдарнікі не зьяўляюцца ініцыятарамі пераходу да вышэйшай формы ўдарных брыгад да ўдарных камун.

У той-жа час наглядаюцца такія факты, калі шэраг рабочых прагульшчыкаў, рва-

чоў і г. д. сьпяшаюць запісацца ўдарнікамі, думаючы за гэтай пачэснай маскай скрыць свае антыпралетарскія паводзіны. У нашым друку, у прыватнасьці ў „профруху“ прыводзілася ўжо шмат прыкладаў праяўленьня ілжэўдарніцтва. Абмяжуюся прывядзеньнем аднэй таблічкі, якая аналізіруе склад прагульшчыкаў на заводзе „Чырвоны Мэталіст“ у Віцебску, яна вельмі характэрна.

| Месяцы | Агульная колькасьць прагульшч. | З іх у проц. да агульнае кольк. | | |
|---|---|---|---|---|
| | | Ударнікаў | Членаў і канд. КП(б)Б | Членаў ЛКСМБ |
| Студзень 1930 г. | 49 | 67,3 | 16,3 | 8,1 |
| Люты . . | 34 | 67,6 | 23,5 | 14,7 |

Як відаць з гэтай табліцы, „партпраслойка“ сярод прагульшчыкаў расьце, таксама расьце і ўдзельная вага камсамольцаў і ўдарнікаў сярод прагульшчыкаў. Наўрад ці каго можа радаваць такі „ўзрост“. Але цікава тое, што пакуль ня прышоў на прадпрыемства прадстаўнік ЦСПСБ і ня склаў гэтае табліцы, ні парткалектыў, ні ФК ня ведаў аб гэтым становішчы.

Наогул пры наліччы на ўсіх прадпрыемствах фактаў ілжэўдарніцтва нідзе не наладжана сыстэматычная барацьба супроць гэтага.

Некаторыя партколектывы і ячэйкі здолелі добра наладзіць кіраўніцтва ўдарніцкім рухам. Так, на швэйнай ф-цы „Кастрычнік“ (Менск) партколектыў і цэхпарт'ячэйкі сыстэматычна кіруюць ударніцкім рухам, даюць адпаведныя паказаньні ў працы фракцыі фабкому і цэхпрофбюро, хутка рэагіруюць на асобныя недахопы ў справе ўдзелу ў соцспаборніцтве і ўдарніцкім руху партыйцаў і комсамольцаў. У выніку гэтага партыйцы і камсамольцы зьяўляюцца сапраўды перадавікамі і застрэльшчыкамі ў гэтай справе і прыкладам для беспартыйных рабочых.

Прыкладна такое-ж становішча і на ф-цы „Кл. Цэткін“ (Віцебск). На менскай абутковай ф-цы ўсе партыйцы і комсамольцы ўдзельнічаюць у працы ўдарных брыгад. Калі на ф-цы праводзіўся пера-гляд норм і расцэнак, партыйцы першыя падалі заяву аб дабраахвотным зьніжэньні расцэнкі, падвышэньні норм выпрацоўкі. На пасяджэньнях бюро цэхячэек заслухоўваюцца даклады брыгадзіраў партыйцаў. На Бабруйскім фанерным заводзе парт'ячэйка рэагуе на ўсялякія выпадкі парушэньня працдысцыпліны з боку асобных партыйцаў. На хлебазаводзе МЦРК ячэйка не абмяжоўваецца разглядам агульных пытаньняў сац. спаборніцтва, а разглядвае шэраг асобных пытаньняў, зьвязаных з гэтым, аб ходзе заключэньня індывідуальных дагавароў, аб працы вытворчых камісій, аб удзеле адміністрацыі ў сац. спаборніцтве і г. д., што дае магчымасьць парт'ячэйцы наладзіць сапраўднае ўсебаковае кіраўніцтва соц. спаборніцтвам і ўдарніцкім рухам.

Але такія прыклады добра наладжанага парткіраўніцтва соцыялістычным спаборніцтвам і ўдарніцкім рухам маюцца толькі ў некаторых прадпрыемствах. У большасьці агледжаных прадпрыемстваў (агляд праводзіцца фракцыяй ЦСПСБ) парткіраўніцтва па гэтых галінах працы зьяўляецца недастатковым.

На заводзе „Энэргія“ партколектыў не займаецца кіраўніцтвам ударнікамі, палагаючыся на цэхячэйкі, а цэхячэйкі, не атрымоўваючы належных указаньняў ад бюро партколектыву, таксама не кіруюць гэтай справай. На Бабруйскай мэблявай ф-цы, парткіраўніцтва ўдарнікамі адсутнічае зусім. Маецца шэраг фактаў, калі партыйцы адмаўляюцца прымаць выклік на соц. спаборніцтва. На Бабруйскім камбінаце парт'ячэйка зусім ня цікавіцца пытаньнем аб працы ўдарных брыгад і аб удзеле ў іх партыйцаў. Шэраг партколектываў і парт'ячэяк фармальна ставілі пытаньне соц. спаборніцтва і ўдарніцкага руху. Паглядзім, якія выносіліся пастановы і як правяралася іх правядзеньне ў жыцьцё.

Бюро партколектыву ф-кі „Профінтэрн“ № 1 (Віцебск) 30-І—30 г. абгаварвала пытаньне: „аб пераводзе ўсіх цэхаў ва ўдарныя“ і пастанавіл: „Узмацніць тэмп пераводу ўсіх цэхаў ва ўдарныя і ў сувязі з пераходам узмацніць работу па калектыўнаму ўступленьню ў партыю“.

Папрабуйце праверыць выкананьне такой „яснай" дырэктывы. Той-жа колектыў 18-II па пытаньню аб правядзеньні канфэрэнцыі ўдарнікаў пастанаўляе:

„Даручыць фракцыі фабкому правесьці зьлёт ударнікаў". Цэх'ячэйкі, раўняючыся па Бюро партколектыву, выносяць такія пастановы: „даручыць фракцыі цэхпрофбюро арганізаваць ударны агрэгат і ўцягнуць у яго, у першую чаргу, партыйцаў, комсамольцаў і беспартыйных рабочых" (бюро цэх'ячэйкі піджачнага цэху № 1).

Ня дзіва, што пры такім кіраўніцтве па праверцы аказалася, што на гэтым прадпрыемстве пад сьцягам абвешчаньня яго ўдарным фактычна спынілася... соц. спаборніцтва, бо фабрычныя арганізацыі спынілі дзейнасьць цэхавых дагавароў па соцспаборніцтву, працу сярод ударнікаў і г. д. „навошта ўсё гэта, калі ў нас усе ўдарнікі".

Партколектыў МББ чыгункі ст. Віцебск, да лістапада м-ца не кіраваў соц. спаборніцтвам. У выніку гэтага Бюро партколектыву пасьля праверкі соц. дагавароў выносіць наступную пастанову:

> „Пераважная большасьць партыйных і профорганізацый і гаспадарнікаў недааценілі палітычнай сутнасьці соц. спаборніцтва, як аднаго з асноўных фактараў хутчэйшага выкананьня пяцігодкі. У існуючых ударных брыгадах пры наліччы 600 партыйцаў удзельнічаюць толькі адзінкі. Факты развалу ўдарных брыгад, факты актыўнага выступленьня камуністых супроць соц. спаборніцтва, масавыя зьяўленьні нежаданьня весьці барацьбу з хвасьцізмам, рвацтвам, прагульшчыкамі, парушыцелямі працдысцыпліны, маюцца як сярод камуністаў, так і сярод беспартыйных рабочых. Імкненьне з боку шэрагу камуністаў абараняць парушыцеляў працдысцыпліны, параднасьць у правядзеньні соц. спаборніцтва, адсутнасьць індывідуальнага спаборніцтва і спаборніцтва паміж брыгадамі, цэхамі. Зусім малая колькасьць ударных брыгад і ахоп імі рабочых. Усё гэта па сутнасьці зьяўляецца правым ухілам на практыцы" (з пастановы Бюро партколектыву ад 14-XI—29 г.).

Пасьля гэтае ацэнкі Бюро намеціла шэраг практычных прапаноў па палепшаньню становішча з правядзеньнем соц. спаборніцтва.

Трэба было чакаць, што пасьля такой ацэнкі становішча пытаньне кіраўніцтва соц. спаборніцтвам і ўдарнымі брыгадамі ня будуць сходзіць з абвесткі дню партколектыву. На справе-ж партколектыў за 4 месяцы, якія прайшлі пасьля вынясеньня гэтае пастановы, больш да гэтага пытаньня не зьвяртаўся і намечаныя практычныя мерапрыемствы засталіся на паперы. Праўда, па пытаньню аб выкананьні прамфінпляну, якое разглядалася 7-II—30 г., маецца нейкі напамінак аб соц. спаборніцтве, але ў такіх агульных выразах, што відаць яскравае імкненьне вытрымаць тон. Нельга-ж забываць аб гэтым, і вось пішацца такая пастанова:

> „пытаньню соцспаборніцтва ня зьвернута дастатковае ўвагі... рабоце вытворчых камісій і вытворчых нарад не ўдзелялася патрэбнае ўвагі... справе барацьбы за падвышэньне працдысцыпліны не ўдзялялася належнае ўвагі..." і г. д. усё ў такім-жа духу.

Пры праверцы працы профарганізацыі на чыгунцы, аказалася, што УЧК і МК стаялі ў баку ад соц. спаборніцтва і іх у сакавіку 30 г. прышлося распусьціць. Пры праверцы цэх'ячэйкі № 10 аказалася, што з 35 камуністаў ва ўдарных брыгадах удзельнічаюць толькі 15 чалавек, што шэраг камуністаў і дагэтуль лічаць ударныя брыгады шкоднай выдумкай і г. д.

Парт'ячэйка акулярнай ф-кі да перавыбараў Бюро ячэйкі ў пачатку лютага 30 г. зусім не займалася соц. спаборніцтвам. Пасьля перавыбараў Бюро ячэйкі і ячэйка цалкам займалася гэтым пытаньнем адзін раз, калі разглядвалі дырэктыву Райкому аб выкананьні промфінпляну. Пры чым характэрна, што гэтае пытаньне разглядалася і ў бягучых справах, бяз спрэчак і абгаварэньня. Прынята наступная прапанова:

> „прыняць да ведама і кіраўніцтва, 2) прапанаваць фракцыі фабкому арганізаваць па ўсіх цэхах (што?), 3) аб выкананьні промфінпляну і скарыстаньня для гэтае працы комсамольскую ячэйку і інструктароў цэхаў (?!). 4) прапанаваць інструктарам цэхаў, партчасткі адміністрацыі, а таксама праз фракцыю фабкому ўцягнуць у работу газэты адміністрацыйна-тэхнічны пэрсанал, 5) у кожным нумары газэты асьвятляць аб становішчы і аб працы цэхаў".

Вось гэтая блытаніна і бязглузьдзіца, якую ня мог растлумачыць і сам сакратар ячэйкі. Становіцца зразумелым, чаму ў сакавіку м-цы Пленум Віцебскага Гарсавету зьняў з акулярнай ф-кі імя ўдар-

нага прадпрыемства, за зусім дрэннае выкананьне промфінпляну і ілжэўдарніцтва.

У шэрагу прадпрыемстваў ячэйкі і колектывы не вядуць уліку ўдзелу партыйцаў ва ўдарных брыгадах і лічаць, што ўсе партыйцы—ударнікі, між тым, пры праверцы ў сакавіку 30 г. аказалася, што на шпалернай ф-цы імя Вароўскага з 35 партыйцаў ударнікаў—13. На папяровайўф-цы „Спартак" (Шклоў) з 65 партыйца—ударнікаў 15. На Менскім уч. цягі з 88 партыйцаў—30 ударнікаў, у Аршанскім дэпо з 132 партыйцаў—60 ударнікаў, на ф-цы „Дняпро" (Рэчыца) з 254 партыйцаў—ударнікаў 94, шклозавод „Труды" (Полацкае акр.) з 96 партыйцаў—47 ударнікаў, на Віцебскім хлебазаводзе працуе 11 партыйцаў, з іх ні адзін ва ўдарных брыгадах ня ўдзельнічае, на Віцебскім скурзаводзе з 38 партыйцаў—11 ударнікаў і інш. Наогул, па падліках 70 прадпрыемстваў Беларусі, на якіх працуе 4613 партыйцаў, ва ўдарныя брыгады ўцягнута 2861 партыец, што складае толькі 62 процанты да іх агульнай колькасьці. Праўда, гэта некалькі больш чым сярэдні проц. удзелу рабочых ва ўдарных брыгадах (сярэдні проц. 54,6), але гэта яшчэ надта далёка ад выкананьня дырэктыў ЦК УсеКП(б), аб пагалоўным удзеле партыйцаў ва ўдарных брыгадах.

Калі да аднаго з партыйцаў акулярнай ф-кі зьвярнулія ўдарнікі, каб ён уступіў ва ўдарную брыгаду, ён адказаў: „пагляджу як вы будзеце працаваць ва ўдарнай брыгадзе і тады можа ўступлю". Пры чыстцы гэты „партыец" быў выключан з шэрагаў партыі і ніяк ня мог зразумець за што. Такія прыклады не адзінічны. Так, партыйка Чарнамордзік называла работніцу, якая дабраахвотна зьнізіла расцэнкі, „падхалімкай", а цэх'ячэйка (ф-ка „Профінтэрн"—Віцебск) вынесла па гэтаму пытаньню наступную пастанову: „предложить т. Черномордик выражаться более осмысленно".

На тэй-жа ф-цы „Профінтэрн" партыец Цыпкін выступіў супроць рацыяналізацыі, а рабкора, які паказаў на гэта, называў „правакатарам", за гэта цэх'ячэйка паставіла яму на від. Бюро партколектыву ніяк не рэагавала на такую „лінію" цэх'ячэек і толькі ў выніку праверкі ф-кі камісіяй АК КП(б)Бел. гэтае зьявішча атрымала патрэбную ацэнку. Такія-ж факты маюцца і ў шэрагу прадпрыемстваў.

Неабходна яшчэ ўказаць на зусім недастатковую ўвагу, да таго „новага ў рабочай клясе", на якое ўказваў т. Молатаў. Шэраг ударнікаў масамі падаюць заявы аб уступленьні ў партыю, але слабая перабудова партпрацы затрымлівае гэты парыў і не дае магчымасьці яго замацаваць. Вось на заводзе „Энэргія" (Менск) 180 ударнікаў падалі ў Ленінскія дні заявы аб уступленьні ў партыю, а ў пачатку сакавіка м-ца (праз паўтара м-ца) з іх было прынята ў партыю 5 чалавек, наогул да партколектыву даехала 25 заяў, а 155 заяў перагледжанымі ляжалі ў цэхпарт'ячэйках.

Вось гэта і называецца вярбуюць ударнікаў у шэрагі партыі.

* * *

Ударнікі—застрэльшчыкі соц. спаборніцтва і новых камуністычных форм працы. Ударніцкі рух ахоплівае ўсё больш шырокія масы рабочых і работніц. Ударніцкі рух мае шэраг дасягненьняў, перамог, хвароб і паражэньняў. Бяз узмоцненага парткіраўніцтва, бяз штодзённай, сыстэматычнай дапамогі ў працы ўдарнай брыгады і цэхі ня здолеюць выканаць узятыя на сябе абавязкі.

За ўсямернае ўзмацненьне парткіраўніцтва ўдарніцкім рухам—адзін з цэнтральных, важнейшых лёзунгаў—перабудова партработы на прадпрыемствах.

# У КАМСАМОЛЕ

М. Палякоў

## Аб палепшаньні парткіраўніцтва ЛКСМБ

Студзеньскі пленум ЦК КП(б)Б аб парткіраўніцтве камсамолам сказаў наступнае: „Зьмест парткіраўніцтва камсамолам да гэтага часу не адпавядаў у дастатковай меры задачам партыі на даным этапе разгорнутага соцыялістычнага будаўніцтва. Замест чулага падыходу да вывучэньня паасобных працэсаў у ЛКСМБ і дапамогі яму ў палітычным афармленьні і замацаваньні паасобных пачынаньняў, накіраваных на павышэньне актыўнасьці ЛКСМБ у сацыялістычным будаўніцтве рэспублікі, часта існаваў фармальны падыход штампаваньня прапаноў без праверкі сапраўднага становішча работы на мейсцы, што ў выніку спрыяла нарастаньню хваробных зьявішч у асобных зьвеньнях ЛКСМБ."

Пасьля студзеньскага пленуму ЦК партыі прайшло каля двух месяцаў, але-ж пералому ў гэтым напрамку ня відно і ў шэрагу парторганізацый „воз і ныне там". Аб гэтым яскрава сьведчаць праваапартуністычныя памылкі Бабруйскага, Аршанскага, Магілеўскага АК ЛКСМБ, якія зараз імі прызнаны. Гэтыя памылкі заключаюцца ў тым, што калі даваліся дырэктывы аб удзеле організацый у вясновай с.-г. кампаніі, дык у іх што жадаеце было: ачыстка насеньня, збор попелу і г. д., а грунтоўнае—калектывізацыя с.-г., ліквідацыя кулацтва як клясы; барацьба з апартунізмам, гэтага ня было. На падобную „практыку" ня было адпаведнага рэагаваньня з боку парторганаў.

Бюро Мазырскага АК ЛКСМБ апынулася ў балоце апартунізму, а мы пытаем дзе-ж быў парткамітэт, і ў першую чаргу яго партпрымацаваны да камсамолу.

У Мазыршчыне на некаторых райпартсходах, дзе абгаварвалася пытаньне аб раскулачваньні, даходзіла да таго, што камсамольскі актыў прасілі выходзіць і потым яго не арыентыравалі ў гэтым пытаньні.

У Нядзьведзіцкай яч. (Мазыр) са сходу батрацтва і беднаты папрасілі выйсьці камсамольцаў. Мы маем нават такія выпадкі, калі РК партыі спэцыяльна заслухоўваюць партячэйкі, якія кіруюць камсамолам, а каб АК заслухоўвалі райкомы партыі, гэтага не знойдзеш. Ня кажучы, што вынесеныя пастановы не правяраюцца, як, напрыклад:

Парт'ячэйка № 3 ф-кі „Дзьвіна", кіруючы 3-мя ячэйкамі ЛКСМБ, заслухала справаздачу 2-х ячэек, а рашэньня па гэтых справаздачах ня вынесена, грунтуючыся на тым, што неабходна заслухаць і 3-ю ячэйку, а потым вынесьці агульную пастанову дзеля ўсіх ячэяк, ня гледзячы на тое, што прайшло больш 2-х месяцаў з часу справаздач.

Адной з форм парткіраўніцтва ЛКСМБ гэта кіраўніцтва праз партпрымацаваных, але-ж зачастую бывае кепскі падбор іх, што адбіваецца і на якасьці парткіраўніцтва. Некаторыя зусім ня цікавяцца камсамольскай работай, яе асаблівасьцямі, а часта безадказна да гэтага партабавязку адносяцца, як, напрыклад, у ячэйках (Круглае, Касьмічы) партпрымацаваныя не наведваюць па цэламу году ячэйку камсамолу.

З боку некаторых партпрымацаваных праяўляецца апякунства.

Гулькаўскай яч. (Магілеў) партпрымацаваны кажа: „Ня будзеце працаваць, разганю ячэйку".

Да таго-ж бывае вылучэньне партпрымацаваных, перагружаных іншымі партабавязкамі, якія не даюць магчымасьці зьвярнуць належнай увагі рабоце ЛКСМБ.

У саўгасе „Слаба“ (Мазыр) адзін партпрымацаваны на дзьве ячэйкі ЛКСМБ. У Целяшоўскай яч. (Бабруйск) сакратар партячэйкі ён-жа камсамольскай і хатнік.

Замест павялічэньня парт. асяродку ў ЛКСМБ, маецца памяншэньне, што пацьвярджаецца лічбамі:

Партасяродак.

| Акругі | на 1929 г. | 1-I-30 г. |
|---|---|---|
| Бабруйск . | 735 | 715 |
| Полацак . . | 358 | 312 |
| Магілеў . . | 896 | 875 |

Значна паменшыўся партасяродак у складзе сакратароў ячэяк. Калі ў мінулым складзе сакратароў ячэек партыйцаў было 34,3 проц., то зараз 28, паменшаньне на 6,3 проц. Выкананьне ЛКСМБ задач партыі, якія выцякаюць з рэканструкцыйнага пэрыяду, патрабуе хутчэйшага павароту камсамолу з уключэньнем усёй масы ў гаспадарчае культурнае будаўніцтва, падпарадкаваньня работы ажыцьцяўленьню лёзунгу 5-цігодкі ў 4 гады, суцэльнай калектывізацыі батрацкіх, бядняцкіх і індывідуальных гаспадарак БССР, гэтым самым ліквідацыі кулацтва як клясы, выкарчоўваньня капіталістычных элемэнтаў.

Працуючы ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы, мабілізаваць масы камсамольцаў на дабіваньне „левых“ загібаў, канцэнтруючы агонь барацьбы ва ўсіх выглядах на асабліва зараз небясьпечным правым ухіле, ліквідуючы гэтым самым тыя палітычныя прарывы, якія меліся ў рабоце камсамолу і якія адзначаны Студзеньскім пленумам ЦК КП(б)Б і ЦК УсеЛКСМБ. Усё гэта патрабуе настойліва сапраўднага палепшаньня парткіраўніцтва ЛКСМБ. Каб выканаць дырэктывы Студзеньскага пленуму ЦК КП(б)Б неабходна:

Зьнішчыць недаацэнку ролі камсамолу, што мае з боку некаторых парткамітэтаў, дабіўшыся таго, каб парткіраўніцтва сыстэматычна, штодзённа забясьпечыла ўцягненьня ЛКСМБ у справу большага ўдзелу ў сац. будаўніцтве, у вытворчасьці, уцягненьня ва ўсё жыцьцё прадпрыемства, выкананьня промфінпляну, правядзеньне соц. спаборніцтва на вышэйшую ступень, абхоп і кіраўніцтва ўдарніцтвам, на вёсцы работа па калектывізацыі с.-г., асабліва па ўнутранаму замацаваньню калгасаў, бязьлітасна змагаючыся з глушыцелямі камсамольскай ініцыятывы, гэтым самым падвышаючы клясавую баяздольнасьць ЛКСМБ.

Парткамітэты павінны не абмяжоўвацца агульным заслухоўваньнем дакладаў, а кіраваць паасобнымі галінамі, вывучаць працэсы, якія адбываюцца ў камсамоле. Трэба па ўсёй сыстэме камсамольскай работы больш прад'яўляць патрабаваньняў у справе парткіраўніцтва камсамолам, абавязкова прадугледжваючы ў плянах справаздачу ніжэй стаячых парткомаў, ячэек, як яны кіруюць камсамольскай работай.

Форма парткіраўніцтва, якая праводзіцца праз партпрымацаванага, застаецца і надалей, але-ж трэба павысіць адказнасьць партпрымацованых за выкананьне гэтага партабавязку. Прычым пры парт'ячэйках на чале з партпрымацованым ствараецца сэктар па кіраўніцтву камсамолам у сувязі з перабудовай партапарату, які працуе непасрэдна пад кіраўніцтвам бюро калектываў і ячэек. Асабліва важна сыстэма сэктараў тым, што над пытаньнем работы камсамолу будзе працаваць група партыйцаў, у задачу якіх ўваходзіць:

1. Праверка ажыцьцяўленьня дырэктыў партыі ў штодзенным жыцьці яч. ЛКСМБ і работы на іх аснове сярод моладзі прадпрыемстваў.

2. Дабівацца ўстанаўленьня суадпаведнасьці зьместу форм і мэтадаў работы ячэек КСМ задачам сац. будаўніцтва, удзелу ў ім моладзі.

3. Арганізаваць практычную дапамогу парторганізацыі ва ўсёй рабоце ячэек КСМ.

4. Сачыць за ідэалёгічным становішчам і разгортваньнем практычнай работы ячэйкі ЛКСМБ, ставячы ўсе асноўныя пытаньні непасрэдна перад ячэйкай КСМ і пры неабходнасьці перад парт'ячэйкай.

5. Складаць частку агульнага пляну работы ячэйкі КП(б)Б па кіраўніцтву работай сярод моладзі і месячныя заданьні сэктару.

У вёсцы маецца шэраг ячэек ЛКСМБ, якія існуюць там, дзе няма парт'ячэек, што ўскладняе парткіраўніцтва. РК партыі неабходна іх не забываць, а праводзіць парткіраўніцтва праз суседнія партячэйкі, выклікаючы іх на розныя нарады, склікаючы спэцыяльныя нарады партпрымацаваных і партасяродку. Ні ў якім разе не дапушчаць памяншэньне росту парторганізацыі за лік камсамольцаў, гэтым самым ня зьніжаючы партасяродку ў камсамоле. Патрэбна ЛКСМБ наладзіць сталую падрыхтоўку камсамольцаў у партыю, асабліва з рабочых, батракоў, калгасьнікаў, беднякоў, лепшых ударнікаў соц. фронту, паляпшаючы сац. склад перадаваемых у партыю.

Партасяродак павінен быць скрапляючым касьцяком у рабоце камсамолу, змагаючыся з „дэмобілізацыйнымі" настроямі: як толькі перадалі ў партыю, адрывацца ад ЛКСМБ. Адначасова ўжываючы пэрсанальны падыход да перарosткаў партыйцаў-камсамольцаў, перадаваць іх на агульную работу.

**Работа і кіраўніцтва комсамолу Беларусі характарна адставаньнем і неадпаведнасьцю па свайму тэмпу і зьместу—тэмпам і задачам социялістычнага будаўніцтва ў рэконструкцыйны пэрыод. Маецца значны адрыў комсамольскага кіраўніцтва ад масы і зусім нездавальняючае становішча работы камітэтаў КСМ па перабудове сваёй практычнай работы ў адпаведнасьці з задачамі социялістычнай рэконструкцыі.**

**З пастановы студзеньскага Пленуму ЦК КП(б)Б.**

# РАБОТА КК-РСІ

М. Зярніцкі

## За перабудову форм і мэтадаў масавай працы органаў КК-РСІ.

### Што пастанавіў IV пленум ЦКК КП(б)Б

IV Пленум ЦКК КП(б)Б, які закончыўся ў сакавіку м-цы 1930 г., на падставе матар'ялаў абсьледваньня большасьці акруговых кантрольных камісій, канстатаваў, што „органы КК-РСІ на Беларусі не зьяўляюцца яшчэ сапраўднымі арганізатарамі мас і не стаяць на чале вялікага рэвалюцыйнага энтузіязму і ініцыятывы рабочых".

Між тым далейшае пасьпяховае ажыцьцяўленьне партыяй вялізарнейшых задач рэканструкцыйнага пэрыяду вастрэй і настойлівей, чым да гэтага часу, патрабуюць перабудовы форм і мэтадаў работы па палепшаньню нашага савецкага апарату.

> У гэтым напрамку мы маем такія паказаньні партыі:
>
> „задачы рэканструкцыйнага пэрыяду ня могуць быць вырашаны бяз самага сьмелага, самага рашучага, самага пасьлядоўнага ўцягненьня мас у справу сац. будаўніцтва, праверкі і кантролю з боку гэтых міліёнаў мас усяго апарату, яго ачышчэньня ад нягодных элемэнтаў".
>
> (З адозвы ЦК УсеКП(б) аб самакрытыцы)

Вось чаму Пленум ЦКК КП(б)Б застанавіўся асобна на пытаньні аб формах і мэтадах масавай працы органаў КК-РСІ, у першую чаргу на тых з іх, якія ўжо апраўдалі сябе на практыцы працы органаў КК-РСІ у буйных рабочых цэнтрах.

### Шэфства рабочых прадпрыемстваў над сав. установамі

У гэтым парадку перш за ўсё трэба адзначыць шэфства рабочых прадпрыемстваў над сав. установамі.

Рабочае шэфства зьяўляецца ў сучасных умовах самым сапраўдным мэтадам ажыцьцяўленьня рабочага кантролю над сав. апаратам, ачышчэньня яго ад чуждых элемэнтаў і замены іх рабочымі з вытворчасьці. Пленум, аднак, вымушаны быў канстатаваць, што ў Беларусі шэфства хаця і атрымала некаторы зрух, але зусім недастаткова, у параўнаньні з важнасьцю гэтага пытаньня. Нават па найбольш буйных гарадох БССР (Менск, Гомель, Віцебск) шэфства налічваецца адзінкамі. Таму Пленум даручыў Прэзыдыуму ЦКК і ўсім АКК-РСІ „узяць кіраўніцтва рухам пад сваю ініцыятыву і разам з саветамі, прафсаюзамі і парторганамі пашырыць гэту справу, распаўсюджваючы шэфства над усімі, найбольш важнымі зьвеньнямі сав. і каапэрацыйнага апарату". Органам КК-РСІ пры гэтым трэба папярэджваць магчымыя выпадкі адміністрываньня і аказёньваньня гэтай справы шляхам бюрократызацыі яе ў выглядзе выданьня цыркулярных палажэньняў, навязваньня (шэфства) зьверху рабочым арганізацыям.

Пленум даручыў АКК-РСІ аказаць дапамогу шэфствуючым арганізацыям, не абмяжоўваючы, аднак, ініцыятывы шэфаў у выбары форм і мэтадаў шэфства

пэрыядычна склікаць нарады шэфскіх брыгад, каб на хаду выпраўляць памылкі, падводзіць вынікі работы брыгад, усямерна папулярызуючы работу па шэфству ў друку.

## Вылучэнства і арабачэньне апарату

У рэзалюцыі Пленуму адзначаецца, што „вылучэнства і арабачэньне савецкага і каапэрацыйнага апарату, як адна з актуальных форм барацьбы з бюрократызмам, набывае ва ўмовах шэфства зусім канкрэтныя формы". А таму Пленум прапанаваў усім КК-РСІ „паставіць сваю работу па дапамозе шэфствуючым прадпрыемствам такім чынам, каб у бліжэйшы час з ліку шэфскіх брыгад былі падрыхтаваны рабочыя на адміністрацыйна-адказную працу ў савецкі апарат ня толькі для тых устаноў, над якімі прадпрыемства шэфствуе, але і наогул для вылучэньня ў савецкі апарат".

Пленум адзначыў, што „існуючыя формы масавай працы, як ударныя брыгады і сэкцыі РСІ пры Гарсаветах, „Л. К.", рабкораўскія і інш. арганізацыі да гэтага часу мала скарыстоўваліся органамі КК-РСІ для адбору з ліку найбольш актыўных рабочых для вылучэньня ў савецкі апарат на адказную работу". КК-РСІ павінны тых рабочых-актывістых, якія найбольш сябе праявілі на рабоце, праз адпаведныя органы вылучаць у апарат. Работнікі ЦКК-РСІ і КК-РСІ абавязаны падрыхтоўваць актывістых-вылучэнцаў у сваёй штодзеннай працы шляхам прыцягненьня іх да непасрэднага ўдзелу ў абсьледваньнях КК-РСІ, як, напрыклад, перадаваць ім для самастойнай праверкі асобныя часткі абсьледваньня, прыцягваць да ўдзелу ў разглядзе матар'ялаў і выпрацоўцы прапаноў і г. д., што павінна служыць школай выхаваньня рабочых, батракоў і беднаты для падрыхтоўкі іх на кіруючую работу ў сав. апарат.

Пленум даручыў КК-РСІ перагледзець ва ўсіх установах тыя пасады, якія могуць замяшчацца вылучэнцамі, і праверыць работу ўжо вылучаных і тых, якія зараз працуюць у апараце, пад пунктам погляду, як скарыстоўваюцца ў апараце вылучэнцы і наколькі створаныя абставіны садзейнічаюць нармальнай іх рабоце.

## Часовыя Кантрольныя Камісіі

Часовыя кантрольныя камісіі ва ўстановах, як адна з найбольш дзейственных форм масавага кантролю над сав. апаратам, не знайшлі яшчэ ў нас шырокага прымяненьня. Толькі за апошні час, у сувязі з чысткай сав. апарату (асобна трэба адзначыць ініцыятыву Віцебскай АКК у гэтым пытаньні) былі ўтвораны ЧКК ва ўстановах, якія ў значнай. меры, у на гэтым невялікім вопыце сябе апраўдалі.

Пленум ЦКК КП(б)Б зьвярнуў асаблівую ўвагу кантрольных органаў на важнасьць арганізацыі гэткіх часовых кантрольных камісій ва ўстановах па прыкладу ЧКК на прадпрыемствах, вопыт якіх цалкам сябе апраўдаў.

Камісіі павінны абірацца непасрэдна на фабрычна-заводзкіх прадпрыемствах-ці саветамі. Па рашэньню XVI партканфэрэнцыі „Галоўнымі задачамі камісій павінны быць: праверка выкананьня сав. законаў і партыйных дырэктыў і ў сувязі з гэтым выяўленьне канкрэтных выпадкаў бюрократызму і цяганіны, выпрацоўка мер, забясьпечваючых палепшаньне работы апарату, у асаблівасьці ў галіне абслугоўваньня шырокіх мас працоўных".

## Сэкцыі РСІ на вёсцы

Перабудова сельскай гаспадаркі на сацыялістычных падставах, задачы, зьвязаныя з ліквідацыяй кулацтва, як клясы—гаворыцца ў рэзалюцыі Пленуму ЦКК—патрабуюць, каб КК-РСІ значна павялічылі сваю ўвагу пытаньням калектывізацыі сельскай гаспадаркі і рабоце на вёсцы ўсіх савецкіх і грамадзкіх арганізацый.

Задачы, якія выцякаюць з правадзімай работы па перабудове вёскі, патрабуюць, каб сэкцыі РСІ пры РВК і сельскіх і местачковых саветах зрабіць актыўнымі дапаможнікамі КК-РСІ.

Ажыўленьне працы сэкцый павінна быць утворана на падставе павароту іх работы да задач калектывізацыі.

Яны павінны наглядаць за дзейнасьцю савецкіх, асабліва зямельных, органаў на вёсцы, за гаспадарчай дзейнасьцю колгасаў, садзейнічаць абагуленьню сродкаў вытворчасьці (насеннага матар'ялу, жывёлы і мёртвага інвэнтару), праверыць падрыхтаванасьць усіх органаў да вясеньняе сяўбы, сачыць за практыкай канфіскацыі ў кулацтва маемасьці і правільным яго скарыстаньнем.

Каб справіцца з такімі задачамі, сэкцыі РСІ павінны цесна зьвязацца з саўгасамі і колгасамі, адкуль чарпаць актыў з с.-гаспадарчых рабочых, батрацтва і бедняты і арганізоўваць іх вакол сэкцый.

Матар'ялы абсьледваньняў, утвораных Віц. і Бабр. АКК-РСІ, паказваюць, што разам з узорамі прыкладнай работы асобных сэкцый РСІ, аднак, ня ўсе сэкцыі РСІ правільна разумеюць свае задачы. Яны бяруцца часта за выкананьне такіх задач, якія належаць да РВК, ці судоў, у той час, як свае непасрэдныя задачы па кантролю за выкананьнем законаў і барацьбе з бюрократызмам застаюцца нявыкананымі.

Пленум даручыў усім КК-РСІ пільна сачыць за тым, каб сэкцыі РСІ не ператварыліся ў дадаткі да адміністрацыйных органаў на мясцох, а зьяўляліся-б сапраўднымі кантрольнымі органамі.

Працуючы пад агульным кіраўніцтвам тых органаў, пры якіх яны ўтвараюцца (РВК, сельсав., мест. сав.), сэкцыі павінны весьці сваю работу ў напрамку агульных задач, намячаемых КК-РСІ.

КК-РСІ ў сваёй рабоце па кіраўніцтву сэкцыямі павінны зорка сачыць і змагацца з замкнутасьцю і канспіратыўнасьцю ў працы сэкцый, ствapыўшы масавасьць і шырачайшую галоснасьць асноўным мэтадам работы сэкцый.

Улічваючы тое, што камісіі РСІ, утвораныя ў частцы сельсаветаў і пры ўсіх РВК на падставе ўрадавага закону ад 2/III-29 г.,—зусім сябе апраўдалі,— Пленум выказаўся за неабходнасьць утварэньня камісій *пры ўсіх сельсаветах.*

## Лёгкая кавалерыя

„Л. К.", як форма масавага ахопу і ўцягненьня пралетарскай моладзі ў сац. будаўніцтва і барацьбу з бюрократызмам па ацэнцы Пленума, бязумоўна сябе апраўдала. Вялізарнейшая дапамога, аказаная „Л. К." органам РСІ ў справе барацьбы з скажэньнямі клясавай лініі ў паасобных установах, барацьбы з цяганінай і засьмечанасьцю апарату і зажымам самакрытыкі—сьведчаць аб каштоўнасьці гэтай арганізацыі ў рабоце КК-РСІ.

Аднак, кіраўніцтва і дапамога „Л. К." у рабоце, як з боку КСМ, так і органаў КК-РСІ Пленум прызнаў недастатковымі.

Пленум адабрыў рашэньне Прэзыдыуму ЦКК па скліканьні і правядзеньні Усебеларускага зьлёту „Л. К." і даручыў Прэзыдыуму і ўсім КК-РСІ цалкам скарыстаць і садзейнічаць ажыцьцяўленьню рашэньняў Усебеларускага зьлёту „Л. К.".

## Іншыя формы масавае працы КК-РСІ

Надаючы вялікую палітычную значнасьць *добраахвотным дапаможнікам РСІ* ў барацьбе з канкрэтнымі выпадкамі бюрократызму, Пленум прызнаў неабходным усямерна пашырыць гэту форму масавай працы з тым, каб вялося вылучэньне складу добраахвотнікаў для вылучэньня лепшых з іх складу ў сав. апарат.

Асобна Пленум адзначыў важнасьць *прыцягненьня працоўных жанчын* з арганізаваных у дэлегацкія сходы.

Надзвычайна карысным зьяўляецца таксама прыцягненьне да працы КК-РСІ *лепшых добраахвотнікаў-спэцыялістых*, адданых сав. уладзе і справе сац. будаўніцтва. Прыцягненьне масавых арганізацый і спэцыялістых набывае асаблівае значэньне ў працы КК-РСІ па праверцы па прадпрыемствах выкананьня прамфінпляну, ходу сац. будаўніцтва і разгортваньня ўдарніцтва.

Пленум адзначыў, што КК-РСІ ня выканалі дырэктыў II Пленуму ЦКК КП(б)Б аб рабоце Б. Скаргаў і ў прыватнасьці ва ўсіх Б. Скаргаў *не вядзецца работы сярод рабочых заседацеляў.* Усім КК-РСІ даручана наглядаць за тым, каб абраныя на заводах заседацелі ня толькі рэгулярна прыцягваліся да работы, але давалі-б пэрыядычна на сваім прадпрыемстве справаздачы аб сваёй дзейнасьці.

У мэтах вярбоўкі новых кадраў добраахвотнікаў з ліку рабочых і батрацтва, бядняцкай моладзі сялянства, Пленум прызнаў неабходным у большай меры практыкаваць *перанясеньне разгляду спраў з мураў РСІ на прадпрыемствы і ў калгасы.* Гэтыя выезды адначасова трэба скарыстоўваць для справаздач аб сваёй рабоце.

## Самакрытыка—асноўны мэтад працы

Зусім зразумела, што ўдзел мас у працы органаў КК-РСІ будзе павялічвацца і якасна паляпшацца толькі ў меру пасьпяховага разгортваньня самакрытыкі зьнізу, калі органы КК-РСІ усёй сваёй працай будуць сапраўды дапамагаць разгортваньню самакрытыкі і вясьці бязьлітасную барацьбу з скажэньнямі і прасьледваньнямі за крытыку.

У гэтых адносінах чыстка партыі, праверка і чыстка сав. апарату, абсьледваньня з боку ЦКК работы Гомельскай, Віцебскай і Полацкай КК-РСІ, а таксама паасобныя факты ў друку паказваюць недастатковасьць разгортваньня самакрытыкі, скажэньні ў паасобных арганізацыях лёзунгу партыі аб самакрытыцы, зажым яе і паўтараючыяся і зараз выпадкі прасьледваньня рабкораў і селькораў. У шэрагу парт. арганізацый самакрытыка ня стала яшчэ мэтадам работы і не зьяўляецца дзейственнай.

Органы КК, ня толькі заўсёды сваячасова і рашуча становяцца на шлях разгортваньня самакрытыкі і абароны рабкораў, а нават у паасобных выпадках, прымаючы няправільныя рашэньні, аб'ектыўна самі аказваюцца зажымшчыкамі, як гэта мела месца ў Гомельскіх справах аб прасьледваньнях рабкораў і інш. і ў справе рэдакцыі газэты „Заря Запада".

Пленум даручыў Прэзыдыуму ЦКК і ўсім АКК, на прыкладах Гомельскай АКК у далейшым вясьці бязьлітасную барацьбу з праваапартуністычнымі скажэньнямі лёзунгу партыі аб самакрытыцы, ня гледзячы на асобы, асабліва абараняючы рабселькораў і сьценкораў ад прасьледваньня і траўлі з боку асоб і арганізацый, рашучым чынам рэагуючы на крытыку ў друку.

Пленум ухваліў рашэньне ЦКК аб палепшаньні „Лісткоў РСІ" ў цэнтральных і акруговых газэтах і даручыў Прэзыдыуму ЦКК і АКК удзяліць у далейшым больш увагі сваячасоваму выпуску „Лісткоў", вызначыўшы ў кожнай КК-РСІ адказных работнікаў у якасьці фактычных рэдактароў „Лісткоў" і забясьпечыўшы нармальны пэрыядычны выпуск „Лісткоў".

* * *

Значэньне IV Пленуму ЦКК КП(б)Б заключаецца ў тым, што ён паставіў перад органамі КК-РСІ на Беларусі, як адну з галоўных задач пытаньне арганізацыі мас дзеля выкананьня генэральнай лініі партыі і даручыў Акр. КК у бліжэйшы час перабудаваць усю сваю работу ў суадпаведнасьці з задачамі рэканструкцыйнага пэрыяду.

Значэньне гэтага Пленуму яшчэ ў тым, што ў яго рашэньнях даны ня толькі агульныя ўстаноўкі, але вызначаны яшчэ шэраг практычных паказаньняў, якім чынам мясцовым кантрольным органам правесьці гэту перабудову сваёй працы, каб стаць сапраўднымі арганізатарамі мас у барацьбе за палепшаньне сав. апарату.

# БІБЛІЯГРАФІЯ

## Карысная кніжка

**Фролов и Барчук. Колхоз „Красный Мелиоратор“. (Как кулак „врастает в социализм“). С предисловием С. И. Сырцова. Колхозцентр СССР. Изд. Книгосоюза 1930 г., тир. 15.000 экз. 136 стр. Цена 75 коп.**

Мы раім кожнаму партыйнаму работніку, у прыватнасьці таварышам, якія непасрэдна працуюць у галіне калгаснага руху прачытаць гэтую кніжку. У ёй паказваецца практыка „ўрастаньня кулака ў соцыялізм“. Калі правыя элемэнты нашай партыі „тэорэтычна“ абгрунтоўвалі неабходнасьць „паступовага ўрастаньня кулака ў сыстэму соцыялістычных элемэнтаў“, ў той-жа час кулак карыстаючыся політычнай блізарукасьцю і апортуністычнай сутнасьцю некаторых партыйных работнікаў, пад шыльдай калгасу парашыў „памаленьку і па ціхеньку“ ўрастаць у соцыялізм“.

Вядома, што клясавы вораг кожны раз пры спробах адчыненага выступленьня супроць дыктатуры пролетарыяту, супроць рашучага соцыялістычнага наступу атрымлівае па руках. Таму ён апрача простае барацьбы імкнецца намацаць слабейшае месца там, дзе вока клясавай зоркасьці адказваецца добра служыць, імкнецца пралезьці ў калгасы і вясьці падрыўную работу з сярэдзіны, з нутры і гэтым самым падрывае давер'е шматмільённай масы бядняцка-серадняцкага сялянства да новых форм гаспадараньня—калгасаў.

Жорсткае клясавае змаганьне навакол калгасаў, змаганьне з кулацкай агітацыяй і падрыўной работай. праяўляецца падчас у вельмі вострай форме. Кулацтва аказвае самае рашучае супраціўленьне калгаснаму будаўніцтву, бо калгасы нясуць сьмерць распыленай дробнай буржуазнай вытворчасьці, яны няўхільна выціскаюць капіталістычныя спосабы гаспадараньня ў вёсцы.

Зараз партыя праводзіць політыку ліквідацыі кулацтва як клясы на базе суцэльнай колектывізацыі. У такіх умовах праходзіць абвастрэнне клясавага змаганьня. Клясавая барацьба вядзецца і ў калгасах. Зразумела клясавае змаганьне ўнутры калгасу ня можа прыраўняцца да клясавага змаганьня па-за калгасамі. Перадавое батрацтва, бедната і серадняцтва імкнуцца замацаваць калгасы, ўзорна організоўваць яго працу, а варожыя кулацкія элемэнты вядуць падрыўную работу з нутры, прымаючы ўсе захады да развалу калгасу, дэзорганізуюць яго работу. Нельга прадстаўляць сабе справу такім чынам, што раз організаваўся калгас. значыцца клясавая барацьба „спыняецца“, бо „няма з кім змагацца“. Гэтак можа разважаць толькі дробны буржуа, а не пролетарскі рэвалюцыянэр. Гэтак можа разважаць толькі той, хто трапіў у балота правага апортунізму, бо правым апортуністым якраз прыстала ня бачыць клясавае барацьбы паміж элемэнтамі соцыялістычнымі, з аднаго боку, і капіталістычнымі, з другога.

Нельга таксама думаць быццам: „ліквідаваць кулацтва як клясу можна ў адну ноч“ ці на працягу некалькіх дзён. Барацьба з кулацтвам, з кулацкай ідэалёгіяй не працягваецца адну ноч ці адзін тыдзень. Хто разважае такім чынам, той зьяўляецца прадстаўніком „левага“ апортунізму, той на справе дапамагае правым апортуністым, бо ён замазвае сапраўдныя суадносіны клясавых сіл у вёсцы, змазвае жорсткае клясавае змаганьне, якое ў сучасных умовах адбываецца ў вёсцы ў барацьбе за соцыялістычную перабудову дробнае таварнае вытворчасьці.

Трэба вачыма бальшавіка глядзець на справу не замазваючы таго факту, што клясавае змаганьне вакол калгасаў вядзецца вельмі жорсткае. Толькі цьвяроза ацэньваючы становішча можна рашуча выпраўляць памылкі і скрыўленьні лініі партыі ў калгасным будаўніцтве, можна з посьпехам змагацца супроць кулацтва і яго антыкалгаснай „тэорыі і практыкі“, можна перамагчы права-апортуністычную небясьпеку і „левыя“ загібы.

У кніжцы, якую мы разглядаем зараз паказана, як клясава-варожыя нам элемэнты пранікалі ў калгас, узялі верх у кіраўніцтве калгасам і кіравалі яго развіцьцём па шляху выгаднаму кулацкім элемэнтам.

Тав. Молатаў гаварыў аб гэтым калгасе „Чырвоны Мэліаратар“ на Маскоўскай Партконфэрэнцыі наступнае:

Калгас „Чырвоны Мэліаратар“ існуе 5 год... Ён лічыцца ў Ніжня-Волжскім краю самым прыкладным. Старшыня „Чырвонага Мэліаратара“ нейкі Панасенка, за „прыкладную“ работу нават быў выбраны членам ЦВК і Усесаюзнага Савету Калгасаў. На справе-ж гэты калгас аказаўся ва ўладзе эсэраўска-кулацкай групы, у ліку яе знаходзіліся 6 былых гандляроў. Адзін буйны дамаўласьнік, адзін шынкар. 7 кулакоў, адзін былы абшарнік, адзін былы кіраўнік абшарніка, адзін былы ўраднік і г. д. Сам старшыня гэтага калгасу, Панасенка—выхадзец з „левых“ эсэраў, у 1918 годзе, у час лева-эсэраўскага паўстаньня быў арыштаваны ў Вялікім тэатры разам з усёю фракцыяй левых эсэраў. Для характарыстыкі гаспадарчай дзейнасьці калгасаў—тав. Фролаў паказаў на наступнае: а) калгас з кулакамі ўзаемна крэдытаваўся; б) у калгасным стадзе на ўмовах, непрыбытковых для калгасу, пасьвілася кулацкае бydла; в) кулаку Малякіну было здадзена ў субарэнду 150 *га* сенажаці; з кулаком Вольфам было організавана сумеснае прампрадпрыемства. Над батрацтвам і беднатою. эсэраўская кулацкая банда кулакоў „Чырвонага Мэліаратара“ літаральна зьдзекавалася. У калгасе досыць адкрыта вялася антысавецкая прапаганда. Нельга прайсьці паміж таго, факту, што ў свой час у організацыі „Чырвонага Мэліаратара“ прымаў актыўны ўдзел загадчык зямельным кіраў-

ніцтвам Мікалаеўска тав. Суханаў. Вось, аказваецца, якія небывалыя на першы погляд рэчы могуць тварыцца на 12-ым годзе рэвалюцыі пры папусьцільстве каго-ні-каго з камуністаў кіраўнікоў. Ласьне не адбівае гэты выпадак таго факту, што права-ўхілісцкія скрыўленьні на практыцы ідуць на карысьць эсэраўска-кулацкім элемэнтам? Ласьне не паказве ён, што ўсямернае разьвіцьцё самакрытыкі для барацьбы са скрыўленьнямі лініі партыі і савецкай улады на практыцы зьяўляецца аднэй з элемэнтарных прадпасылак соцыялістычнага разьвіцьця СССР. З другога боку, ясна, што баязьлівасьць разгортваньня бальшавіцкай самакрытыкі, зьяўляецца адлюстроўваньнем дробнабуржуазнага нявер'я ў сілы рабочае клясы, нявер'я ў здольнасьць бальшавіцкай партыі перамагчы ўсё, усялякія перашкоды на шляху будаўніцтва соцыялізму".

Вось як па сутнасьці абстаіць справа з калгасам, які на працягу вядомага часу лічыўся самым узорным, які ставілі ў прыклад другім калгасам.

Прачытаўшы кніжку тав. Фролава і Барчука можна грунтоўна азнаёміцца з мэтадам абсьледваньня калгасу, што вельмі карысна кожнаму калгаснаму работніку, кожнаму абсьледвацелю. Мы гэтым ня хочам сказаць, што кніжка мае акадэмічны сэнс. Наадварот. Толькі ўлічваючы вопыт сталых досьледаў калгаснага будаўніцтва можна бачыць недахопы сваёй працы і зьвярнуць увагу на тыя бакі работы калгасу, якія „губляліся" ў штодзённай практыцы. З другога боку—правільна пастаўленае абсьледваньне калгасу дае магчымасьць аказаць сур'ёзную дапамогу ў выпраўленьні памылак і недахопаў у калгасным жыцьці.

Такім чынам вясковы партыйны, савецкі і калгасны работнік не павінен пашкадаваць часу на тое, каб добра прачытаць кніжку тав. Фролова і Барчука.

Выкрываць хітрыкі клясавага ворага, уздымаць клясавую пільнасьць і баяздольнасьць вясковых і партыйных організацый вось чаму вучыць справа „Чырвонага Мэліаратара". **Партыец.**

# Сваячасова і патрэбна

**Л. Лібэрман. Аб арганізацыі беднаты і батрацтва.**—Пераклад і перапрацоўка па беларускіх матар'ялах М. Кузьмы. БДВ. 1930 г., тыраж 15.000 экз. 60 стар. Цана 10 кап.

Брашура Л. Лібэрмана, насычаная прыкладамі і матар'яламі работы ў БССР, у популярнай і шырока даступнай форме растлумачвае дырэктывы партыі аб рабоце сярод батрацтва і беднаты. Патрэба ў выданьні такой брашуры зараз вялікая і таму яе выхад якраз да часу.

Патрэба ў выданьні вялікая таму, што зараз асабліва востра неабходна ставіць пытаньне аб узмацненьні работы сярод батрацтва і беднаты, становішча, якое на сёньня існуе з гэтай работай, застаецца дрэнным і акрамя гэтага ў нізавых працаўнікоў яшчэ дзе-ні-дзе, існуе няяснасьць у формах і мэтадах работы сярод беднаты. Брашура разьлічана ня толькі на нізавога актывістага, але можа быць зусім лёгкай і зразумелай для чытаньня кожнаму параўнаўча пісьменнаму чалавеку.

Аўтар брашуры адбівае сучаснае становішча работы сярод батрацтва і беднаты і ў асноўным правільна аналізуе прычыны слабасьці работы груп беднаты. Гэтыя прычыны аўтар падзяляе на наступныя: *Першае*, малая колькасьць батракоў у складзе сельсаветаў і праўленьнях коопэратываў. Батракі члены сельсаветаў і іншых арганізацый слаба ўцягнуты ў работу батрацка-бядняцкіх груп. *Другое*, засьмечанасьць складу груп беднаты чужымі людзьмі. Мы лічым, што выпадкі засьмечанасьці груп беднаты ня носяць масавага характару і таму наўрад ці можа гэта зьяўляцца аднэй з асноўных прычын слабай работы груп беднаты. *Трэцяе*, што асабліва зьяўляецца шкодным, гэта слабае кіраўніцтва групамі беднаты з боку партыйных ячэек і абыякія адносіны да груп з боку савецкіх, а асабліва каапэрацыйных організацый. Аўтар зусім правільна піша, што:

„Да гэтага часу ня ўсе мясцовыя партыйцы і мясцовыя партарганізацыі ўсьвядомілі дырэктывы партыі аб групах беднаты. Не зразумелі яшчэ што групы беднаты зьяўляюцца апорнымі пунктамі партыі ў вёсцы. Дзякуючы гэтаму нават там, дзе работа групы сяк-так праводзіцца, яна вядзецца ад выпадку да выпадку, бяз пляну. Вельмі шмат груп беднаты займаюцца толькі асобнымі, выпадкова ўсплываючымі пытаньнямі. Асноўнымі пытаньнямі жыцьця вёскі займаецца вельмі мала груп. Мала яшчэ групы займаюцца выяўленьнем кулацкіх хітрыкаў, выяўленьнем саміх кулакоў, выяўленьнем захованага ў кулакоў збожжа. Недастаткова групы займаюцца колгасным будаўніцтвам і ў прыватнасьці падборам членаў калгасу, недапушчаньнем у калгасы кулакоў, організацыяй працы ў калгасах і г. д. Слаба распрацаваны разьдзел аб рабоце груп беднаты ў калгасах, у распрацоўцы такога пытаньня ёсьць вялікая неабходнасьць.

Між іншым, імкненьне аўтара пісаць больш папулярна прыводзіць да вульгарызацыі. У адным з абзацаў на 35-й старонцы аўтар аб калгасах піша:

„Ад колгасу да соцыялізму—шлях нядоўгі. Колгас для бедняка і серадняка—накшталт школы для няпісьменнага. Няпісьменны ў школе робіцца пісьменным. Селянін у колгасе патроху робіцца грамадаўцам".

Блытана і незразумела. Гэтак і ў другім месцы „Калгас трэба ператварыць у школу комунізму, як зьвернуты (што значыць „зьвернуты"? *М. Х.*) у іх нашы профсаюзы".

У брашуры ўдала сабраны прыклады як дрэннай, гэтак і добрай работы сярод беднаты. Больш прыкладаў дрэнных, а галоўная задача ў тым, што зусім недастаткова высьветлены *вопыт* работы партыйных ячэек сярод батрацтва і беднаты.

Ня гледзячы на заўважаныя недахопы брашуру можна і трэба раіць масаваму чытачу і абавязкова неабходна прачытаць кіраўнікам груп беднаты. Усё гэта яшчэ тым больш магчыма, што цана (10 кап.) і тыраж (15 тысяч) дазваляюць кніжку прасунуць у масы. **М. Хмуры.**

# РЭЗАЛЮЦЫІ САКАВІКОВАГА ПЛЕНУМУ ЦК КП(б)Б

## Аб ходзе калектывізацыі і падрыхтоўцы да веснавой пасеўнай кампаніі

*Рэзалюцыя пленуму ЦК КП(б)Б па дакладу тав. Галадзеда.*

1. Пленум ЦК КП(б)Б, заслухаўшы даклад т. Галадзеда аб ходзе калектывізацыі і падрыхтоўцы да веснавой кампаніі, азначае, што вынікі калектывізацыі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак БССР да пачатку веснавой сяўбы бягучага году паказваюць, што палітыка нашае партыі, накіраваная на максымальна магчымыя тэмпы індустрыялізацыі краіны і сацыялістычную рэканструкцыю сельскае гаспадаркі на базе арганізацыі буйных савецкіх гаспадарак і калектывізацыі—зьяўляецца адзіна правільнай палітыкай. Дзякуючы гэтай палітыцы ўтварылася поўная магчымасьць рэарганізаваць сельскую гаспадарку на сацыялістычных падставах, замяніць вытворчасьць кулацкіх гаспадарак вытворчасьцю калгасаў, ахапіўшы калектывізацыяй мільённыя масы бядняцка-серадняцкага сялянства, што дало магчымасьць паставіць і ажыцьцяўляць задачу ліквідацыі кулацтва як клясы. Іменна дзякуючы правільнасьці генэральнай лініі партыі мы дасягнулі гэтых вялізарных посьпехаў у справе сацыялістычнай перабудовы сельскае гаспадаркі і яшчэ раз даказалі шкоднасьць ідэй, якія прапаведваліся правымі ўхілістымі, спрабаваўшы адцягнуць нашую партыю ад ленінскага шляху ў дробнабуржуазнае балота, на шлях, які вядзе да рэстаўрацыі капіталізму ў нашай краіне.

Уся партыя, пад кіраўніцтвам Ленінскага ЦК УсеКП(б), на падставе ленінскай тэорыі, дала рашучы адпор права-ўхілісцкім тэорыям абанкроціўшыхся лідэраў правых, вядучы адначасова сыстэматычную барацьбу з правым апартунізмам на практыцы і тым самым забясьпечыла ажыцьцяўленьне задач сацыялістычнай рэканструкцыі сельскае гаспадаркі.

2. Адзначаючы сапраўдныя посьпехі калектывізацыі сельскае гаспадаркі БССР, якія паказваюць што ўсе нашыя самыя оптымістычныя плянавыя меркаваньні значна перавышаны, пленум ЦК КП(б)Б разам з гэтым канстатуе, што ў шэрагу месц пры правядзеньні калектывізацыі дапускалася самае шкоднае, часам даходзячае да простага злачынства, скажэньне лініі партыі. Гэтыя скажэньні і скрыўленьні генэральнае лініі нашае партыі выявіліся: у парушэньні дабраахвотнасьці і прымяненьні прымусовай калектывізацыі, у дапушчэньне бездаказнага абагульньня «ўсяго і ўся» і тым самым грубым чынам парушаліся дырэктывы ЦК УсеКП(б) (пастанова ад 6-І 1930 г.), XVI партыйная канфэрэнцыя і ЦК КП(б)Б аб поўным забесьпячэньні прынцыпаў сапраўднай дабраахвотнасьці пры правядзеньні калектывізацыі.

Ёсьць выпадкі, калі ня толькі паасобныя члены партыі, але нават і цэлыя раённыя арганізацыі грунтавалі сваю работу па калектывізацыі выключна на антыпартыйных мэтадах адміністраваньня ў справе калектывізацыі, прыбягаючы нават і да простых пагроз у адносінах да серадннякоў і беднякоў, не жадаючых пакуль што ісьці ў калгас (пагроза высылкі ў Салаўкі, пагроза перасяленьня ў Сібір, арышт і інш.), нават былі выпадкі раскулачваньня паасобных серадннякоў, пазбаўленьня іх выбарчых праваў і інш.

Замест сур'ёзнай і глыбокай палітычнай працы, якая павінна была быць разгорнута ўсімі партарганізацыямі пры арганізацыі калгасаў, многія члены партыі прадпачыталі «лёгкія» мэтады працы шляхам адміністраваньня, што прыводзіла да перагібаў і скрыўленьня правільнай лініі партыі, тым самым такія «калектывізатары» дапамаглі нашым клясавым ворагам (кулакам і контррэвалюцыйным элемэнтам) весьці барацьбу супраць калгасаў.

Замест канцэнтрацыі ўвагі ўсіх арганізацый на абагуленьні асноўных сродкаў вытворчасьці (інвэнтару, коняй, насеньня, гаспадарчых пабудоў, таварна-прадукцыйнай рагатай жывёлы) частка таварышоў займалася абагуленьнем усёй жывёлы, у тым ліку дробнай і птушак.

У шэрагу выпадкаў паасобныя перагібы даводзілі нават да таго, што некаторыя «калектывізатары» імкнуліся калектывізаваць горад і мястэчка, і, раскулачваючы кулака, дапускалі ў некаторых мясцох раскулачваньне дробнага гандляра ў горадзе і ў мястэчку і нават раскулачваньне дробнага местачковага вытворцы (саматужніка з адным альбо двума вучнямі).

Гэтыя перагібы з аднаго боку, з другога неправільнае рэгуляваньне гандлю прыводзілі і да адміністрацыйнага ліквідаваньня рынкаў, што, бязумоўна, парушала таваразварот паміж горадам і сялянствам і затрудняла снабжэньне рабочых гораду прадуктамі сельскае гаспа-

даркі. Падобныя перагібы зьявіліся ў шэрагу выпадкаў простым вынікам яўнага неўразуменьня і скрыўленьня правільнай лініі партыі, а часам і нежаданьня яе праводзіць. Адсюль і перагібы ў пазбаўленьні выбарчых праваў значнай часткі местачковай беднаты, што падлягае безадкладнаму выпраўленьню на падставе маючыхся дырэктыў. Неабходна дасканала і цьвёрда кіравацца ў гэтым пытаньні дырэктывай, выказанай т. Сталіным у адказ на запытаньні сьвярдлоўцам (адказ на першае запытаньне) і пастановай ЦК УсеКП(б) аб аднаўленьні рынку (пункт 6 адозвы ЦК УсеКП(б).

Пленум ЦК КП(б)Б самым рашучым чынам асуджае допушчаныя перагібы і папераджае, што да ўсіх парушыцеляў правільнай партыйнай лініі ў справе калектывізацыі будуць прымацца самыя суровыя меры пакараньня аж да выключэньня з шэрагаў партыі, як тых людзей, якія лічучы сябе самымі «левымі», на справе льлюць ваду на млын правых апартуністаў, якія (правыя апартуністыя), скарыстоўваючы паасобныя памылкі і перагібы ў справе калектывізацыі, пытаюцца апраўдаць сваю праваапартуністычную тэорыю і практыку, вазводзячы памылкі паасобных галавацяпаў у генэральную лінію нашай партыі. Абавязак усіх членаў КП(б)Б, КСМ даваць самы рашучы адпор падобным імкненьням правых апартуністых і «левых» загібшчыкаў.

3. Разам з адзначанымі вынікамі калектывізацыі, якія дасягнуты да гэтага часу, Пленум ЦК КП(б)Б лічыць зусім нездавальняючымі вынікі падрыхтоўкі да веснавой пасеўнай кампаніі. Ня гледзячы на тое, што да пачатку сяўбы засталіся тыдні, і нават дні, а абагуленьне насеньня, рабочае жывёлы, сельска-гаспадарчага інвэнтару праходзіць зусім нездавальняюча, рамонт інвэнтару праходзіць злачынна слаба. Зусім недапушчальна праводзіцца работа па кантрактацыі, прычым шмат работнікаў лічаць, што ў зьвязку з суцэльнай калектывізацыяй задача кантрактацыі адышла на задні плян, што зьяўляецца ня толькі сугуба памылковым, але і шкодным. Зусім слаба праводзіцца работа па арганізацыі машына-конных станцый. Нездавальняюча арганізуецца праца ў калгасах. Слаба арганізавана работа па складаньні вытворча-гаспадарчых пляпаў у калгасах і зусім не разгорнута сацыялістычнае спаборніцтва, як мэтад штодзеннай работы. Адначасова Пленум ЦК КП(б)Б рашуча падкрэсьлівае нездавальняючасьць работы ўсіх арганізацый па своечасовай падрыхтоўцы да веснавой сяўбы бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, не ўвайшоўшых у колгасы (індывідуальны сэктар).

Шэраг арганізацый недаацэньваюць вялізарнага значэньня веснавой пасеўнай кампаніі, якая павінна адыграць вялікую ролю ў сапраўдным ажыцьцяўленьні сацыялістычнай рэканструкцыі сельскае гаспадаркі, падвышэньні яе вытворчасьці на новай базе. Неабходна ўцяміць, што пасьпяховае правядзеньне веснавой пасеўнай кампаніі бягучага году будзе мацнейшым ударам па кулаку.

4. Выходзячы з вышэйадзначанага і прымаючы пад увагу выключна важнае значэньне далейшага замацаваньня і пашырэньня калгаснага будаўніцтва і поўнага і безагаворачнага забясьпечаньня выкананьня вызначаных пляпаў пасеўнай кампаніі бягучага году, Пленум ЦК КП(б)Б пастанаўляе:

1. Безадкладнае, самае энэргічнае і па-бальшавіцкі настойлівае выпраўленьне дапушчаных скрыўленьняў і перагібаў пры калектывізацыі, на падстве паказаньняў, дадзеных у пастановах ЦК УсеКП(б) і ў артыкуле тав. Сталіна («Правда» ад 2-III—30 г.), зьяўляецца адней з каранных і асноўных задач кожнага члена партыі, члена ЛКСМБ, рабочых брыгад, члена сельсавету і ўсіх грамадзкіх працаўнікоў. Неабходна павесьці самую бязьлітасную барацьбу з тымі членамі партыі і КСМ, якія не разумеюць вялікай важнасьці і не жадаюць праводзіць паказаных пастаноў ЦК УсеКП(б) і артыкулу тав. Сталіна.

Трэба даць рашучы адпор усім тым разважаньням, якія імкнуцца трактаваць правільныя дырэктывы нашае партыі аб неабходнасьці безадкладнага выпраўленьня дапушчаных у шэрагу месц скажэньняў і перагібаў, як адступленьня назад, як быццам-бы перагляд лініі партыі на калектывізацыю. Такія разважаньні ёсьць праяўленьне правага апартунізму ў тых людзей, якія, не разумеючы лініі партыі, саскальзнулі на мэтады адміністраваньня і не разумеюць шкоднасьці гэтых мэтадаў у справе калектывізацыі. Не адступленьне назад, а выпраўленьне дапушчаных у шэрагу месц перагібаў і скажэньняў, замацаваньне дасягнутых посьпехаў з тым, каб на гэтых падставах няўхільна ісьці ўперад па шляху суцэльнай калектывізацыі, ні кроку не адступаючы, а крок за крокам замацоўваючы дасягнутае, разьвіваючы самую ўпартую і энэргічную, масавую палітычна-выхаваўчую работу па падрыхтоўцы да далейшае калектывізацыі—так і ня інакш павінны быць зразуметы дырэктывы ЦК УсеКП(б).

Лінія партыі на ажыцьцяўленьне задач сацыялістычнай рэканструкцыі сельскае гаспадаркі на базе арганізацыі буйных саўгасаў і калектывізацыі зьяўляецца асноўнай і генэральнай лініяй, але яе ажыцьцяўленьне прадпалагае абавязковую рашучую і бязьлітасную барацьбу на два фронты—і супроць правых ухілістых (адстаючых), і супроць «левых» перагібаў (заскакваючых уперад) і тым самым скажаючых лінію партыі. Барацьба з правай небясьпекай, якая застаецца галоўнай небясьпекай, патрабуе таксама рашучай барацьбы з «левымі» загібшчыкамі, барацьба з якімі зьяўляецца ўмовай і для пасьпяховай барацьбы з правым ухілам.

Аднача сна Пленум ЦК КП(б)Б адзначае, што ў шэрагу выпадкаў маецца зьбянтэжанасьць сярод членаў партыі і сярод членаў комсамолу і зьніжэньне актыўнасьці ў справе далейшай калектывізацыі. Пленум ЦК кваліфікуе гэтыя выпадкі, як уступку кулацкім элемэнтам, паслабленьне барацьбы за сацыялістычную пера-

будову сельскае гаспадаркі. Патрабуецца не паслабленьне, а пасіленьне актыўнасьці партыі, рабочае клясы і ўсіх бядняцка-серадняцкіх мас сялянства ў справе сацыялістычнай перабудовы вёскі.

Пленум ЦК даручае ўсім партарганізацыям, усім камуністам і камсамольцам, усім членам сельсаветаў і райвыканкомаў тэрмінова дасканала вывучыць і ўсьвядоміць дырэктывы ЦК УсеКП(б) і артыкулы тав. Сталіна аб калектывізацыі і неабходнасьці выпраўленьня дапушчаных памылак.

Аб тым, што некаторыя члены партыі памылкі і перагібы, дапушчаныя імі пры правядзеньні калектывізацыі, выдавалі за лінію партыі і тым самым супроцьстаўлялі гэтыя скажэньні правільнай лініі партыі, сьведчыць пастанова Шклоўскага Райкому партыі (Магілеўскае акругі), які замест энэргічнага выпраўленьня дапушчаных скрыўленьняў партыйнай лініі, на падставе артыкулу т. Сталіна і пастановы ЦК УсеКП(б), выступіў супроць гэтае пастановы і артыкулу.

Пленум ЦК КП(б)Б, ацэньваючы гэты факт, як супраціўленьне правадзімай лініі партыі, катэгарычна асуджае паказаны праваапартуністычны падыход да выкананьня дырэктыў партыі і пастанаўляе: адобрыць пастанову Бюро ЦК аб роспуску Шклоўскага Райкому КП(б)Б, аб скліканьні ўнечарговай райпарткан-фэрэнцыі для выбараў новага райкому, аб прыцягненьні да партыйнай адказнасьці паасобных членаў райкому, як невыправімых апартуністаў і пастаноў Бюро аб пастаноўцы на від Магілеўскаму АК за несваячасовае рэгаваньне на палітычна-шкодную пастанову Шклоўскага РК КП(б)Б.

2. Цэнтрам работы ўсіх партыйных, савецкіх і грамадзкіх арганізацый павінна зьявіцца работа па правільнай організацыі пасеву, згрупаваньне ўвагі на гаспадарчых пытаньнях калгаснага руху, арганізацыйнаму і гаспадарчаму замацаваньню ўжо арганізаваных калгасаў, з тым, каб замацаваўшы дасягнутыя посьпехі ў справе калектывізацыі, і далей ісьці ўперад па лініі пашырэньня калгаснага будаўніцтва. Трэба арганізацыі працы ў калгасах і гаспадарчаму іх замацаваньню ўдзяліць першачарговую ўвагу, шырока разгортваючы сацыялістычнае спаборніцтва ў калгасах.

Разам з замацаваньнем дасягнутых посьпехаў Пленум ЦК КП(б)Б падкрэсьлівае настойлівую неабходнасьць разгортваньня самай шырокай і энэргічнай работы сярод бядняцка-серадняцкага сялянства па далейшай калектывізацыі, захоўваючы прынцып сапраўднай дабраахвотнасьці пры аб'яднаньні ў калгасы.

Пленум ЦК КП(б)Б даручае ўсім арганізацыям безадкладна правесьці ў жыцьцё новы статут сельска-гаспадарчае арцелі, скончыўшы гэтую працу не пазьней 10 красавіка. У прыватнасьці зьвярнуць увагу на большае прыцягненьне і серадднякоў да кіруючай работы ў калгасах. Ажыцьцяўленьне статуту сельска-гаспадарчай арцелі ў першую чаргу азначае выпраўленьне дапушчаных памылак у безадказным і беспадстаўным перескакваньні з арцеляй у камуны, калі для гэтага ў большасьці месц і ня было належных умоў, выпраўленьне памылак з абагуленьнем жывёлы (зварот дробнай жывёлы, птушак і аднэй каровы ў індывідуальнае карыстаньне калгасьніку, там, дзе гэтага патрабуюць самі калгасьнікі).

3. Неабходна ўсім партыйным, савецкім і грамадзкім арганізацыям зьверху данізу сканцэнтраваць сваю ўвагу на бліжэйшы пэрыяд на асноўнай і рашаючай палітычна-гаспадарчай кампаніі—на правядзеньні веснавой сяўбы, прыняўшы ўсе належныя меры да ажыцьцяўленьня наступных канкрэтных задач пасеўнай кампаніі, вызначаных плянамі:

а) Дабіцца пашырэньня пасеўнай плошчы ў абагуленым і індывідуальным сэктарох ня менш, чым на 12 проц., правёўшы шырокую растлумачальную работу аб тым, што па закону аб с.-г. падатку прадастаўляюцца льготы за пашырэньне пасеўнай плошчы як калгасам, так і адзінаасобным бядняцка-серадняцкім гаспадаркам.

б) Забясьпечыць поўнасьцю яравы клін насенным матар'ялам (поўнае абагуленьне насеньня ў калгасах і падрыхтоўка насеньня з боку індывідуальных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак) кіруючыся пастановай бюро ЦК ад 25 лютага 1930 г. па гэтаму пытаньню.

в) Выканаць задачу аб арганізацыі машына-конных станцый.

г) Скончыць у бліжэйшы час рамонт інвэнтару.

д) Абагуліць да пачатку сяўбы ўсю цягавую сілу ў калгасах (коні, валы).

е) Безадкладна (не пазьней 10 красавіка) скончыць зямляпаказаньне калгасам і забясьпечыць адвод палёў пад яравы клін адзінаасобным бядняцка-серадняцкім гаспадаркам, якія яшчэ не ўвайшлі ў калгас, асобна ад калгасных палёў, згодна дадзеных дырэктыў па гэтаму пытаньню. Пры адводзе зямлі індывідуальным гаспадаркам пад яравы клін прыняць усе меры, шляхам растлумачальнай масавай работы і дапамогі, да арганізацыі супольнай запашкі і засеву на прынцыпах таварыства па сумеснай апрацоўцы зямлі.

ж) Скончыць ачыстку насеньня і абмен на гатункавае ў разьмерах, вызначаных у пляне пасеўнай кампаніі.

з) Прыняць рэальныя меры да сапраўднага ажыцьцяўленьня пастаноў Бюро ЦК і СНК БССР аб разьвіцьці жывёлагадоўлі ў разьмерах, вызначаных у паказаных пастановах, як важнейшай праблемы ў разьвіцьці сельскае гаспадаркі БССР.

і) Устанавіць спэцыяльны кантроль за падрыхтоўкай да веснавой сяўбы з боку ўсіх савецкіх гаспадарак, дабіўшыся поўнага абсемяненьня саўгаскіх палёў і асабліва пашыраных саўгасаў.

к) Забясьпечыць поўнае і безагаворачнае выкананьня, як з боку савгасаў і калгасаў, так і з боку ўсіх індывідуальных гаспадарак, аграмінімуму і зоомінімуму.

л) Даручыць партарганізацыям, РВК і сельсаветам абавязаць калгасы і саўгасы і камітэты сялянскай узаемадапамогі прыняць усе меры па абсемяненьні зямлі, адабранай ад кулакоў.

4. Недастатковая праца з беднатой, дапушчаныя перагібы і скажэньні лініі партыі: прымусовая калектывізацыя і перагібы ў абагуленьні жывёлы, а таксама актывізацыі клясавага супраціўленьня кулака, які, скарыстоўваючы гэтыя перагібы, разьвівае шалёную барацьбу за ўплыў на серадняка, за выхад серадняка з калгасу, з тым, каб весьці барацьбу, супроць калгасаў, за іх разбурэньне, прынялі ў некаторых мясцох да выхаду паасобных груп сераднякоў з калгасаў і разбору абагуленай маемасьці. Гэта паказвае, што ня гледзячы на тое, што шырокія масы сераднякоў ідуць па шляху калектывізацыі, у некаторых мясцох назіраюцца выпадкі хістаньня серадняка.

Задача ўсіх партыйных арганізацый заключаецца ў тым, каб разам з выпраўленьнем дапушчаных перагібаў павесьці самую бязьлітасную барацьбу з імкненьнем кулака скарыстаць дапушчаныя памылкі з мэтай барацьбы з калгасамі і пашкодзіць пасьпяховаму правядзеньню пасеўнай кампаніі, улічваючы, што асноўнай і рашучай палітычнай задачай партыі зьяўляецца задача канчатковай ліквідацыі кулака як клясы.

Трэба мабілізаваць увагу ўсёй партыі на разьвіцьці энэргічнай работы па арганізацыі груп беднаты і батрацтва, па ўзмацненьні блёку беднаты з серадняком пад кіраўніцтвам рабочае клясы і яе камуністычнай партыі і на гэтай падставе даць рашучы адпор кулаку, які імкнецца скарыстаць гэтыя хістаньні серадняка.

5. Ня гледзячы на цэлы шэраг дырэктыў, дадзеных з боку Бюро і Пленуму ЦК КП(б)Б аб усямерным узмацненьні груп беднаты і іх работы, Пленум ЦК адзначае, што на мясцох ня ўсімі арганізацыямі надаецца належная ўвага рабоце з беднатой і батрацтвам, а ў шэрагу выпадкаў назіраюцца зусім нецярпімазлачынныя і нядбайныя адносіны да арганізацыі груп беднаты ў калгасах і пры сельсаветах і да наладжваньня іх работы.

Адначасова пленум ЦК адзначае зусім нездавальняючае партыйнае кіраўніцтва работай сярод працоўных жанчын. Не праводзіцца клясавы падыход у сэнсе асобнай работы з батрачкамі і бяднячкамі ў барацьбе за ўплыў на серадняча к, якіх у першую чаргу скарыстоўвае кулак у сваёй барацьбе супроць калектывізацыі і ліквідацыі кулацтва як клясы, правядзеньня пасеўнай кампаніі і г. д.

Пленум катэгарычна прапануе выканаць дырэктывы ЦК аб рабоце сярод батрачак і бяднячак, актывізацыі дэлегацкіх сходаў, дабіўшыся сапраўднага пераходу да новых форм работы парторганізацыі сярод жанчын.

Пленум ЦК з усёй рашучасьцю падкрэсьлівае перад усімі арганізацыямі, што наладжваньне работы батрацка-бядняцкіх груп зьяўляецца цэнтральнай арганізацыйна-палітычнай задачай партыі ў вёсцы. Недаацэнка гэтай задачы, а таксама спробы разважаньня аб тым, што «ў калгасах усе роўныя і непатрэбна там арганізаваць групы беднаты, каб не пакрыўдзіць серадняка»—ёсьць па сутнасьці недаацэнка клясавай барацьбы ў вёсцы, уступка і дапамога кулаку, што павінна кваліфікавацца, як самае яскравае выражэньне правага апортунізму. «Толькі чужыя партыі і ЎсеЛКСМ элемэнты могуць ігнараваць гэтую асноўную задачу партыі—задачу арганізацыі беднаты і батрацтва».

6. Пленум ЦК КП(б)Б падкрэсьлівае недапушчальнасьць адміністрацыйнага зачыненьня царквей і малітвеных дамоў, бяз удзелу шырокіх мас працоўных, як гэта мела месца ў шэрагу выпадкаў. Барацьба з вызваленьнем шырокіх працоўных мас ад рэлігійнага дурману зьяўляецца аднэй з важнейшых палітычных задач нашай партыі, але выкананьне гэтай задачы партыі п а т р а б у е абавязковага ўцягненьня ў гэтую адказную работу па барацьбе супроць уплыву рэлігіі шырокіх колаў працоўных мас і недапушчэньня адміністрацыйных перагібаў. Зачыненьне царквей, сінагог і касьцёлаў можа праводзіцца толькі на падставе ініцыятывы і актыўнасьці шырокіх мас у барацьбе супроць рэлігіі.

7. Ня гледзячы на цэлы шэраг дырэктыў, дадзеных з боку Бюро ЦК аб узмацненьні работы сельсаветаў у справе калектывізацыі з паказаньнем на тое, што сельсаветы і райвыканкомы сапраўды павінны стаць на чале калгаснага будаўніцтва, Пленум ЦК адзначае, што гэтыя дырэктывы ня выкананы і ў шмат мясцох сельсаветы да гэтага часу цягнуцца ў хвасьце калектывізацыі.

Пленум ЦК даручае ўсім партарганізацыям сапраўды дабіцца такога становішча, каб роля сельсаветаў, райвыканкомаў і наогул савецкага апарату ў справе калектывізацыі была пастаўлена на належную вышыню і каб сельсаветы зьявіліся сапраўднымі арганізатарамі беднаты, батрацтва і серадняцтва ў справе суцэльнай калектывізацыі сельскае гаспадаркі БССР.

8. Пленум ЦК КП(б)Б зварачваецца да ўсіх членаў КП(б)Б, членаў КСМ, да ўсіх рабочых, батракоў, калгасьнікаў і да бядняцка-серадняцкіх мас сялянства з прызывам мабілізаваць усю сваю ўвагу на замацаваньні калгаснага будаўніцтва і на яго далейшым пасьпяховым пашырэньні, на правільнай арганізацыі пасеву, пашырэньні пасеўных плошчаў, рашуча выпраўляючы на хаду дапушчаныя перагібы і скрыўленьні, кіруючыся дырэктывамі ЦК УсеКП(б).

Неабходна ў яшчэ большым разьмеры ўзьняць актыўнасьць рабочае клясы на выкананьне задач калектывізацыі і правядзеньне пасеўнай кампаніі. Неабходна мабілізаваць усю энэргію і сродкі на п[illegible]пяховае выкананьне плянаў пасеўнай кампаніі ў саўгасах, калгасах, адзінаасобных бядняцка-серадняцкіх гаспадарках, устаноўленых партыяй і ўрадам. Неабходна вясновую пасеўную кампанію зрабіць сапраўднай бальшавіцкай кампаніяй.

9. Пленум ЦК даручае ўсім партарганізацыям прыняць захады да ўсебаковага вывучэньня гэтай пастановы. Рэдакцыям газэт зьвярнуць асаблівую ўвагу на шырокую папулярызацыю ў друку бліжэйшых задач партыі, дабіваючыся шырокай мабілізацыі працоўных мас на барацьбу з крыўленьнямі лініі партыі і на забесьпячэньне далейшых посьпехаў калектывізацыі і на падставе калектывізацыі ліквідацыі кулацтва як клясы.

---

# Пастанова Пленуму ЦК КП(б)Б

## *па дакладу ВСНГ БССР аб выніках выкананьня прамфінпляну за 5 месяцаў (кастрычнік 1929 г.—сакавік 1930 г.)*

1. Вынікі бягучага гаспадарчага году, які праходзіць пад знакам значнага ўзросту прамысловасьці (69,6 проц.), уцягненьня новых кадраў рабочых (рост рабочай сілы на 26 проц.), далейшага разгортваньня капітальнага будаўніцтва, узросту вытворчасьці працы (33,9 проц.) гавораць аб вялізарных дасягненьнях рабочае клясы пад кіраўніцтвам камуністычнае партыі ў справе сацыялістычнага будаўніцтва.

Аднак, улічваючы, што пры выкананьні прамфінпляну маюць месца значныя асобныя прарывы, якія асабліва выявіліся ў невыкананьні якасных паказьнікаў (зьніжэньне сабекошту за 4 месяцы замест 11 проц.—6 проц.), а таксама і колькасных (недавыканьне пляну за 5 месяцаў на 7,4 проц.), пленум ЦК КП(б)Б лічыць дасягнутыя вынікі нездавальняючымі.

2. Гэтае недавыкананьне прамфінпляну маецца, ня гледзячы на ўздым масавай актыўнасьці рабочае клясы навакол асноўных задач сацыялістычнага будаўніцтва і барацьбы за выкананьне і перавыкананьне прамфінпляну.

Аднэй з важнейшых прычын невыкананьня прамфінпляну ў першай палове бягучага году пленум прызнае тое, што прамысловасьць не перабудавала форм і мэтадаў сваёй работы, не напрудзіла тэмпаў гэтае работы да пасьпяховага выкананьня адказьнейшых задач, пастаўленых перад ёю камуністычнай партыяй і рабочай клясай. Прафсаюзы нездавальняюча выканалі асноўную дырэктыву партыі аб мабілізацыі ўсіх сваіх сіл і актыўнасьці на выкананьне і перавыкананьне прамфінпляну, не павярнуліся тварам да вытворчасьці. Ня гледзячы, на дырэктыву ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б, ніжэйстаячыя партыйныя камітэты не мабілізавалі ўвагі партыйных мас, а таксама беспартыйнага актыву вакол канкрэтных задач, якія забясьпечваюць выкананьне прамфінпляну.

Ставячы задачай поўнае выкананьне прамфінпляну другога году пяцігодкі, як асноўную гаспадарча-палітычную задачу, пленум ЦК КП(б)Б лічыць неабходным дабіцца рашучага пералому ў рабоце партыйных, прафэсыянальных і гаспадарчых арганізацый з тым, каб на працягу бліжэйшых месяцаў безагаворачна і поўнасьцю ліквідаваць прарыў, які стварыўся ў першай палове году. У гэтых мэтах неабходна правесьці ў жыцьцё дырэктыву аб давядзеньні прамфінпляну да цэхаў і асобных груп рабочых з тым, каб кожны завод і цэх, ад якіх фактычна залежыць выкананьне прамфінпляну цьвёрда ведаў свае канкрэтныя заданьні. У гэтых-жа мэтах неабходна падняць яшчэ на большую вышыню сацыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцкі рух, як ленінскія мэтады работы, якія забясьпечваюць выкананьне і перавыкананьне прамфінпляну і палепшаньня якасьці выпускаемай прадукцыі. Разам з гэтым неабходна павесьці рашучую барацьбу з «ачковтиральством» (лжэўдарніцтвам, з пагоняй за колькасьцю ударных брыгад, з пасьпешнасьцю беспадстаўнага абвяшчэньня цэлых заводаў ударнымі і радам іншых нездаровых зьявішаў), кіруючыся ў гэтым пастановай бюро ЦК ад 16-17 сакавіка 1930 г.

У зьвязку з гадавінай сацыялістычнага спаборніцтва запрапанаваць камфракцыі ЦСПСБ, ВСНГБ і ЦК ЛКСМБ правесьці праз рабочыя брыгады масавую і грунтоўную праверку выкананьня дагавароў па сацыялістычным спаборніцтве з тым, каб як гэтай праверкай, гэтак і ўцягненьнем у яе шырокай масы рабочых, даць яшчэ большы штуршок да разьвіцьця сацыялістычнага спаборніцтва, да павялічэньня дзелавой эфэктыўнасьці сацыялістычнага спаборніцтва і лепшага кіраўніцтва ім. Пры праверцы зьвярнуць увагу на давядзеньне вытворчай праграмы да цэху, брыгады, варштату і камуны.

3. Важнейшая дырэктыва партыі аб увядзеньні адзінаначальля, да гэтага часу не растлумачана рабочым і вельмі марудна праводзіцца ў жыцьцё. Да гэтага часу адміністрацыйна-гаспадарчы пэрсанал імкнецца перакладаць адказнасьць за тыя ці іншыя гаспадарчыя мерапрыемствы на партыйныя і прафсаюзныя арганізацыі. Апошнія-ж, у сваю чаргу, працягваюць непасрэдна ўмешвацца ў апэрацыйную работу прадпрыемства, не перабудавалі свае работы на падставе дырэктыў партыі аб адзінаначальлі, што прыводзіць да паслабленьня пэрсанальнай адказнасьці адміністрацыйна-гаспадарчага пэрсаналу за гаспадарча-апэрацыйную работу прадпрыемства.

Пленум прапануе партыйным, прафэсыйным і гаспадарчым арганізацыям павесьці растлумачальную працу на кожным заводзе і цэху аб значэньні адзінаначальля і ўстанавіць канкрэтнае размежаваньне функцый паміж асобнымі работнікамі і арганізацыямі, а таксама ўвесьці суровую адказнасьць за даручаную работу на

тым або іншым вытворчым вучастку, у прыватнасьці асаблівую ўвагу зьвярнуць на ажыцьцяўленьне пастановы ЦК УсеКП(б) аб пашырэньні правоў і наданьні большае самастойнасьці цэхавай адміністрацыі.

4. Аднэй з галоўных прычын невыкананьня заданьня па зьніжэньні сабекошту зьяўляецца—невыкананьне дырэктыў партыі па сацыялістычнай рацыяналізацыі і нескарыстаньне прапаноў рабочых, якія прымаюцца на вытворчых нарадах, нескарыстаньне рабочага вынаходніцтва і недастатковая дапамога з боку інжынэрна-тэхнічнага пэрсаналу рабочаму вынаходніцтву. Гэтымі-ж прычынамі тлумачыцца невыкананьне дырэктыў ў адносінах барацьбы са стратамі на вытворчасьці.

Пленум ЦК КП(б)Б катэгарычна прапануе ўсе гэтыя недапушчальныя зьявішчы, якія тармозяць выкананьне прамфінпляну, тэрмінова ліквідаваць, шляхам адпаведнай перабудовы ўсіх мэтадаў работы як апарату ВСНГ, аб'яднаньняў, таксама і прафэсыйных і партыйных арганізацый так і адпаведнага ўзмацненьня тэмпаў.

5. Перавод на 7-мігадзінны рабочы дзень і бесьперапынны рабочы тыдзень значна павышае вытворчасьць працы і выпрацоўку прадукцыі. Аднак, пры правядзеньні гэтых важнейшых мерапрыемстваў былі дапушчаны асобныя бюракратычныя адносіны з боку «трохкутніка» на прадпрыемствах, якія выявіліся: у першую чаргу ў недастатковай падрыхтоўцы саміх прадпрыемстваў да выкананьня гэтых дырэктыў і ў слабым растлумачэньні рабочым значэньня гэтых мерапрыемстваў.

Пленум ЦК КП(б)Б прапануе гаспадарчым, прафэсыйным, партыйным арганізацыям палепшыць усю падрыхтоўчую работу да пераводу прадпрыемстваў на 7-мігадзінны рабочы дзень і бесьперапынны тыдзень, а таксама на сваячасовае правядзеньне і самае шырокае разгортваньне адпаведнай масай работы сярод рабочых і прыстасаваньне культурна-бытавога абслугоўваньня рабочых прадпрыемстваў, пераведзеных на 7-гадзінны рабочы дзень і бесьперапынны рабочы тыдзень, зрабіўшы асобны націск на вырашэньне пытаньняў правільнай арганізацыі працы на прадпрыемствах.

6. Канстатуючы, што ў справе падрыхтоўкі кваліфікаванай рабочай сілы дагэтуль няма дастаткова рашучага пералому, прапанаваць ВСНГ і Наркампрацы дабіцца рашучага пералому ў справе падрыхтоўкі кадраў, шляхам узмацненьня кіраўніцтва гэтым пытаньнем, як з боку ВСНГ, так і гаспадарчых аб'яднаньняў, а таксама максымальнага палепшаньня якасьці работы па падрыхтоўцы кадраў, лепшай арганізацыі прахаджэньня вытворчай практыкі і прыняцьця адпаведных мер па падняцьці кваліфікацыі як рабочых, так і ўсяго адміністрацыйна-тэхнічнага пэрсаналу.

У сувязі з далейшым разгортваньнем капітальнага будаўніцтва новых прадпрыемстваў, асаблівае значэньне набывае пытаньне аб падрыхтоўцы кваліфікаванай рабочай сілы. У гэтых мэтах павінна быць пашырана сетка школ фабзавуча, прафтэхшкол і пастаўлена сыстэматычная работа па падрыхтоўцы рабочых на дзейнічаючых прадпрыемствах з такім разьлікам, каб да пуску новых прадпрыемстваў апошнія былі-бы забясьпечаны асноўным падрыхтаваным кадрам рабочых.

Цякучасьць рабочай сілы на прадпрыемствах адмоўна адбіваецца на выкананьні прамфінпляну і зьяўляецца аднэй з прычын недавыкананьня яго. Пленум ЦК даручае ВСНГ, Наркампрацы і ЦСПСБ павесьці барацьбу з цякучасьцю рабсілы, дабівацца большай стабільнасьці яе.

7. Надаючы пытаньню капітальнага будаўніцтва значэньне першараднай важнасьці, пленум ЦК КП(б)Б прапануе прэзыдыуму ВСНГ БССР і адпаведным гаспадарчым органам прыняць усе меры да зьнішчэньня маючыхся недахопаў і забясьпечыць сваячасовае і поўнае выкананьне пляну капітальных работ.

Адзначаючы значнае спазьненьне ў складаньні неабходных праектаў па зацьверджаных аб'ектах капітальнага будаўніцтва, недастатковасьць забесьпячэньня будаўнічымі матар'яламі і рабочай сілай, недастатковасьць мерапрыемстваў па рацыяналізацыі, зьвязаных з палепшаньнем якасьці і патаненьнем каштоўнасьці будаўніцтва, слабае разгортваньне сацыялістычнага спаборніцтва і наогул масавай работы на будаўніцтве—пленум ЦК КП(б)Б прапануе тэрмінова скончыць усе падрыхтоўчыя работы да сваячасовага пачатку работ.

Народнаму Камісарыяту Працы на падставе апошніх дырэктыў прыняць меры да забесьпячэньня будаўніцтва адпаведнай рабочай сілай. ВСНГ БССР прадугледзець максымальнае разьвіцьцё прамысловасьці будаўнічых матар'ялаў, поўнасьцю скарыстоўваючы вытворчыя магчымасьці асобных заводаў як рэспубліканскага, так і мясцовага значэньня.

Прымаючы пад увагу, што сваячасовы пуск новых прадпрыемстваў мае вялізарнае значэньне для выкананьня прамысловасьцю БССР прамфінпляну, пленум ЦК КП(б)Б прапануе ВСНГ і гаспадарчым органам прыняць усе меры да сваячасовага пуску новых прадпрыемстваў у вызначаныя плянам тэрміны.

8. Шпаркія тэмпы індустрыялізацыі савецкага краю патрабуюць больш актычнага ўдзелу інжынэрна-тэхнічных сіл у сацыялістычным будаўніцтве. Разьвіваючаеся ў радох інжынэраў і тэхнікаў імкненьне зьбліжэньня з рабочай клясай і яе партыяй, якое выказваецца ў падвышэньні грамадзкай актыўнасьці часткі інжынэрна-тэхнічных працаўнікоў, у падачы заяў аб уступленьні ў партыю і інш., сьведчаць аб павялічваючайся дыфэрэнцыяцыі сярод інжынэрна-тэхнічных сіл. Разам з тым яшчэ здараюцца паасобныя выпадкі шкодніцтва з боку тае часткі інжынэрна-тэхнічнага пэрсаналу, якая не адмовілася ад барацьбы з савецкай уладай.

Пленум ЦК КП(б)Б прапануе парт. арганізацыі, ЦСПСБ і ўсім цэнтральным праўленьням прафсаюзаў разгарнуць самую шырокую растлумачальную работу сярод інжынэрна-тэхнічных сіл, прыцягваючы лепшую частку іх да ак-

тыўнага ўдзелу ў гаспадарчым будаўніцтве і грамадзкай працы.

9. Самакрытыка, як адзін з самых дзейсных мэтадаў, забясьпечваючых выкананьне прамфінпляну і ўцягненьня ў барацьбу за выкананьне і перавыкананьне самых шырокіх працоўных мас, разгорнута недастаткова. Шляхам самакрытыкі неабходна дабіцца найбольшага ўцягненьня рабочых у гаспадарчае будаўніцтва, на барацьбу з бюракратызмам і цяганінай.

Пленум ЦК КП(б)Б, завастраючы ўвагу на неабходнасьці яшчэ большага разгортваньня самакрытыкі, ператвараючы яе ў сапраўдную зброю барацьбы з усімі недахопамі, прапануе друку, у прыватнасьці фабрычна-заводзкім шмат-тыражкам, прыняць меры да больш глыбокай пастаноўкі ў газэтах пытаньняў, зьвязаных з работай прамысловасьці, праводзячы на газэтных старонках рашучую барацьбу з усімі недахопамі, якія тармозяць выкананьне прамфінпляну, асабліва даючы рашучы адпор праяўленьням правай практыкі ў справе недавыкананьня прамфінпляну, даючы адпор усякага роду настроям, якія яшчэ маюцца адносна «аб'ектыўных» цяжкасьцяй, разам з гэтым разгарнуўшы шырокі абгрунтаваны паказ станоўчага вопыту і абмен вопытам асобных прадпрыемстваў у справе барацьбы за выкананьне і перавыкананьне прамфінпляну. Наш друк разам з усім «трохкутнікам» прадпрыемстваў нясе адказнасьць ня толькі за асьвятленьне ў газэтах пытаньняў, зьвязаных з прамфімплянам, але і за канкрэтныя вынікі па мабілізацыі пралетарскай грамадзкасьці пэўных прадпрыемстваў вакол справы выкананьня і перавыкананьне прамфінпляну.

10. Пленум ЦК КП(б)Б зварачаецца з заклікам да рабочае клясы БССР аб тым, каб агульнымі сіламі ўсіх працоўных, пад кіраўніцтвам камуністычнае партыі, узяцца за рашучую ліквідацыю прарываў у прамфінпляне, стварыўшыхся ў першым паўгодзьдзі, каб безагаворачна выканаць прамфінплян як адну з рашаючых праблем узмацненьня дыктатуры пралетарыяту і пасьпяховага развіцьця сацыялістычнага будаўніцтва.

Пленум ЦК КП(б)Б заклікае ўсе партыйныя, прафэсыйныя і гаспадарчыя арганізацыі тэрмінова перабудаваць мэтады свае работы і ўзмацніць тэмпы адпаведна з тымі задачамі, якія стаяць перад намі ў адносінах выкананьня прамфінпляну.

Па ступені выкананьня заданьня Цэнтральны Камітэт КП(б)Б будзе ацэньваць бальшавіцкую здольнасьць і ўменьне партыйных, прафэсыйных і гаспадарчых арганізацый, а таксама асобных работнікаў выконваць дырэктывы партыі.

◆

# РЭЗАЛЮЦЫІ IV ПЛЕНУМУ ЦКК КП(б)Б

## Аб масавай рабоце ЦКК РСІ

### Рэзолюцыя па дакладу т. Лазоўскага на IV Пленуме ЦКК КП(б)Б

1. Пасьпяховае ажыцьцяўленьне пастаўленых партыяй задач па індустрыялізацыі краіны, абагуленьню бядняцкіх і серадняцкіх сялянскіх гаспадарак, на падставе колектывізацыі, дало вялікае пасіленьне актыўнасьці і самадзейнасьці пролетарскіх мас, накіраванай на замацаваньне і далейшае пасіленьне тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва.

2. Далейшае пасьпяховае ажыцьцяўленьне стаячых перад партыяй вялізарнейшых задач рэканструкцыйнага пэрыяду вастрэй і настойлівей, чымся да гэтага часу, патрабуюць перабудовы форм і мэтодаў работы па палепшаньні нашага савецкага апарату: адміністрацыйных органаў, органаў абслугоўваючых культурныя патрэбы шырокіх мас працоўных.

Орган КК-РСІ, падпарадкуючы сваю работу важнейшым задачам партыі на гэтым этапе, павінны памятаць, што „задачы рэканструкцыйнага пэрыяду ня могуць быць вырашаны бяз самага сьмелага, самага рашучага, самага пасьлядоўнага ўцягненьня мас у справу соц. будаўніцтва, праверкі і кантролю з боку гэтых міліёнаў мас усяго апарату, яго ачышчэньня ад нягодных элемэнтаў“ (з адозвы ЦК УсеКП(б) аб самакрытыцы), карыстаючыся паказаньнем Леніна аб неабходнасьці правесьці праз удзел у РСІ ўсю працоўную масу.

Пленум ЦКК, на падставе матар'ялаў агляду работы АКК, лічыць, што органы КК-РСІ не зьяўляюцца яшчэ сапраўднымі організатарамі мас і не стаяць на чале вялікага рэвалюцыйнага энтузіязму і ініцыятывы рабочых, якія наглядаюцца, асабліва на працягу ўсяго часу пасьля XV зьезду партыі.

Пленум ставіць перад усімі КК-РСІ як адну з галоўных задач гэта—організацыю мас на выкананьне генэральнай лініі партыі і даручае ў бліжэйшы час, адпаведна гэтаму, перабудаваць усю сваю работу. Даручыць Прэзыдыуму ЦКК КП(б)Б рабіць ацэнку работы асобных КК-РСІ па ступені ахопу і прыцягненьня да практычнае работы шырокіх рабочых і батрацка-бядняцкіх мас.

3. Перад усёй партыяй наогул і перад органамі КК-РСІ стаіць зараз задача прывесьці савецкі апарат у адпаведнасьці з складанымі і гіганцкімі задачамі рэканструкцыйнага пэрыяду. Але „вялізарнейшыя задачы, высунутыя пяцігадовым плянам, ня могуць быць вырашаны без сапраўднага палепшаньня дзяржаўнага апарату“. У саадпаведнасьці з гэтым органы КК-РСІ павінны пасіліць барацьбу з бюракратызмам і цяганінай у савецкім апараце яшчэ больш і ўцягваць у гэтую барацьбу рабочыя масы, скарыстоўваючы іх актыўнасьць і ініцыятыву.

У барацьбе за самае сьмелае і рашучае спрашчэньне і палепшаньне савецкага апарату, ачышчэньне яго ад чыноўнікаў і замена іх рабочымі з вытворчасьці, выключна вялікую ролю адыгрывае пастаноўка кантролю і праверкі выкананьня ўсім сав. апаратам важнейшых дырэктыў партыі ў бальшавіцка-ленінскім напрамку, пад пунктам погляду рашучай барацьбы з правым ухілам на практыцы, прымірэнцтвам да яго і левымі загібамі. „Привлечение широких масс к проверке исполнения и таким образом обучение новых слоев рабочих и крестьян делу государственного управления является условием того, чтобы проверка исполнения все в большей мере становилась действительным методом улучшения сов. аппарата“ (Рэз. XVI парт. канф. аб барацьбе з бюрократ.).

Прызнаючы шэфства рабочых прадпрыемстваў над сав. установамі аднэй з лепшых форм масавай работы КК-РСІ, Пленум ЦКК КП(б)Б лічыць, што ў ажыцьцяўленьні паказаных дырэктыў набывае сур'ёзьнейшае значэньне рашэньне Лістападаўскага (1929 г.) Пленуму ЦКК УсеКП(б), які прапанаваў усім КК-РСІ „широко практиковать шефство рабочих над сов. аппаратом, выделяя для этого рабочие бригады. Бригады должны прикрепляться к отдельным учреждениям (Электрозавод—НКФин Союза) и под руководством РКИ вести постоянное систематическое наблюдение и проводить контроль за деятельностью отдельных учреждений, проверять фактическое выполнение ряда правительственных решений, принимать активное участие в чистке сов. аппарата, в улучшении его работы и личного состава и ставить перед органами РКИ вопросы, касающиеся деятельности их предприятий“.

Пленум надае вялізарнейшае значэньне шэфству, як важнейшаму сродку палепшаньня дзяржаўнага апарату і зьнішчэньня бюрократызму. Рабочае шэфства зьяўляецца ў сучасных умовах самым сапраўдным мэтодам ажыцьцяўленьня рабочага кантролю над сав. апаратам, ачышчэньня яго ад чуждых элемэнтаў і замены рабочымі з вытворчасьці. Аднак Пленум лічыць, што работа гэта, хоць і атрымала некаторы зрух у БССР, але зусім недастаткова ў параўнаньні з важнасьцю пытаньня і нават па найбольш буйных гарадох БССР (Менск, Гомель, Віцебск) шэфства налічваецца адзінкамі.

Выходзячы з гэтага, Пленум даручае Прэзыдыуму ЦКК і ўсім АКК-РСІ ўзяць кіраўніцтва рухам пад сваю ініцыятыву і разам з саветамі, прафсаюзамі і парторганамі пашырыць гэту справу, распаўсюджваючы шэфства над усімі, найбольш важнымі зьвеньнямі сав. і каапэрацыйнага апарату.

Пленум пры гэтым папярэджвае аб магчымых выпадках адміністраваньня і аказёньваньня гэтай справы, шляхам бюрократызацыі яе ў выглядзе выданьня цыркулярных палажэньняў, навязваньня зьверху рабочым організацыям падшэфных установ. Пленум даручае АКК-РСІ аказаць дапамогу шэфствуючым організацыям, не абмяжоўваючы, аднак, ініцыятывы шэфаў у выбары форм і мэтодаў шэфства, пэрыядычна склікаць нарады шэфскіх брыгад, каб на хаду выпраўляць памылкі, падводзіць вынікі работы брыгад, усямерна пэпулярызуючы работу па шэфству ў друку, на што з боку як цэнтральных, так і акруговых газэт да гэтага часу дастатковае ўвагі не ўдзялялася.

4. Вылучэнства і арабачэньне савецкага і каапэрацыйнага апарату, як адна з актуальнейшых форм барацьбы з бюрократызмам, набывае ва ўмовах шэфства зусім канкрэтныя формы, а таму Пленум даручае ўсім КК-РСІ паставіць сваю работу па дапамозе шэфствуючым прадпрыемствам так, каб у бліжэйшы час з ліку шэфскіх брыгад былі падрыхтаваны рабочыя на адміністрацыйна-адказную працу ў савецкі апарат ня толькі для тых установ, над якімі прадпрыемства шэфствуе, але і наогул для вылучэньня ў савецкі апарат.

Пленум лічыць, што існуючыя формы масавай работы, як ударныя брыгады, сэкцыі РСІ пры Гарсаветах, „ЛК", рабкораўскія і інш. організацыі да гэтага часу мала скарыстоўваліся органамі КК-РСІ для адбору з ліку найбольш актыўных рабочых для вылучэньня ў савецкі апарат на адказную работу, а таму даручае АКК-РСІ тых рабочых актывістых, якія найбольш сябе праявілі на рабоце, праз адпаведныя органы вылучыць у апарат. Даручыць ЦКК НКРСІ і КК-РСІ абавязаць інспэктарскі склад у сваёй штодзённай працы падрыхтоўваць актывістых-вылучэнцаў; пераглядзець ва ўсіх установах тыя пасады, якія могуць замяшчацца вылучэнцамі.

Пленум даручае КК-РСІ праверыць па ўсіх установах работу ўжо вылучаных і зараз працуючых у апараце, пад пунктам погляду, як скарыстоўваюцца ў апараце вылучэнцы і наколькі створаныя абставіны садзейнічаюць нармальнай іх рабоце.

5. „... начать организацию по приему ВКК на предприятиях, опыт которых целиком себя оправдал, временных контрольных комиссий в учреждениях и ускорить проведение в жизнь постановления VIII съезда профсоюзов о создании временных рабочих контрольных комиссий при трестах. Комиссии должны избираться непосредственно на фабрично-заводских предприятиях и советами соответствующих городов. Главными задачами комиссий должны быть проверка исполнения советских законов и партийных директив и в связи с этим выявление конкретных случаев бюрократизма и волокиты, выработки мер, обеспечивающих улучшение работы аппарата, в особенности в области обслуживания широких масс трудящихся" (Рэз. XII парт. канф. аб барацьбе з бюрократызмам).

Часовыя кантрольныя камісіі ва ўстановах, як адна з найбольш дзейственных форм масавага кантролю над савецкім апаратам, яшчэ не знайшлі шырокага прымяненьня ў практычнай рабоце КК-РСІ і толькі за апошні час у сувязі з чысткай савецкага апарату, а таксама па ініцыятыве Віцебскага АКК па асобным пытаньням утвораны ЧКК ва ўстановах, якія ў значнай меры на гэтым невялічкім вопыце сябе апраўдалі.

Пленум, адзначаючы зусім слабае ўжываньне паказаных дырэктыў у жыцьцё, даручае Прэзыдыуму ЦКК і КК-РСІ шырэй карыстацца ЧКК ва ўстановах па праверцы выкананьня, асабліва тых законаў, якія накіраваны на палепшаньне абслугоўваньня працоўных шырокіх мас, ажыцьцяўляючы гэта, галоўным чынам, як грамадзкую нагрузку.

6. Перабудова сельскае гаспадаркі на соцыялістычных падставах, задачы, зьвязаныя з ліквідацыяй кулацтва, як клясы, патрабуюць, каб КК-РСІ значна павялічылі сваю ўвагу пытаньням колектывізацыі сельскае гаспадаркі і рабоце на вёсцы ўсіх савецкіх і грамадзкіх організацый, пасіленьню праверкі работы органаў, непасрэдна занятых перабудовай сельскае гаспадаркі, у прыватнасьці—неабходна хутка рэагаваць на ўсё, што стаіць на шляху колектывізацыі, усямерна садзейнічаць вырашэньню задач, зьвязаных з ліквідацыяй кулацтва, як клясы, шляхам самай жорсткай барацьбы супроць скрыўленьня лініі ў парушэньні прынцыпу добраахвотнасьці, як асноўнага тормазу ў пасьпяховым ажыцьцяўленьні колектывізацыі і падмены гэтага прынцыпу бюрократычным дэкрэтыраваньнем зьверху, супроць штучнага ўздуваньня колектывізацыі.

Задачы, якія выцякаюць з правадзімай работы па перабудове вёскі, патрабуюць, каб сэкцыі РСІ пры РВК і с/с. і мястэчковых сельсаветах зрабіць актыўнымі дапаможнікамі КК-РСІ.

Ажыцьцяўленьне і пасіленьне сэкцый павінна быць утворана на падставе павароту іх работы да задач колектывізацыі. Яны павінны наглядаць за дзейнасьцю земорганаў на вёсцы (РВК, сельсав)., за гаспадарчай дзейнасьцю калгасаў, садзейнічаць абагуленьню сродкаў вытворчасьці (насеннага матар'ялу жывёлы і мёртвага інвэнтару), праверыць падрыхтаванасьць усіх органаў да веснавое сяўбы, за зборам задаткаў на трактары, сачыць за практыкай конфіскацыі ў кулацтва маёмасьці і правільным яго скарыстаньнем; каб справіцца з такімі задачамі, сэкцыі РСІ павінны цесна зьвязацца з саўгасамі і калгасамі, адкуль чарпаць актыў з сельскагаспадарчых рабочых, батрацтва і беднаты і організоўваць іх навакол сэкцый. Зрабіць сэкцыі сапраўдным асяродкам організацыі навакол задач партыі на вёсцы сельгаслесрабочых, батракоў, груп беднаты і лепшай часткі серадняко́ў. АКК-РСІ ў сваёй рабоце па кіраўніцтву сэкцыямі павінны зорка сачыць і змагацца з замкнутасьцю і канспіратыўнасьцю, стварыўшы мэтадам работы сэкцый масавасьць і шырачайшую галоснасьць у рабоце.

Улічваючы тое, што камісіі РСІ, утвораныя ў частцы с-с. і пры ўсіх РВК, на падставе ўрадавага закону ад 2-III—29 г.—зусім сябе апраўдалі, Пленум выказваецца за неабходнасьць утварэньня камісій пры ўсіх сельсаветах.

Матар'ялы абсьледваньня сэкцый РСІ, утваран. Віц. і Бабр. АКК-РСІ, разам з узорамі прыкладнай работы, паказваюць, што на мясцох ня ўсе сэкцыі РСІ разумеюць свае задачы і бяруцца часта за выкананьне такіх задач, якія належаць да РВК, ці судоў, у той час, як свае непасрэдныя задачы па кантролю за выкананьнем законаў і барацьбы з бюрократызмам застаюцца нявыкананымі.

Пленум даручае КК-РСІ пільна сачыць за тым, каб сэкцыі не ператварыліся ў дадаткі да адміністрацыйных органаў на мясцох, а зьяўляліся-б сапраўднымі кантрольнымі органамі. Працуючы пад агульным кіраўніцтвам тых органаў, пры якіх яны ўтвараюцца (с.-с., РВК, мест. сав.), сэкцыі павінны весьці сваю работу ў напрамку агульных задач, намячаемых АКК-РСІ.

Сэкцыям РСІ ў сваёй рабоце належыць усямерна скарыстоўваць рэв. камісіі пры саветах, выканкомах і коопэрацыі, ажыцьцяўляючы кантроль над іх дзейнасьцю, але ні ў якім разе не падмяняючы і не замяняючы іх сваёй работай. Пад агульным кіраўніцтвам і ў цесным кантакту з сэкцыямі РСІ павінны працаваць атрады „ЛК", якія і складаюць адну з актыўнейшых груп навакол РСІ на вёсцы.

КК-РСІ павінны даваць сэкцыям асноўны накірунак у рабоце, выходзячы з свайго пляну работ і паказаных вышэй задач, зьвязаных з колектывізацыяй і ліквідацыяй кулацтва, як клясы.

7. Рост актыўнасьці рабочае клясы, яго энтузіязму ў справе ператварэньня ў жыцьцё 5-ці гадовага пляну і рэканструкцыі сельскае гаспадаркі выклікае падвышэньне актыўнасьці і з боку асобных груп спэцыялістых, якія побач з рабочымі запісваюцца ў якасьці добраахвотнікаў у органы КК-РСІ. Скарыстаньне ў рабоце КК-РСІ лепшых добраахвотнікаў-спэцыялістых, адданых справе рабочае клясы і сав. улады па соц. будаўніцтву, зьяўляецца бясспрэчна надзвычайна карысным і пажаданым. Пленум адзначае, аднак, што організацыя добраахвотнікаў інжынэраў пры ЦКК НКРСІ ня была скарыстана ў належнай меры на практычнай працы, а таму даручае прэзыдыуму ЦКК і ўсім АКК наладзіць організацыю і скарыстаньне ў практычнай працы ў першую чаргу інжынэрна-тэхнічных сіл, аграномаў, зямляўпарадкаваццаў, у мэтах падвышэньня якасьці абсьледавацельскіх работ, зьвязаных з ацэнкай тэхнічных бакоў працы прадпрыемстваў і рацыяналізацыі вытворчасьці, атрыманьне консультацыі па асобных пытаньнях, патрабуючых тэхнічных ведаў, скарыстаць гэтую організацыю на пасьпяховае выкананьне прамфінпляну, палепшаньне работы на прадпрыемстве, ці ў сельскай гаспадарцы і ў барацьбе з бюрократычнымі скажэньнямі ў савецкім апараце.

8. Органы КК-РСІ павінны ў сваёй практычнай штодзённай рабоце пры самай актыўнай дапамозе прафсаюзаў накіроўваць ініцыятыву мас на важнейшыя задачы па ажыцьцяўленьню генэральнай лініі партыі ў горадзе і на вёсцы, з якіх асноўнае месца на гэтым этапе займаюць—праверка выкананьня прамфінпляну, як важнейшая частка работы па ажыцьцяўленьні пяцігадовага пляну, мобілізацыя ўнутраных рэсурсаў прамысловасьці, мобілізацыя ўнутраных зьберажэньняў, абагуленьне маемасьці, сродкаў вытворчасьці, сельскага матар'ялу і рабочай жывёлы ў калгасах і ўстанаўленьне ў іх унутранага распарадку, утварэньне насенных фондаў, мерапрыемствы, зьвязаныя з веснавой пасеўнай кампаніяй, падрыхтоўка да будаўнічага сэзону, падрыхтоўка кадраў для прамысловасьці і сельскае гаспадаркі і інш.

Выходзячы з гэтага, Пленум даручае Прэзыдыуму ЦКК і ўсім КК аказаць усямернае садзейнічаньне разгортваньню ўдарніцтва на ўсіх прадпрыемствах, спыняючы сваячасова ўсялякія перашкоды, узьнікаючыя па шляху разгортваньня гэтага руху, вядучы барацьбу з праяўленьнем апортунізму ў гэтым пытаньні.

Адначасова ня меншая ўвага павінна быць удзелена соц. спаборніцтву, праверцы выкананьня заключаных дагавароў, зьнішчаючы ў гэтай справе фармалізм, казёншчыну і безадказнасьць. У справе выкананьня промфінпляну і дагавароў па соц. спаборніцтву, набывае асобную значнасьць сваячасовае ажыцьцяўленьне на прадпрыемствах рабочага вынаходніцтва і прапаноў вытворчых нарад і камісій, эканомнарад і эканомкамісій, а таму Пленум даручае павесьці самую жорсткую барацьбу з бюрократычнымі адносінамі і кіраўнікоў устаноў і прадпрыемстваў да правядз. у жыцьцё адміністрацыяй рабочых прапаноў.

9. У мэтах большае актывізацыі нізавых парт. і проф. органаў (фабком, МК, яч.) у справе непасрэднага ўдзелу ў соц. будаўніцтве і барацьбы з бюрократызмам, Пленум лічыць неабходным паказаць усім КК-РСІ на неабходнасьць прыцягненьня да непасрэднага ўдзелу ў праверцы і абсьледваньнях, утвараемых органамі КК-РСІ на тых прадпрыемствах, на якіх існуюць гэтыя ф-мы, МК і яч., прымаць пры іх удзеле рашэньні і перадаваць для самастойнай праверкі выкананьня, ці ўдзелу ў гэтай праверцы, калі яна ўтвараецца органамі КК-РСІ. Прыцягваць таксама да актыўнага ўдзелу ў разглядзе абсьледвацельскіх матар'ялаў тыя масавыя організацыі, якія ўдзельнічалі ў абсьледваньні як ЧКК, рабочыя брыгады, „ЛК", групы беднаты і інш., што павінна служыць школай для выхаваньня рабочых, батракоў, беднаты, для падрыхтоўкі іх на кіруючую работу ў савецкі апарат.

10. У зьвязку з ліквідацыяй фінансавага кантролю, на органы РСІ ўскладзены абавязкі па нагляду за ходам выкананьня бюджэту. Гэтыя абавязкі могуць быць ажыцьцёўлены пад кіраўніцтвам КК-РСІ грамадзкімі сіламі, як МК адпаведных устаноў, сэкцыі і камісіі РСІ пры гарадзкіх, сельскіх і местачковых саветах і РВК, рэв. камісіі, дэлегацкія організацыі і г. л. Асобная задача ўскладаецца на прафсаюзы сельгаслесрабочых, Працасьветы, СГС, Мэдсанпрацы і Працмастацтва па організацыі сваіх членаў і нізавых проф. організацый на выкананьне задач па эканомнаму і беражліваму выдаткаваньню сродкаў.

Выходзячы з гэтага, Пленум ЦКК КП(б)Б даручае Прэзыдыуму ЦКК і КК зараз-жа пачаць організацыйную і растлумачальную працу сярод рабочых, батракоў і сялян-калгасьнікаў аб задачах у галіне нагляду за выдаткаваньнем сродкаў асобнымі ўстановамі і прадпрыемствамі і інструктаваньня адпаведных організацый (камісіі, сэкцыі і г. д.) аб іх правох і абавязках па кантролю.

11. Генэральная чыстка і праверка радоў КП(б)Б праверка і чыстка сав. апарату, абсьледваньне з боку ЦКК работы Гомельскай, Віцебскай і Полацкай КК-РСІ, а таксама паасобныя факты ў друку сьведчаць аб недастатковасьці разгортваньня самакрытыкі, скажэньні ў паасобных організацыях лёзунгу партыі аб самакрытыцы, зажыму яе і пайтараючыяся і зараз выпадкі прасьледваньня рабкораў і селькораў. У шэрагу парторганізацый самакрытыка ня зроблена мэтадам работы і не набыла ў радзе выпадкаў дзейственнасьці. Органы КК—як паказалі Гомельскія справы—ня толькі не заўсёды

сваячасова і рашуча становяцца на шлях разгортваньня самакрытыкі і абароны рабкораў, а нават самі ў паасобных выпадках, прымаючы няверныя рашэньні, зьяўляюцца зажымшчыкамі самакрытыкі, як гэта мела месца ў справах Гомельскіх рабкораў і рэдакцыі газ. „Заря Запада“.

Пленум даручае Прэзыдыуму ЦКК і ўсім КК на прыкладах Гомельскай АКК у далейшым весьці бязьлітасную барацьбу з праваапортуністычнымі скажэньнямі лёзунгу партыі аб самакрытыцы ў правядзеньні генэральнай лініі партыі, ня гледзячы на асобы, асабліва абараняючы рабкораў, селькораў і сьценкораў ад прасьледваньня і траўлі з боку асоб і організацый, рашучым чынам рэагуючы на крытыку ў друку.

12. Адначасова Пленум прызнае, што вопыт організацыі ў газэтах „Лісткоў РСІ“ цалкам сябе апраўдаў, незалежна ад таго, што кіраўніцтва гэтымі лісткамі, як з боку ЦКК, так і з боку АКК было недастатковае пры недастатковай рабоце над лісткамі і з боку саміх рэдакцый газэт.

Пленум адабрае рашэньні ЦКК аб палепшаньні лісткоў у цэнтральных і акруговых газэтах і даручае Прэзыдыуму ЦКК і КК ўдзяляць у далейшым больш увагі сваячасоваму выпуску лісткоў, вызначыўшы ў кожнай КК-РСІ адказнага работніка апарату фактычным рэдактарам лістка, забясьпечыўшы выпуск лісткоў на мэтавыя тэмы ня менш, як 1 раз у 10 дзён. Прэзыдыуму ЦКК і КК пэрыядычна падводзіць вынікі выпуску лісткоў.

13. „ЛК“, організаваная па ініцыятыве камсамолу, як форма масавага ахопу і ўцягненьня пролетарскай моладзі ў соцыялістычнае будаўніцтва і барацьбу з бюрократызмам—сябе апраўдала. Вялізарнейшая дапамога, аказаная „ЛК“ органамі РСІ ў справе барацьбы з скажэньнямі клясавай лініі на паасобных вучастках культуры і гаспадаркі, барацьбы з цяганінай і засьмечанасьцю апарату і зажыму самакрытыкі—сьведчыць аб каштоўнасьці гэтай організацыі ў рабоце КК-РСІ.

Пленум, аднак, лічыць, што кіраўніцтва і дапамога „ЛК“ у рабоце, як з боку КСМ, так і органаў КК-РСІ была недастатковая, што ў значнай меры перашкаджала папярэджаньню выпадкаў скрыўленьня і неразуменьне асобнымі кавалерыстамі і нават атрадамі сваіх задач. Пленум адабрае рашэньне Прэзыдыуму ЦКК па скліканьню і правядзеньню Усебеларускага Зьлёту „ЛК“ і даручае Прэзыдыуму ЦКК і ўсім КК-РСІ цалкам скарыстаць і садзейнічаць ажыцьцяўленьню рашэньняў Усебеларускага Зьлёту „ЛК“.

14. Пленум адзначае, што органы КК-РСІ не скарысталі паказаньня Леніна аб пагалоўным пропуску праз Раб.-Сял. Інспэк. працоўных жанчын і што ў сучасны момант набывае асобную значнасьць, у першую чаргу той часткі, якая організавана ў жаночыя дэлегацкія організацыі, асабліва з ліку работніц, батрачак, калгасьніц-сялянак.

Надаючы вялікую політычную значнасьць добраахвотным дапаможнікам РСІ ў барацьбе з конкрэтнымі выпадкамі бюрократызму, Пленум лічыць неабходным усямерна пашырыць гэту форму масавай працы з тым, каб вялося вывучэньне складу добраахвотнікаў, для вылучэньня лепшых з складу іх у сав. апарат.

Пленум адзначае, што КК-РСІ ня выканалі дырэктыў II Пленуму ЦКК аб рабоце Бюро Скаргаў і ў прыватнасьці—ва ўсіх Б. Скаргаў не вядзецца работы сярод рабочых засядацеляў, а таму даручае ўсім КК-РСІ наглядаць за тым, каб абраныя на заводах засядацелі ня толькі рэгулярна прыцягваліся да работы, але давалі-б пэрыядычна на сваім прадпрыемстве справаздачы аб сваёй дзейнасьці.

У мэтах вярбоўкі новых кадраў добраахвотнікаў з ліку рабочых і батрацка-бядняцкай моладзі сялянства, Пленум лічыць неабходным у большай меры практыкаваць перанясеньне разгляду спраў з мураў РСІ на прадпрыемствы і ў калгасы. Гэтыя выезды адначасова скарыстоўваць для справаздач аб сваёй рабоце. Пленум даручае КК-РСІ выканаць рашэньне II Пленуму аб рабоце Б. Скаргаў.

Даручыць усім КК-РСІ скарыстаць членаў ЦКК і АКК, працуючых на прадпрыемстве па дапамозе ў рабоце і організацыі таго актыву РСІ, які маецца на гэтым прадпрыемстве, як „ЛК“, добраахвотнікі, рабочыя засядацелі, ЧКК, рабкоры і інш.

15. У мэтах утварэньня сталага нагляду за становішчам масавае работы, як па апарату ЦКК-РСІ, так і па акруговым КК-РСІ, Пленум даручае выдзеліць з ліку інструктароў у апараце ЦКК і за лік шт. адз. інспэктароў ва ўсіх КК спэцыяльную пасаду інструктара па кіраўніцтву і нагляду за масавай працай.

16. Пленум даручае гэта рашэньне прапрацаваць на чарговых пленумах АКК і парт'ячэйках.

---

# Аб дзейнасьці Полацкай АКК-РСІ

*(Рэзалюцыя пленуму ЦКК КП(б)Б)*

1. Заслухаўшы даклад аб дзейнасьці Полацкай АКК-РСІ і садаклад абсьледваньня, Пленум ЦКК адзначае, што Полацкая АКК за справаздачны пэрыяд правяло значную працу па чыстцы партыі і савец. апарату ў напрамку належнага кіраўніцтва работай праверкомаў, сваечасовага рэагаваньня на недахопы ў працы іх і выпраўленьня памылак. АКК-РСІ правяла шэраг па-заплянавых праверачных работ і асобных заданьняў НКРСІ (праверка падрыхтоўкі пасеўнай кампаніі, будаўнічага сэзону, абсьледваньне дзейнасьці паасобных гаспадарчых установ—«Дзьвіналес», Дзяржгандальбел і інш.).

Побач з гэтым, значным недахопам у дзейнасьці Полацкай АКК-РСІ зьяўляецца адсутнічаньне пэўнай сыстэмы і плянавасьці ў рабоце, дзякуючы чаму цэлы шэраг задач, якія стаяць перад органамі КК-РСІ, недастаткова, ці зусім ня выкананы.

2. Абсьледваньне дзейнасьці Полацкай АКК-РСІ, чыстка партыі і савапарату паказалі, што правядзеньне лёзунгу партыі аб крытыцы і

самакрытыцы ў Полацкай парторганізацыі трэба прызнаць нездавальняючым. Шэраг фактаў і спраў, прайшоўшых у АКК-РСІ, ня былі дастаткова скарыстаны, каб сапраўды падняць самакрытыку на належную вышыню, ня было рашучасьці ў пастаноўцы пытаньня і прыцягненьня да адказнасьці віноўных у парушэньні дырэктыў партыі аб самакрытыцы; адсутнічала пэўная сыстэма па рэагаваньні на газэтныя заметкі; ня было належнай сувязі з рабселькорамі ў сэнсе прыцягненьня іх да актыўнай працы ў АКК-РСІ і аказаньня ім усямернай дапамогі.

Пленум ЦКК прапануе АКК перабудаваць сваю працу ў напрамку большай сувязі з рабочымі масамі, выкарыстаць самакрытыку, як асноўны мэтод сваёй працы, узмацніць сувязь з рабселькорамі, організаваць сталае рэагаваньне на газэтныя заметкі і праверку рэагаваньня і дзейнасьці самакрытыкі ва ўстановах і прадпрыемствах; паставіць хуткае рэагаваньне АКК-РСІ і сьледчых органаў на выпадкі прасьледваньня за крытыку, якія наглядаюцца ў Полацкай акрузе. Прапанаваць АКК-РСІ сыстэматычна займацца праверкай правядзеньня лёзунгу самакрытыкі, дабіваючыся, каб гэтым асноўным мэтодам была прапітана праца ўсіх парт., проф., і сав. органаў.

3. Полацкай АКК-РСІ быў выкрыты цэлы шэраг спраў права-апортуністычнай дзейнасьці ў паасобных савецкіх органах, аднак, Пленум ЦКК паказвае Полацкай АКК на незаўсёды сваечасовае рэагаваньне на факты скрыўленьня клясавай лініі і недастаткова рашучую барацьбу з гэтымі праявамі (Акрсуд, Пракуратура, Акрсельсаюз і інш.).

Чыстка партыі ў Полацкай акрузе паказала, што частка парт'ячэек досыць часта ня здольна весьці рашучую барацьбу з скажэньнямі клясавай лініі на практыцы.

Усё гэта патрабуе ад АКК у далейшым сваечасовага рэагаваньня на гэтыя факты, самай рашучай і жорсткай барацьбы з ухіламі ад генэральнай лініі партыі, як права-апортуністычным, гэтак і контр-рэвалюцыйным троцкізмам і прымірэнцтвам да яго, у якой-бы форме яны не праяўляліся.

АКК неабходна дабівацца, каб кожная партыйная ячэйка і паасобны камуністы ажыцьцяўлялі на справе чоткую, клясавую, бальшавіцкую лінію, рашуча крытыкавалі-б усякія скажэньні клясавай лініі, вялі-б неаслабную барацьбу супроць эмыканьня паасобных камуністых, ці паасобных зьвеньняў нашага апарату з варожымі справе соцыялістычнага будаўніцтва элемэнтамі.

4. Канстатуючы значныя дасягненьні, якія маюцца ў Полацкай АКК у справе чысткі партыі, якая садзейнічала, пры ўзмацненьні разгортваньня самакрытыкі, выяўленьню цэлага шэрагу хваравітых зьявішч у дзейнасьці паасобных організацый, парт'ячэек і камуністых, аднак, трэба адзначыць слабасьць работы некаторых праверкомаў, якія не змаглі даць належнай характарыстыкі становішча паасобных парт. організацый, найбольш рэльефна вызначыць і падкрэсьліць перад імі асноўныя задачы, на якіх завострывае ўвагу партыя ў сучасны момант. У ходзе праверкі і чысткі парторганізацыі ня была разгорнута ў дастатковай меры праца па вярбоўцы новых членаў партыі.

У далейшым неабходна АКК зьвярнуць увагу на хуткае выпраўленьне тых недахопаў у парторганізацыях, якія выяўлены чысткай, абагуліць вынікі праверкі і даць аналіз хваравітых зьявішч, як па паасобных пытаньнях, так і ў парторганізацыі ў цэлым; наладзіць сталую праверку выкананьня дырэктыў, дадзеных праверкомамі парт'ячэйкам, і сыстэматычную праверку правядзеньня найбольш важных партдырэктыў у паасобных парторганізацыях, пры гэтым асабліва жорстка змагаючыся з парушэньнямі ўнутры-партыйнай дэмократыі.

5. Канстатуючы, што ў дзейнасьці Полацкай АКК маецца правільны выхаваўчы мэтод пры разглядзе партспраў, у залежнасьці ад соцыяльнай прыналежнасьці правяраемага; значная колькасьць выездаў на месцы праттроек для разгляду партспраў, што зьяўляецца дадатным, але Пленум ЦКК зьвяртае ўвагу АКК на тое, што на падставе разгледжаньня партспраў АКК не рабіла адпаведнага аналізу хваравітых зьявішч і абагуленьня вынікаў з мэтаю завастрэньня ўвагі ўсёй парторганізацыі і паасобных ячэек навакол гэтых хваробных зьявішч, значны процант адсутнічаючых пры разглядзе партспраў (33 проц.),—усе гэтыя недахопы ў далейшым павінны быць АКК зжыты.

6. У масавай рабоце АКК-РСІ, ня гледзячы на колькаснае павялічэньне прыцягнутых рабочых (з 335 у мінулым да 473 у сучасны момант), на павялічэньне праведзеных сходаў па пытаньні працы АКК-РСІ (з 41 у мінулым да 91 у сучасны момант), павялічэньне зьмешчаных артыкулаў у друку, усё-ж такі маюцца нездавальняючыя моманты, якія Пленум ЦКК прапануе АКК у далейшым зьнішчыць, менавіта:

а) не даецца самастойных даручэньняў для праверкі выкананьня дырэктыў масавым організацыям;

б) недастаткова абіраюцца брыгады рабочых і выдзяляюцца часовыя кантрольныя камісіі на агульных сходах рабочых;

в) адсутнічае масавы вучот працы і асабліва сталага, праверанага на працы КК-РСІ—актыву для вылучэньня яго ў далейшым на працу ў сав. установы;

г) слабае, часам зусім адсутнічае—інструктаваньне масавых організацый (вытворчых і эканомкамісій, час. кантрол. камісій і інш.), па даваемых ім АКК-РСІ заданьням;

д) прыцягненьне ў працу АКК-РСІ ў большасьці ідзе за лік актыву парт. і проф. і недастаткова за лік рабочых ад варштату, абраных на агульных сходах;

е) АКК-РСІ скарыстаць у сваёй працы, як лепшую форму прыцягненьня рабочых мас—шэфства апошніх над савецкім апаратам.

7. АКК-РСІ ў сваёй рабоце недастаткова завастрыла ўвагу на барацьбу з бюрократызмам. Ня было ніводнае грамадзка-паказальнае справы, якая-б завастрыла ўвагу партыйных і шырокіх беспартыйных мас на барацьбу з бюрократызмам. Прайшоўшая праверка савецкіх

ячэек паказвае, што апошнія не зьяўляюцца актыўнымі змагарамі ў справе палепшаньня дзяржапарату і зьнішчэньня ўсялякіх праяў бюрократызму і адпору чыноўнічым элемэнтам. Зусім не надана палітычнае значэньне барацьбе з бюрократызмам, аб чым гаворыць XVI партконфэрэнцыя: «Борьба партии и советов с бюрократическими извращениями гос. аппарата, нередко заслоняющими от широких масс трудящихся действительную природу пролетарского государства, становится одной из важнейших форм классовой борьбы».

Нават колькаснае праходжаньне спраў аб бюрократызьме ва ўсёй дзейнасьці АКК-РСІ паказвае зусім нязначную працу ў гэтым напрамку.

Полацкай АКК у далейшым неабходна ўзьняць на належную вышыню сваю працу па барацьбе з бюрократызмам і насіцелямі яго «ня гледзячы на асобы». Пэрыядычна інфармаваць пра факты бюрократызму, працоўныя масы, не чакаючы агульных справаздач, дакладаў, мобілізуючы гэткім чынам масу на барацьбу з бюрократызмам. Устанавіць сталы нагляд за друкам, за сваечасовым і належным рэагаваньнем на заметкі, жорстка караць тых, хто не рэагуе на заметкі, ці рэагуе бюрократычна, і шырока асьвятляць гэтыя факты праз друк.

8. Вялікі ўзрост скаргаў, паступіўшых у Полацкую АКК-РСІ (1.014 скаргаў, у мінулым 494) сьведчыць аб узрастаючай папулярызацыі органаў КК-РСІ. Аднак, у сэнсе ўцягненьня мас і добраахвотнікаў у работу Б. Скаргаў (дача паасобных даручэньняў і скаргаў для расьсьледваньня і г. д.), дзейнасьць Полацкага Б. Скаргаў не адпавядае задачам, якія пастаўлены перад органамі КК-РСІ наогул і ў прыватнасьці—перад Б. Скаргаў. За абсьледуемы пэрыяд, акрамя прыцягненьня рабочых заседацеляў, як сталага інстытуту,—іншыя сталыя масавыя організацыі ў працу ня ўцягнуты.

Адсутнічае належны аналіз паступіўшых і разгледжаных скаргаў, з мэтаю пастаноўкі паасобных пытаньняў на Калегіі РСІ і Прэзыдыуму АКК аб сыстэме работы тых ці інш. сав. органаў, аб чым прапануецца пастановаю ІІ-га Пленуму ЦКК аб рабоце Б. Скаргаў.

Нязначная колькасьць выездаў Бюро Скаргаў непасрэдна на прадпрыемствы, установы (тры разы) і адсутнічае сувязь з Домам Селяніна, хоць пераважная колькасьць скаргаў паступіла ад сялян.

Пленум ЦКК катэгорычна прапануе выканаць дырэктыву ІІ-га Пленуму ЦКК КП(б)Б аб дзейнасьці Б. Скаргаў, якія да гэтага часу ня выкананы, менавіта: на сыстэматычным вывучэньні і абагуленьні паасобных пытаньняў, на падставе разгляду скаргаў працоўных, пастаноўка гэтых пытаньняў перад Прэзыдыумам АКК і Калегіяй РСІ; організацыі адчыненых паседжаньняў Б. С. на прадпрыемствах, выезду ў калгасы і саўгасы, сувязі з Домам Селяніна; асьвятленьне дзейнасьці Б. С. у друку і на масавых сходах і справаздачнасьць заседацеляў перад абраўшымі іх рабочымі сходамі.

9. Хаця Полацкая АКК і займалася паасобнымі фактамі, зьвязанымі з правядзеньнем беларусізацыі, аднак, не завастрыла гэтага пытаньня перад парторганізацыяй ў цэлым. Ня выкарыстаны таксама ў гэтым напрамку і факты антысэмітызму, якія назіраліся ў значнай меры ў Полацкай акрузе. Пленум ЦКК прапануе Полацкай АКК з усёй рашучасьцю завастрыць увагу організацыі на барацьбу з ухіламі і праявамі апортунізму ў нац. пытаньні, праявамі антысэмітызму, шовінізму і нацыянал-дэмократызму. У далейшым праводзіць праверку выкананьня дырэктыў партыі па беларусізацыі ў акрузе, прыцягваючы да адказнасьці асоб і кіраўнікоў ўстаноў, праяўляючых супраціўленьне ў гэтым пытаньні.

10. Сэкцыя РСІ пры Горсавеце працуе слаба, амаль ніводная пачатая справа ня скончана. Кіраўніцтва, як з боку Горсавету, так і Полацкай РСІ ня было. Сэкцыя прымяняла няправільны мэтод ў сваёй рабоце, заслухоўваючы даклады ўстаноў без папярэдніх абсьледваньняў. Разборам скаргаў Сэкцыі РСІ не займалася, ня ўцягнуты масы ў працу сэкцыі. Камісіі РСІ пры РВК і сельсаветах амаль не працуюць. АКК-РСІ гэтымі камісіямі РСІ не кіравала. Пытаньні аб організацыі камісій і іх працы недастаткова папулярызаваліся на вёсцы. Належнай увагі з боку парт. і сав. органаў па ажыцьцяўленьні кіраўніцтва камісіямі РСІ пры РВК і сельсаветах, як нізавымі органамі масавага кантролю—ня было. АКК ня выканала дырэктывы ЦКК-РСІ аб выбарчым абсьледваньні працы камісій пры РВК і с/с. у 1929 г. Задачы, што ўскладаюцца на сэкцыі РСІ пры Горсавеце і камісіі РСІ пры РВК і с/с. аб наладжваньні работы і прыцягненьні мас—у Полацкай акрузе застаюцца нявыкананымі.

Пленум ЦКК прапануе АКК зьвярнуць асаблівую ўвагу на працу камісій РСІ пры РВК і с/с., уцягваючы ў працу гэтых камісій групы беднаты, калгасьнікаў, грамадзкіх актывістаў. Праводзіць пэрыядычна інструктаваньне і дапамагаць ім у рабоце.

11. Рацыяналізатарскай і самарацыяналізатарскай працай АКК-РСІ па сутнасьці не займалася. Ня было таксама з боку АКК штодзённага падштурхоўваньня такіх грамадзкіх інстытутаў, якія фактычна павінны займацца пастаноўкай самарацыяналізатарскай працы ва ўстановах, як ЭК, Бюро і эканомнарады, а гэта павінна было займаць у дзейнасьці АКК-РСІ—пры адсутнасьці ў самой АКК належных працаўнікоў па рацыяналізацыі—галоўнае месца.

Дырэктывы партыі і ўраду аб 20 проц. зьніжэньні адм.-гаспад. выдаткаў ня выкананы, віноўныя ў парушэньні гэтай дырэктывы ня былі прыцягнуты да адказнасьці.

У далейшым АКК-РСІ ўстановіць большую сувязь з профсаюзамі ў сваёй рабоце па барацьбе з бюрократызмам і правядзеньні рацыяналізацыі савецкага апарату і вытворчасьці (з ЭК і вытворчымі камісіямі), зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на выкананьне дырэктыў XVI партконфэрэнцыі аб уцягненьні ў справу рацыяналізацыі сав. ячэйкі, праводзячы з імі па гэтым пытаньням пэрыядычныя нарады.

12. Праверка выкананьня дырэктыў органаў КК-РСІ ў цэлым і ў прыватнасьці АКК-РСІ

(Прэзыдыуму КК, Калегіі РСІ, Бюро Скаргаў) сыстэматычна організавана ня было; ёсьць цэлы шэраг пастаноў, па якіх абсолютна невядомы вынікі выкананьня; па шэрагу пытаньняў організаваны камісіі, якія не працавалі (аб камітэтах узаемадапамогі, па рэагаваньні на заметкі, аб праверцы выкарыстоўваньня скампрамэтаваных сябе на працы і г. д.), нават была спэцыяльная пастанова Прэзыдыуму АКК аб праверцы сваіх дырэктыў і таксама засталася ня выкананай, у даным выпадку зусім ня выкананы дырэктывы ЦКК-РСІ аб прыцягненьні да праверкі мас і масавых організацый.

Прапанаваць АКК прыступіць неадкладна да організацыі сыстэмы праверкі выкананьня праз даручэньні праверкі масавым організацыям, згодна лісту ЦКК НКРСІ СССР і ЎсеЦСПС пры вынясеньні рашэньняў на Прэзыдыуме АКК і Калегіі РСІ па найбольш важным пытаньням—вызначыць тэрмін выкананьня і каму даручаецца праверка (прафсаюзы, эканом. і вытворчыя камісіі, ЧКК, парт. і камс. яч. і інш.), прыцягваючы прадстаўнікоў гэтых організацый на паседжаньні АКК-РСІ і пасылаючы ім свае пастановы.

13. З боку АКК-РСІ была ўдзелена значная ўвага чыстцы сав. апарату з шырокім уцягненьнем рабочых мас. Адначасова трэба адзначыць, што асноўны недахоп у гэтай працы— гэта зацяжка чысткі раён. сав. апарату і адсутнічаньне сталай дапамогі з боку партыйных і савецкіх організацый у цэлым.

У далейшым неабходна паскорыць тэмп праверкі чысткі савецкага апарату, асабліва раённага, ні ў якім разе не паслабляючы прыцягненьня рабочых і наогул працоўных мас. Побач з чысткай савецкага апарату, зьвярнуць асаблівую ўвагу на палепшаньне працы і сыстэмы савецкага апарату, рацыяналізацыі яго і скарачэньне штатаў.

14. Прапанаваць АКК у большай меры ўносіць пытаньні савецкага характару, прапрацоўваныя ў АКК-РСІ і зьяўляючыся найбольш важнымі дырэктывамі ў працы нізавога савецкага апарату для абгаварэньня на Прэзыдыуме АВК і фракцыі АВК з мэтаю завастрэньня ўвагі ўсіх савецкіх органаў акругі на гэтых пытаньнях. Дзеля большай увязкі працы РСІ з агульным плянам АВК—лічыць неабходным, каб плян працы РСІ ўзгадняўся з АВК.

15. Пленум ЦКК лічыць неабходным, каб у бліжэйшы час Полацкая АКК-РСІ згрупавала сваю ўвагу вакол чарговых задач партыі, як правядзеньне колектывізацыі вёскі, а ў зьвязку з гэтым і ліквідацыі кулацтва, як клясы, выкананьне промфінпляну, праверка правядзеньня пасеўкампаніі, ажыцьцяўленьне задачы па пашырэньні жывёлагадоўлі ў акрузе, разьвіцьцё саматужнай прамысловасьці, спажываньне рабочых, праверка падрыхтоўкі і выкананьня будаўніцтва ў акрузе, правядзеньне соцспаборніцтва і зьніжэньне сабекошту прадукцыі; праверка чоткасьці працы паасобных зьвеньняў сав. апарату.

У зьвязку з ліквідацыяй фінкантролю, АКК-РСІ зьвярнуць асаблівую ўвагу на організацыю грамадзкага кантролю, прыцягваючы да гэтага сталыя інстытуты, як ЭК, вытворчыя камісіі, сав. яч. КП(б)Б і КСМ і організацыю Час. Кантр. Камісіі, абраных на агульных сходах рабочых.

# РЭЗАЛЮЦЫЯ

## па дакладу Бюро Скаргаў НК-РСІ БССР

*(ад 3 сакавіка 1930 г.)*

1. Лічыць, што на падставе дырэктыў II-га Пленуму ЦКК КП(б)Бел. ад 3-га сакавіка г. г. па пытаньню аб барацьбе з бюрократызмам і валакітай, у працы Бюро Скаргаў маюцца наступныя дасягненьні:

а) праведзены сходы на рабочых прадпрыемствах, дзе былі пастаўлены справаздачы Бюро Скаргаў, абраны рабочыя заседацелі для ўдзелу ў працы Бюро Скаргаў;

б) уцягнут у працу актыў ад камсамольскіх ячэек, прафорганаў, рэв. каміс., рабкораў, ад Гарсавету, а таксама член ЦКК і партзаседацелі;

в) праведзена 48 паседжаньняў з удзелам рабочых заседацеляў, на якіх разгледжана 354 справы (з іх на прадпрыемствах было 9 паседжаньняў).

г) палепшана праца па прыёму наведвацеляў, якія асабіста зварочваюцца ў Бюро Скаргаў па рознастойным пытаньням, шляхам свечасовага рэагаваньня праз адпаведныя ўстановы;

д) палепшана сувязь з пракуратурай і рэдакцыямі газэт, што дало магчымасьць у большай частцы зьнішчыць існуючы паралелізм паміж працай Бюро Скаргаў, Пракукуратуры і рэдакцыямі, у выніку чаго тэрмін праходжаньня скаргаў значна скараціўся.

2. Побач з гэтым адзначыць наступныя недахопы:

а) недастатковае асьвятленьне ў друку дзейнасьці як ЦБС, таксама і акруговых і недастатковае вывучэньне і абагуленьне паступаючага матар'ялу ў Бюро Скаргаў;

б) недастатковае рэагаваньне некаторых устаноў на запытаньне Бюро Скаргаў і фармальныя адпіскі, тэрмін праходжаньня скаргаў, зьвязаных з асьвятленьнем праз іншыя ўстановы, зьяўляецца вялікім.

в) недастатковая праца па арганізацыі кіраўніцтва прыцягваемых у працу Бюро Скаргаў рабочых членаў саюзу, слабае разгортваньне адчыненых пасяджэньняў па разгляду скаргаў на прадпрыемствах.

3. У далейшай рабоце прапанаваць Бюро Скаргаў НКРСІ, а таксама і Акр. Бюро Скаргаў:

а) дабіцца найкарацейшага тэрміну праходжаньня скаргаў, прыцягваючы да адказнасьці асоб за несваечасовы адказ на запытаньне Бюро Скаргаў;

б) узмацніць кіраваньне рабочымі заседацелямі, дабраахвотнікамі і актывам, больш уцягваючы іх у практычную працу па высьвятленьню паступаючых скаргаў;

в) дабіцца дэталёвага вывучэньня і абагуленьня паступаючага матар'ялу ў Бюро Скаргаў для мэты прапрацоўкі практычных вывадаў;

г) шырэй асьвятляць дзейнасьць Бюро Скаргаў у друку шляхам зьмяшчэньня ў мясцовых газэтах пастаноў Бюро Скаргаў і вынікаў расьсьледваньня па паступаючым скаргам;

д) практыкаваць і далей разгляд характэрных скаргаў, на прадпрыемствах і сялянскіх сходах, а таксама пэрыядычна рабіць справаздачы аб рабоце Бюро Скаргаў перад рабочымі і сялянскімі масамі і ў першую чаргу ў тых мясцовасьцях, адкуль найбольш паступае скаргаў;

Даручыць Прэзыдыуму ЦКК распрацаваць мерапрыёмствы па палепшаньню прыёму наведавацеляў ва ўстановах і на прадпрыёмствах, таксама па атрыманьню неабходных справак.



# ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК

ОРГАН ЦККП(б)Б

**АБАГУЛЬВАЕ** вопыт партыйнай работы, зьмяшчае кіраўнічыя артыкулы па партыйным будаўніцтве і пытаньнях гаспадарчай і культурнай работы з пункту гледжаньня партыйнага кіраўніцтва.

**ВЫВУЧАЕ** вопыт і практыку партыйнай работы на мясцох, асьвятляе работу нізавых партыйных арганізацый, абгаварвае мэтады і задачы партыйнай работы, высьвятляе дадатны вопыт работы і пераносіць яго ва ўсе ячэйкі КП(б)Б.

**ДАЕ** ўсе неабходныя для партыйнага работніка, агітатара і прапагандыстага матар'ялы—факты, лічбы па пытаньнях бягучай працы.

**ДАПАМАГАЕ** ў практычнай рабоце нізавым кадрам партработнікаў, сакратаром і агітпропам, членам бюро ячэек, кіраўнікам парт. асьветы, групоргам, цэхоргам, зьвеноргам і інш.

**АСЬВЯТЛЯЕ** чарговыя пытаньні камсамольскай работы з пункту гледжаньня партыйнага кіраўніцтва.

**СТАВІЦЬ** на абгаварэньне новыя пытаньні партыйнай работы і кіраўніцтва, высьвятляе новыя формы партыйнай і масавай работы ў пэрыяд сацыялістычнай рэканструкцыі.

**РЭГУЛЯРНА** зьмяшчае крытыку і бібліяграфію літаратуры па пытаньнях партыйнага будаўніцтва і масавай работы ў горадзе і вёсцы.

**ЗЬМЯШЧАЕ** партыйныя дырэктывы па важнейшых пытаньнях.

**Кожная гарадзкая і вясковая партыйная і камсамольская ячэйка, кожны агітатар, прапагандысты, цэхавы, групавы і зьvenавы арганізатар, кожны партыйны актывісты— павінен падпісацца на часопісь**

**„ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК“.**

Цана 15 кап.